Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літ
Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 43 (4638) 28 кастрычніка 2011 г.

## У нумары:












## Аляксандр ЛУКАШЭНКА:

# «Чытач чакае сур'ёзных твораў…»

Кастусь ЛАДУЦЬКА

**25 кастрычніка адбылася сустрэча Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Рыгоравіча ЛУКАШЭНКІ з групай беларускіх пісьменнікаў.**



Фота БелТА

На мінулым тыдні прайшоў другі з'езд Саюза пісьменнікаў Беларусі, на якім было агучана і прывітальнае слова кіраўніка нашай дзяржавы. І літаральна праз некалькі дзён Прэзідэнт нашай краіны прыняў групу пісьменнікаў у сваёй Рэзідэнцыі. Размова пра надзённыя клопаты ў жыцці літаратуры, айчынным кнігавыданні, ды і ўвогуле ў сацыяльным, грамадскім жыцці краіны доўжылася больш як дзве гадзіны.

Аляксандр Рыгоравіч выклаў свае ўласныя погляды на сучасную літаратуру, выразна адзначыў, што мастацкае слова знаходзіцца ў полі яго пільнага зроку, што і яму асабіста не падабаюцца тыя працэсы, што скіраваны на змяншэнне ўплыву кніг на выхаванне чалавека і ўсяго грамадства. Лідар нашай краіны працытаваў словы сусветна вядомага класіка рускай літаратуры Максіма Горкага: "Усім добрым ува мне я абавязаны кнізе". І далей зазначыў: "Гэта крылатая фраза як нельга лепш характарызуе месца, якое літаратура займае ў жыцці грамадства. Яшчэ ад Кірылы Тураўскага ідзе традыцыя глыбокай павагі да кніжных ведаў".

Несумненна, неаднойчы ў дыялогу Прэзідэнта і пісьменнікаў у той ці іншай форме гучала пытанне: а што ж канкрэтна, якія творы магчыма супрацьпаставіць абездухоўленасці, агрэсіўнаму разбурэнню маральных, гуманістычных прыярытэтаў? І ні для каго не сакрэт, што дзяржаўная бяспека ў духоўнай сферы залежыць ад кнігі, ке зместу, ад таго, наколькі мы застаёмся чытаючай нацыяй. На вялікі жаль, такія пытанні павісалі ў паветры… Прычына на тое зразумелая: у багатай на творы і творцаў сучаснай беларускай літаратуры няма таго яркага бестселера, пра сустрэчу з якім марыць айчынны чытач. І калі яго нейкая кніга ўсё ж такі ўзрушвае, то, як правіла, гэта твор расійскага ці іншай краіны пісьменніка. Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Іванавіч Чаргінец у першыя хвіліны размовы зазначыў, звяртаючыся да Прэзідэнта: "Мы ўспрымаем вашу крытыку…" Але і кіраўнік пісьменніцкай грамады, і ўсе прысутныя пачулі з вуснаў Аляксандра Рыгоравіча літаральна наступнае: "У мяне няма крытыкі. У мяне ёсць боль. Я страшна баюся згубіць кнігу… Тым, што я стаў Прэзідэнтам, я абавязаны і кнізе…" Выклаўшы свае ўласныя меркаванні пра патрэбу важных для выхавання і кансалідацыі грамадства мастацкіх твораў, Прэзідэнт адзначыў і права пісьменнікаў на свабоду творчасці. "Мне не трэба Саюз пісьменнікаў недзе палітычна выкарыстоўваць, я ніколі не стану "ламаць" інтэлігенцыю…" Іншая справа, што і пісьменнікі, якія працуюць у сферы дзяржаўных інтарэсаў, павінны разумець: наўрад ці правільна жыць за кошт усенародных выдаткаў, атрымліваць нешта з дзяржаўнай кішэні і разам з тым выкладаць, адлюстроўваць у творчасці пазіцыю, прама супрацьлеглую дзяржаўным інтарэсам. Ці ёсць такія прыклады?.. Старшыня СПБ Мікалай Чаргінец агучыў, што ёсць. У свой час, падтрымаўшы ідэю стварэння Саюза пісьменнікаў Беларусі, Прэзідэнт краіны акрэсліў і гэтае пытанне. Хапала розных "свядомых", якія размянялі свае таленты на замежныя гранты, у сваіх опусах імкнуліся абліваць брудам родную краіну, а следам падбухторвалі моладзь да бессэнсоўных бунтаў. І аддаваць культуру на ганьбу адшчапенцам было нельга. Новы Саюз, і гэта паказаў час, здолеў аб'яднаць здаровыя сілы, стварыў і стройную сістэму ўзаемаадносін пісьменніка і ўлады, пісьменніка і грамадства. Вядучы размову пра гэта, Прэзідэнт падкрэсліў, што наперадзе ў творчай арганізацыі павінны быць болей амбіцыйныя мэты: адрадзіць былую славу беларускай літаратуры, узняць яе на новы мастацкі ўзровень, варты такіх выдатных майстроў слова, як Якуб Колас, Янка Купала, Максім Танк, Іван Мележ, Іван Шамякін і іншыя.

Вага і аўтарытэт пісьменніцкай працы, безумоўна, залежаць і ад сацыяльнай, грамадскай актыўнасці кожнага з літаратараў. Ад здольнасці пісьменніка ў патрэбную хвіліну падтрымаць уладу. Старшыня Віцебскага абласнога аддзялення СПБ паэтэса Тамара Краснова-Гусачэнка расказала пра многія ініцыятывы ў літаратурным жыцці на Віцебшчыне, пра тое, што паэты і празаікі — частыя госці ў самых розных аўдыторыях. І выказала некаторае шкадаванне, што ідэалагічныя работнікі не выкарыстоўваюць пісьменніцкі досвед, палымянае мастацкае слова напоўніцу. А ёсць жа і таварыства "Веды", па лініі якога літаратары часцей маглі б выступаць перад самымі рознымі аўдыторыямі. Прэзідэнт вельмі станоўча адгукнуўся на гэткую пастаноўку пытання і звярнуў увагу Адміністрацыі на слушную заўвагу. З цікавасцю слухаў Аляксандр Рыгоравіч вельмі эмацыянальную прамову ветэрана Вялікай Айчыннай вайны, празаіка Алеся Савіцкага. Вядомы ў краіне і за яе межамі літаратар спыніўся на вартасцях патрыятычнага выхавання моладзі. У СПБ склаўся цікавы вопыт, калі да правядзення "Урокаў мужнасці" ў Доме літаратара ў Мінску запрашаюцца гарадскія школьнікі. І прыходзяць яны ўжо падрыхтаванымі чытачамі. Так было, у прыватнасці, і тады, калі ў мемарыяльнай зале СПБ ля фотаздымкаў дзясяткаў пісьменнікаў-франтавікоў абмяркоўваўся раман Алеся Савіцкага "Обаль" — прысвечаны твор гераічным камсамольцам-падпольшчыкам, якія дзейнічалі ў пасёлку Обаль Віцебскай вобласці ў час Вялікай Айчыннай вайны. Подзвігі гэтых маладых людзей не меней значныя, чым гераічныя справы славутых краснадонскіх маладагвардзейцаў, вядомых па рамане Аляксандра Фадзеева. Цяпер раман Алеся Савіцкага "Обаль" рыхтуецца да перавыдання ў РВУ "Літаратура і Мастацтва". Важна, каб твор дайшоў да болей шырокага кола чытачоў. І найперш — да моладзі.

Галоўны рэдактар часопіса "Маладосць" Таццяна Сівец звярнула ўвагу на тое, што ў апошні час літаратурна-мастацкі часопіс для моладзі адкрыў шэраг цікавых імёнаў. Твары маладых паэтаў, празаікаў — на вокладцы кожнага з нумароў выдання. Надзея Статкевіч, Маргарыта

(Заканчэнне на 2-й стар.)

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

Латышкевіч, Арцём Кавалеўскі і іншыя ўжо засведчылі сябе мастацкімі адкрыццямі. Але, відавочна, іх шлях да трывалых стасункаў з чытачом, да таго, каб заняць у свядомасці цікаўных да літаратуры месца Анатоля Сербантовіча, Яўгеніі Янішчыц, Анатоля Грачанікава, Алеся Пісьмянкова яшчэ дастаткова доўгі. Як падтрымаць іх на гэтым шляху? Магчыма, у такім выпадку дзяржава возьме на сябе і поўны клопат пра выданне іх кніг, а следам і мас-медыйную "раскрутку" найболей знакавых персон у асяродку літаратурнай моладзі? Ёсць жа яшчэ і масавая арганізацыя Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі, якой, магчыма, таксама варта звярнуць увагу на літаратуру маладых. І не абавязкова падтрымка павінна быць скіравана на многія кнігі і імёны. Няхай 4 ці 6 празаікаў, паэтаў у год будуць заўважаны асабліва. Няхай менавіта такая падтрымка некалькіх найболей вартых будзе арыенцірам для творчага

# Аляксандр ЛУКАШЭНКА:
# «Чытач чакае сур'ёзных твораў…»

росту астатніх. Удзел у сустрэчы Прэзідэнта з пісьменнікамі прымалі кіраўнікі міністэрстваў — інфармацыі, культуры, адукацыі. А таксама — першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандр Міхайлавіч Радзькоў, віцэ-прэм'ер беларускага ўрада Анатоль Афанасьевіч Тозік. І, відавочна, многія з агучаных прапаноў стануць прадметам сур'ёзнага разгляду ў адпаведных міністэрствах і ведамствах.

На сустрэчы было падкрэслена і тое, што за мінулыя пяць гадоў з рэспубліканскага бюджэту на падтрымку айчыннага кнігавыдання было выдзелена больш як 16 мільярдаў рублёў. З улікам гэтай датацыі для пакупніка зніжаны кошт амаль 500 кніг. Падтрымліваецца сістэма дзяржаўнай літаратурна-мастацкай перыёдыкі. Адноўлены выпуск кніг серыі "Школьная бібліятэка", якія бясплатна паступаюць ва ўстановы сістэмы адукацыі. Прэзідэнт краіны заўважыў і наступнае: "У сучаснай беларускай літаратуры не павінна быць цэнзуры або забароненых тэм, акрамя, зразумела, антыгуманных і антымаральных… Чытач чакае сур'ёзных твораў… На самай справе беларускі народ выстаяў перад тварам многіх трагедый, войнаў і катастроф. Менавіта характар чалавека, яго духоўныя сілы заўсёды былі ў цэнтры самых значных мастацкіх твораў. І сёння востра стаіць праблема героя-сучасніка".

Эмацыянальным і нечаканым сталася выступленне на сустрэчы выкладчыцы Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта Вольгі Коваль, якая ў вольны час піша вершы і праводзіць заняткі ў літаратурным гуртку, аб'ядноўвае вакол сябе творчую моладзь. Янка Купала, нагадала яна, свае першыя кнігі выдаваў за свой кошт і за сродкі мецэнатаў, якіх сам адшукваў. Вольга Коваль лічыць, што літаратуру трэба падтрымліваць не прамым укладаннем сродкаў, а неяк інакш. Так, каб падтрымка стымулявала нараджэнне таленавітых твораў. Прэзідэнт падтрымаў маладую паэтэсу, яе настрой. І разам з тым на сустрэчы было адзначана, што ўсё таленавітае, тое, што знойдзе станоўчы водгук у грамадстве, будзе мець істотную дзяржаўную падтрымку. Яна будзе аказана і многім ініцыятывам творчай арганізацыі, звязанай з дзейнасцю Саюза пісьменнікаў Беларусі. Засталося галоўнае — настойліва і апантана працаваць, шукаць той адзіны і галоўны твор, які для кожнага з нераўнадушных талентаў павінен быць мэтай жыцця.

## Афіцыйна

**Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка 26 кастрычніка падпісаў Указ, згодна з якім вялікая група грамадзян ўганаравана дзяржаўнымі ўзнагародамі.**

Ордэнам Айчыны III ступені ўзнагароджаны галоўны рэдактар установы Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "Рэдакцыя газеты "Советская Белоруссия" Павел Якубовіч.

Ордэнам Пашаны ўганараваны 3 чалавекі. У тым ліку — загадчык аддзела металазнаўства дзяржаўнай навуковай установы "Фізіка-тэхнічны інстытут Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі" Станіслаў Астапчык і галоўны рэдактар установы "Рэдакцыя газеты "Рэспубліка" Анатоль Лемяшонак.

Ордэнам Францыска Скарыны ўзнагароджаны намеснік генеральнага дырэктара ЗАТ "Сталічнае тэлебачанне" Людміла Кавалёва і першы намеснік галоўнага рэдактара ўстановы Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "Рэдакцыя газеты "Советская Белоруссия" Міхаіл Лябедзік.

Медалём "За працоўныя заслугі" ўзнагароджаны 39 чалавек. Сярод іх — дэкан біялагічнага факультэта БДУ Уладзімір Лысак, начальнік галоўнага ўпраўлення вучэбнай і навукова-метадычнай работы БДУ Людміла Хухлындзіна.

Медалём Францыска Скарыны ўзнагароджаны 14 чалавек, у тым ліку дырэктар дзяржаўнай установы адукацыі "Інстытут бізнесу і менеджменту тэхналогій" БДУ Уладзімір Апанасовіч, першы прарэктар БДУ Міхаіл Жураўкоў, намеснік дырэктара дырэкцыі мастацкіх праграм ЗАТ "Сталічнае тэлебачанне" Кацярына Забянько, аглядальнік установы Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "Рэдакцыя газеты "Советская Белоруссия" Ігар Кольчанка.

Акрамя таго, прысвоены ганаровыя званні Рэспублікі Беларусь. У тым ліку ганаровае званне "Народны артыст Беларусі" прысвоена вядучаму майстру сцэны Беларускага дзяржаўнага маладзёжнага тэатра Сяргею Жураўлю.

**БелТА**

## Круглы стол

# Змаганне з шоуцэнтрызмам?

**Ірына ТУЛУПАВА**

**Пытанне гэта надзіва актуальнае і ў штодзённым клапатлівым жыцці, а калі размова ідзе пра творчасць пачаткоўцаў, то яно можа стаць якраз тым каменьчыкам, на якім надта ж нязручна пачуваецца творцу.**

Што яму дапаможа ў моры сучаснай літаратуры, якая спалучае традыцыі і наватарства, мае пэўныя законы жанру, няведанне якіх не вызваляе аўтара ад напісання добрых твораў? На гэтае пытанне спрабавалі знайсці адказ удзельнікі "круглага стала", якіх сабрала адна тэма — "Развіццё сучаснай маладой літаратуры: падтрымка юных талентаў у Рэспубліцы Беларусь".

Па прызнанні першага намесніка дырэктара РВУ "Літаратура і Мастацтва", кіраўніка секцыі па працы з моладдзю пры Саюзе пісьменнікаў Беларусі Алеся Бадака, нячаста сустракаюцца адкрытыя размовы за "круглым сталом" менавіта пра маладую літаратуру. Хаця ёсць у нас такі феномен, як маладая беларуская літаратура. Прычым, яна надзвычай цікавая і разнастайная. Зусім нядаўна ў Гродне праходзіў першы семінар-нарада маладых пісьменнікаў Беларусі і Расіі, дзе сустракаліся пачаткоўцы абедзвюх краін. Алесь Бадак згадаў уражанні расіян: у Беларусі сітуацыя намнога лепшая, выдаюцца часопісы "Маладосць" і "Бярозка", маладым ёсць дзе гуртавацца. Расійскія ж творцы больш шчыруюць у Інтэрнэце, выдаюць кніжкі па 500 экзэмпляраў на ўсю Расію і дзівяцца магчымасцям беларусаў.

Але, зразумела, на сваім полі шмат і праблем. Галоўны рэдактар часопіса "Маладосць" Таццяна Сівец распавяла пра новыя рэдакцыйныя праекты: у прыватнасці, каб маладыя былі пазнавальныя, пачынаючы з шостага нумара часопіс змяшчае на сваёй вокладцы фота аўтара, чые вершы, эсэ альбо апавяданні надрукаваны на яго старонках. На "круглым стале" прысутнічалі дзве творцы з вокладкі: паэтэса, студэнтка БДПУ імя Максіма Танка Ганна Федарук і літаратурны крытык, выкладчыца кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ Маргарыта Аляшкевіч. "Рэдакцыя часопіса "Маладосць" вырашыла змагацца з эпохай шоуцэнтрызму яе ж інструментарыем", — заўважыла літаратуразнаўца, крытык, начальнік упраўлення навукова-метадычнага суправаджэння адукацыйнага працэсу Нацыянальнага інстытута адукацыі Ірына Шаўлякова. Калі на вокладцы — адухоўленыя, інтэлектуальныя асобы, гэта заўважна! І добра, калі такая стратэгія будзе мець літаратурны плён. На "круглым стале" гаварылася пра ўзаемадачыненні пісьменніка і крытыка; пра кірункі развіцця сучаснай крытыкі для маладых, якая пры ўсім выконвае і асветніцкія ды інфармацыйна-навігатарскія функцыі; пра тое, ці чытаюць старэйшыя пісьменнікі маладых і ці чытаюць маладыя старэйшых? Такое міні-сацыялагічнае даследаванне, праведзенае часопісам "Нёман", дае не зусім чаканы адказ: на вялікі жаль, пачаткоўцы не так добра ведаюць сучасную літаратуру старэйшых пісьменнікаў, а старэйшыя яшчэ горш ведаюць сучасную маладую літаратуру.

Пра неабходнасць літаратурнай школы гаварылі рэдактар аддзела паэзіі часопіса "Маладосць" Вікторыя Ляйкоўская і малады творца, выкладчык кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ Арцём Кавалеўскі. Хаця, паводле прызнання ўдзельнікаў размовы, школа як пэўная творчая майстэрня ў Беларусі прысутнічае. У Інстытуце журналістыкі БДУ знаёмяць з асновамі крытыкі, ёсць і спецыяльнасць "Літаратурная работа (творчасць)", дзе, па сутнасці, рыхтуюць літаратараў. Плённа працуюць іншыя ВНУ. Але… Зноў жа, на практыцы часцяком даводзіцца вяртацца да пытання, вынесенага ў назву гэтых нататак. І добра, калі без залішняй кампліментарнасці, але і без беспадстаўных абвінавачванняў, творца пачуе дакладны адказ ад калегі па цэху.

## Адусюль

### Святы

Міжнароднае свята "Славянскія літаратурныя дажынкі-2011" сабрала ў Гомелі больш як 40 пісьменнікаў з Беларусі і Расіі. У межах свята прайшлі прэзентацыі выдадзеных у гэтым годзе кніг, літаратурныя майстар-класы, выступленні пісьменнікаў Гомельскай вобласці ва ўстановах адукацыі і культуры, адкрыццё літаратурнай выстаўкі "Жыві, славянскае слова!" Падчас свята адбылося ўшанаванне лаўрэатаў абласных і рэспубліканскіх літаратурных конкурсаў. Дыпломамі адзначаны дзіцячы паэт Яўген Калашнікаў, а таксама Ніна Шклярава і Алена Кобзева-Матвіенка, якія пераклалі на беларускую і ўкраінскую мовы паэму расійскага аўтара Мікалая Мельнікава "Рускі крыж".

Напярэдадні 190-годдзя вялікага Фёдара Дастаеўскага на філалагічным факультэце Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна прайшла міжнародная навуковая канферэнцыя "Дастаеўскі ў сучаснай паліткультурнай прасторы". Праграма аб'яднала каля ста літаратуразнаўцаў і лінгвістаў з розных краін.

### Сустрэчы

Віцебская бібліятэка імя Янкі Купалы запрасіла на сустрэчу з чытачамі паэтак Тамару Краснову-Гусачэнку і Маіну Бабарыку, якія прадставілі свае паэтычныя кнігі "У святла цэню няма" і "Шолахі часу".

У бібліятэцы № 4 г. Мінска адбылася творчая сустрэча паэта Анатоля Кудласевіча з вучнямі сярэдняй школы № 175.

Прэзентацыя новай кнігі вершаў Лізаветы Палеес "Не прыручай мяне да сябе" адбылася ў Мінскай бібліятэцы № 5. У прэзентацыі ўзялі ўдзел паэты Алена Міхаленка, Дзмітрый Пятровіч, Мікола Шабовіч, бард Сяргей Панамароў, спявачка Наталля Клімковіч, артыст Яўген Піменаў.

### Памяць

Мемарыяльная дошка народнаму пісьменніку Беларусі Івану Навуменку адкрыта ў Мінску. Яна ўсталявана на доме нумар 36 па вуліцы Карла Маркса, дзе пісьменнік жыў з сям'ёй.

### Узнагароды

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь узнагародзіла нагрудным знакам "Выдатнік друку Беларусі" членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі: намесніка старшыні Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Наталлю Касцючэнку і рэдактара газеты "Пінскі веснік" Марыю Ляшук.

Граматай Брэсцкага абласнога выканаўчага камітэта за плённую працу ў літаратуры, значны ўнёсак у прапаганду творчасці пісьменнікаў Берасцейшчыны і актыўную грамадскую дзейнасць узнагароджаны паэтэса Галіна Бабарыка і паэт Валерый Грышкавец. Пісьмом падзякі абласнога выканаўчага камітэта адзначаны празаік Валерый Гапееў.

### Праекты

"Беларусьфільм" здымае кінастужку паводле аповесці Васіля Быкава "У тумане". Рэалізуючы гэты праект, рэжысёр Сяргей Лозніца супрацоўнічае з нямецкімі, нідэрландскімі, латвійскімі, літоўскімі і расійскімі кінематаграфістамі.

II з'езд Саюза пісьменнікаў Беларусі

# Даклад старшыні СПБ Мікалая Чаргінца

Мінулыя пяць гадоў дыктавалі нашаму Саюзу неабходнасць прайсці няпросты шлях: ад працэсу заснавання, стварэння прававой асновы і ўмоў дзейнасці — да пашырэння радоў творчай арганізацыі, з выхадам на магчымасць выдаваць кнігі не толькі ў дзяржаўных, але і ў прыватных выдавецтвах нашай краіны і за яе межамі. Шчыра кажучы, мы яшчэ не здолелі дасягнуць усіх пастаўленых мэт. Былі і памылкі, і недарэчнасці. Не ва ўсіх установах і не заўсёды мы мелі падтрымку. Але сёння, праз пяць гадоў, упэўнена заяўляем: Саюз пісьменнікаў Беларусі зацвердзіўся ў культурным жыцці краіны! Ён зрабіўся магутным літаратурным цэнтрам, які здольны служыць народу, падтрымліваць дзяржаву. Мы змаглі ўнесці свой важкі ўклад ва ўмацаванне духоўнасці, маральнасці, адраджэння высокіх пачуццяў патрыятызму, любові да Бацькаўшчыны. І гатовы зрабіць усё, каб наша літаратура як частка нацыянальнай культуры і надалей развівалася паспяхова!

За справаздачны перыяд вырашана нямала пытанняў па ўмацаванні нашага Саюза, як арганізацыйна, так і творча.

Набіраюць моц абласныя арганізацыі, адчувальней стаў іх уплыў на маладых творцаў. Павялічыліся выдавецкія магчымасці. Кнігі членаў СПБ выходзілі ў дзяржаўных і прыватных выдавецтвах не толькі сталіцы, але і ў рэгіёнах. Так, гомельскае абласное аддзяленне выдае кнігі землякоў у серыі "Літаратурная Гомельшчына". Рэгулярна выходзяць літаратурныя альманахі: у Магілёве — "Прыдняпроўе", Віцебску — "Дзвіна", Гродне — "На Нёманскай хвалі", Гомелі — літаратурны зборнік "Дняпроўскія матывы" і калектыўная кніга паэтаў Мазыршчыны. Такую ж серыю пачалі выдаваць у Мінскім гарадскім аддзяленні. Вядома ж, без падтрымкі мясцовых органаў улады было б вельмі праблематычна ажыццявіць падобныя праекты.

Мы пачалі ўладкоўваць наш Дом літаратара. У фае на другім паверсе зрабілі своеасаблівы музей-выстаўку выданняў, а таксама падарункаў-сувеніраў ад замежных пісьменнікаў, вітальных адрасоў ад грамадскіх і дзяржаўных дзеячаў. Завершана афармленне Мемарыяльнай залы, у якой змешчана больш як 200 партрэтаў пісьменнікаў-франтавікоў, партызан, падпольшчыкаў.

Прыкметная роля пісьменнікаў у правядзенні традыцыйных рэспубліканскіх свят, прысвечаных юбілеям Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Адама Міцкевіча, Уладзіміра Караткевіча. Штогод па ўсёй Беларусі праходзіць Сусветны дзень паэзіі. У Брэсце ладзяцца фестывалі рускай паэзіі з удзелам літаратараў Расіі, Беларусі, іншых краін.



Фота Кастуся Дробава

За апошнія пяць гадоў нямала добрых спраў на рахунку Мінскай абласной арганізацыі. Напярэдадні 65-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў тут праведзена патрыятычная акцыя "Салют табе, Вялікая Перамога!"

Заслугоўвае пахвалы плённае супрацоўніцтва Гомельскага аддзялення з літаратарамі Браншчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны. Гродзенскія пісьменнікі ўсталявалі цесную творчую сувязь з літаратарамі Беластоцкага ваяводства Польшчы. Даволі актыўна працуе Віцебскае аддзяленне.

З пачатку 2007-га па верасень 2011-га членамі Саюза пісьменнікаў Беларусі ў выдавецтвах рознай формы ўласнасці выдадзена больш як тысяча дзвесце кніг паэзіі, прозы, дзіцячай літаратуры, крытыкі і літаратуразнаўства, дакументалістыкі. Натуральна, не ўсе яны прэтэндуюць на самую высокую адзнаку, але, пагадзіцеся, у любой кнігі ёсць свой чытач.

Сярод найбольш значных твораў апошніх гадоў — кнігі прозы Васіля Ткачова, Алеся Савіцкага, Віктара Праўдзіна, Уладзіміра Гніламёдава, Анатоля Казлова, Уладзіміра Федасеенкі, Аляксандра Сакалова, Мікалая Ільінскага, Алеся Марціновіча, Алега Ждана ды іншых.

Мінулыя гады сталі плённымі і для паэтаў. Міхась Башлакоў ганараваны дзяржаўнай прэміяй за кнігі "Нетры" і "Палын. Чарнобыль". Паэтычны двухтомнік "Спас" Тамары Красновай-Гусачэнкі адзначаны залатым медалём і Усерасійскай літаратурнай прэміяй імя Фёдара Цютчава. Добрыя водгукі атрымалі кніга воіна-інтэрнацыяналіста Рыгора Сакалоўскага, паэтычныя зборнікі Алеся Жыгунова, Алега Салтука, Казіміра Камейшы, Уладзіміра Карызны, Віктара Гардзея, Міколы Мятліцкага, Валянціны Паліканінай, Юрыя Сапажкова, Людмілы Кебіч, Валянціна Лукшы, Андрэя Скарынкіна, Навума Гальпяровіча, Таццяны Лейкі, Алены Пяхоты і многіх іншых. У жанры перакладу актыўна працавалі Іван Чарота, Валерый Грышкавец, Андрэй Цяўлоўскі, Уладзімір Скарынкін, у драматургіі — Алена Папова, Алена Мінчукова, Наталля Пусцільнік. Мы можам ганарыцца тым, што творы нашых пісьменнікаў перакладзены на англійскую, сербскую, балгарскую, турэцкую, японскую і іншыя мовы.

Публіцыстыку вобразна называюць "чорным хлебам" літаратуры. Менавіта па якасці "выпечкі" сённяшніх нарысістаў, эсэістаў, іх кніг, у якіх адлюстроўваецца жыццё народа, нашы нашчадкі будуць меркаваць пра нас саміх, пра наш няпросты час. Галоўнае, каб гэта люстэрка не было крывым, не скажала рэчаіснасць, непрадузята адлюстроўвала праўду жыцця. Гісторыя — гэта тое, на чым стаіць дзяржава. Хто скажае гісторыю, той знішчае дзяржаву.

> *"Саюз пісьменнікаў Беларусі зацвердзіўся ў культурным жыцці краіны! Ён зрабіўся магутным літаратурным цэнтрам, які здольны служыць народу, падтрымліваць дзяржаву. Мы змаглі ўнесці свой важкі ўклад ва ўмацаванне духоўнасці, маральнасці, адраджэння высокіх пачуццяў патрыятызму, любові да Бацькаўшчыны. І гатовы зрабіць усё, каб наша літаратура як частка нацыянальнай культуры і надалей развівалася паспяхова!*

У нашым Саюзе ёсць літаратары, для якіх публіцыстыка стала справай жыцця. Нядаўна ў Ганцавічах першую прэмію "Залаты Купідон" атрымаў Уладзімір Сауліч з Глыбокага за кнігу "Антэі Прыдзвіння" — нарысы пра жыццё сялян, землеробаў, кіраўнікоў гаспадарак Віцебшчыны. Выклікалі цікавасць дакументальныя публікацыі Васіля Шырко, Уладзіміра Ліпскага, Віктара Гардзея, Ніны Чайкі, Вадзіма Гігіна, Віктара Кавалёва, Міхася Шыманскага.

Вядома, каб напісаць добры літаратурны нарыс, тым больш — дакументальную аповесць, трэба ўжыцца ў лёс герояў, а для гэтага неаднойчы сустрэцца з імі. Праўда, у нашых літаратараў не заўсёды ёсць такая магчымасць: бракуе грошай на камандзіроўкі, рэдакцыі адпускаюць мала часу на збор матэрыялаў. Але ў добрых публікацыях мае патрэбу народ. І гэтым усё сказана.

Наша аб'яднанне мае ў сваіх шэрагах выдатных майстроў слова, але ёсць і такія, якія ў сілу сваіх амбіцый, хваравітага ўспрымання самога сябе спрабуюць люта, часам каварна джаліць Саюз, распаўсюджваюць чуткі, што мы "душым", "прыгнятаем" рускамоўных аўтараў і рускую мову.

Гэтым скептыкам хочацца задаць пытанне: калегі, хто з вас дапамог нам у рэгістрацыі Саюза, бясплатным вырабе пасведчанняў, пячатак, фірменных бланкаў, дыпломаў, грамат, прызоў? Хто з вас унёс прапановы па арганізацыі, правядзенні і матэрыяльным забеспячэнні шматлікіх літаратурных конкурсаў?! Мы зрабілі тое, што нават не думалі зрабіць кіраўнікі Саюза беларускіх пісьменнікаў. Сёння на сценах актавай залы Дома літаратара змешчаны партрэты вялікіх асветнікаў Беларусі і класікаў літаратуры. Праўленне, прэзідыум СПБ змаглі ўсталяваць творчыя кантакты з выдавецтвам "Харвест". Дзякуючы агульным намаганням з'явіўся выдатны праект "Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі". У межах яго выдаецца кнігі класікаў і сучасных літаратараў. Серыя атрымала шырокае прызнанне ў свеце. У мінулым годзе мы выдалі кнігі ўсіх жывых сёння пісьменнікаў-франтавікоў. Упэўнена набірае сілу новы праект "Бібліятэка прыгодніцкай і фантастычнай літаратуры". Да нашых праектаў сёлета далучылася выдавецтва "Чатыры чвэрці".

Мы рады, што не толькі дзяржаўныя, але і, як бачыце, недзяржаўныя выдавецтвы ідуць нам насустрач. У выніку выдадзены кнігі класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы, Якуба Коласа, Петруся Броўкі, Івана Мележа, Максіма Танка, Івана Шамякіна, Івана Чыгрынава ды цяперашніх, маладзейшых літаратараў.

У планах — серыйныя выданні літаратуры для дзяцей і юнацтва, творы маладых аўтараў.

З 2007 года па ініцыятыве Саюза пісьменнікаў пры фінансавай падтрымцы Савета Міністраў, міністэрстваў інфармацыі, адукацыі, культуры праводзіцца рэспубліканскі конкурс "Лепшы твор года" па ўсіх жанрах літаратуры, у тым ліку і ў намінацыі "Песенны жанр".

На рэспубліканскім свяце Дзень беларускага пісьменства, якое штогод праходзіць у верасні ў адным з раённых цэнтраў Беларусі, пераможцам конкурсу ўручаюцца сувенір-знак "Залаты Купідон", дыпломы і грашовыя ўзнагароды.

Нядаўна ў сталічнай бібліятэцы імя А. С. Пушкіна з удзелам кіраўніцтва Мінскай вобласці чатыром нашым пісьменнікам урачыста былі ўручаны дыпломы, а таксама грашовыя ўзнагароды. Дарэчы, яны ў тры разы перавышаюць памер прэмій пераможцам рэспубліканскага конкурсу. Вось прыклад зацікаўленага стаўлення да творцаў!

У Гомельскай вобласці праводзіцца літаратурны конкурс імя Кірылы Тураўскага, у Віцебскай — імя Уладзіміра Караткевіча, Брэсцкай — імя Уладзіміра Калесніка, Магілёўскай — імя Аляксея Пысіна, у Гродзенскай — імя Аляксандра Дубко.

Чалавек упершыню сустракаецца з кнігай у дзяцінстве. Напэўна, кожны памятае сваю першую кнігу, якую прачытаў. Беларуская літаратура ў гэтым жанры дала нямала класікаў. Успомніце знаёмыя з маленства імёны — Алесь Якімовіч, Міхась Лынькоў, Янка Маўр. Іх кнігамі мы зачытваліся.

Сёння ў жанры дзіцячай літаратуры актыўна працуюць Валянцін Лукша, Мікола Чарняўскі, Уладзімір Ліпскі, Алена Масла, Генадзь Аўласенка, Міхась Пазнякоў, Уладзімір Мазго, Анатоль Караленка, Галіна і Сяргей Трафімавы. Цяжка ўспомніць літаратара, які абышоў дзіцячую тэматыку. Гэта правільна: дзеці самыя ўдзячныя чытачы.

У справаздачны перыяд мы правялі пленум, прысвечаны праблемам развіцця дзіцячай і юнацкай літаратуры. Старшыня секцыі, вядомы паэт Валянцін Лукша, зрабіў змястоўны даклад. Прагучалі цікавыя выступленні. Быў выказаны шэраг пэўных прапаноў, у тым ліку пра неабходнасць быць бліжэй да самага юнага чытача, пошук форм і метадаў прыцягнення дзяцей да літаратуры і дапамогі школе і г.д.

Таму мы не толькі выдавалі кнігі для дзяцей, але выступалі ў школах, гімназіях, ліцэях. Саюз пісьменнікаў Беларусі шэфствуе над гімназіяй № 7 Мінска, над дзіцячым домам-інтэрнатам для дзяцей з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі ў гарадскім пасёлку Івянец Валожынскага раёна. Зусім нядаўна Раіса Баравікова і Леаніда Падвойская перадалі івянецкім дзецям самы сучасны шырокафарматны тэлевізар, бібліятэку кніг. Нам, у Саюз пісьменнікаў, дзеці даслалі свае малюнкі, мастацкія вырабы.

(Заканчэнне на 4-й — 5-й стар.)

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)

Кажучы пра дзіцячую літаратуру, нельга абысці школу. Наладжваецца супрацоўніцтва з Міністэрствам адукацыі. У прыватнасці, з намі сталі ўзгадняць планы выдання кніг серыі "Школьная бібліятэка". Мы ўдзельнічаем таксама ў шэрагу конкурсаў па беларускай мове і літаратуры, якія праводзяцца гэтым міністэрствам.

Нядаўна мы пазнаёміліся з дапаможнікам "Сучасны літаратурны працэс: тэндэнцыі і праблемы развіцця". У анатацыі кнігі, якая выйшла пад грыфам установы адукацыі "Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка", гаворыцца: "Увага звяртаецца на тэмы, уключаныя ў праграмы курсавых і дзяржаўных экзаменаў па гісторыі беларускай літаратуры… Адрасуецца студэнтам-філолагам універсітэта, настаўнікам і старшакласнікам".

Хаця выданне датуецца 2010 годам, пры ўважлівым азнаямленні з яго зместам ствараецца ўражанне, што яно напісана на пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя, калі панавала атмасфера агрэсіўнага і татальнага негатывізму, змешвання паняццяў, калі ішла дэманізацыя айчыннай гісторыі. Такое адчуванне, быццам аўтарамі выконваецца наказ былога лідара БНФ З. Пазняка бязлітасна высякаць тое, што створана пры сацыялізме і ў апошнія дзесяцігоддзі цяперашнімі літаратарамі. Адчуваецца непрытоенае імкненне запісаць у "класікі" амаль усіх літаратараў-эмігрантаў, і тых, каго ўжо няма ў жывых, і тых, хто цяпер падкормліваецца на радыёстанцыі "Свабода".

Не хаваюць аўтары дапаможніка захаплення, калі аналізуюць жанр паэмы на сучасным этапе яе развіцця. Некалькі слоў пра паэму "Ь" (мяккі знак) С. Сокалава-Воюша: "У якасці галоўнага "героя" аўтар выводзіць літару Мяккі Знак і ў сувязі з гэтым уздымае праблему "рэпрэсій" над мовай, — сцвярджаюць аўтары дапаможніка. — Вынікам знакамітай рэформы, паводле паэта, "асуджэнне на скон буржуайскага здрайцу-шпега" Мяккага Знака, стала страта беларускай роднай мовы, а з ёю і пазбаўленне самабытнасці і самаўсведамлення сябе як нацыі. Двухмоўныя (а дакладней — бязмоўныя) сённяшнія беларусы, якім "у гены ўеўся Сталін", асацыіруюцца ў С. Сокалава-Воюша з дзіўнай змяёй: "Людзі-волаты" (нат здаля). А галовы й мазгі пігмеяў, (усе яны спакваля / набываюць абрысы змяеў <…> Уцякаю, бягу — куды?) / дзе ні ткнішся, паўсюдна "змеі": / Як жахліва сіпяць гарады, / Як пачварна вёскі нямеюць!"

І далей: "Пісьменнік не знаходзіць падстаў для надзеі на рэабілітацыю Мяккага Знака, а значыць, і для духоўнага адраджэння народа". Вось так: няма "мяккага знака", няма і "духоўнага адраджэння народа" і гэтак далей. Так і хочацца сказаць: "Як далёкія яны ад народа".

Усё гэта падобна на сітуацыю ў літаратуры 30-х гадоў, калі вульгарныя крытыкі ўкаранялі ў класікі некаторых дзеячаў ад літаратуры з іх сціплым дзясяткам пасрэдных апавяданняў і ўсяляк адцяснялі імёны пісьменнікаў, творамі якіх і цяпер ганарыцца наша літаратура.

Мы, вядома ж, робім усё магчымае для ўмацавання пазіцый беларускай мовы. Кіраўнік дзяржавы падтрымаў шэраг нашых прапаноў, у тым ліку пра назву вуліц населеных пунктаў на беларускай мове. Я не выпадкова спыніўся на гэтым факце. Сапраўдная літаратура — скарб нацыі. І тут важна яшчэ — хто гэты скарб ахоўвае, як ім карыстаецца?

> *"Вялікія, нават велізарныя магчымасці ёсць у нашых крытыкаў. Мы ставім перад сабой задачу стварыць такі інстытут літаратурнай крытыкі, які акажа наймагутнейшы ўплыў на далейшае развіццё літаратуры ў краіне. Нам патрэбна не хамская, не абразлівая, не зневажальная крытыка, а справядлівая, накіраваная на творчасць, якая дазваляе пісьменніку ўбачыць недахопы ў яго творы і падахвочвае яго да ўдасканалення.*

З'яўленне такіх дапаможнікаў выклікае не толькі здзіўленне і самоту, але і наводзіць на думку — а дзе ж наша крытыка? Яна не бачыць, што робіцца? Варта адзначыць: у СПБ выдатныя адносіны з кіраўніцтвам міністэрства адукацыі. Дзякуй ім за дапамогу і за парады. А вось некаторыя супрацоўнікі сярэдняга звяна і выканаўцы, на жаль…

Аўтары "дапаможніка" сцвярджаюць у даведцы: "Дапаможнік цалкам адпавядае навуковым поглядам аўтарытэтных крытыкаў і літаратуразнаўцаў пра сучасны літаратурны працэс, якія знайшлі адлюстраванне ў акадэмічным чатырохтомніку ў пяці кнігах "Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя". Няўжо гэта так, шаноўныя кандыдаты, дактары, акадэмікі?!

Дарэчы будзе ўспомніць, што некалькі гадоў таму Інстытутам літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук па замове Міністэрства інфармацыі быў распрацаваны праект пад назвай "Даследаванне неабходнасці выдання збору твораў і выбраных твораў класікаў беларускай літаратуры і сучасных аўтараў з мэтай распрацоўкі на іх аснове праграмы выпуску сацыяльна значнай літаратуры з улікам запатрабаванняў грамадства, духоўна-этычнай каштоўнасці твораў, з улікам дзяржаўнай ідэалогіі".

Ужо па назве можна меркаваць, што гэта праца павінна была стаць ці не краевугольным каменем усёй літаратурнай палітыкі краіны. Бо падрыхтавана, паводле выразу распрацоўнікаў, "з улікам дзяржаўнай ідэалогіі".

Зразумела, ніхто не стане аспрэчваць неабходнасці далейшага перавыдання твораў Сімяона Полацкага, Францішка Багушэвіча, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, беларускіх летапісаў і хронік і гэтак далей. Інстытут мовы і літаратуры нямала робіць для шматтомных перавыданняў класікаў нашай літаратуры. Аднак асобныя яго навуковыя супрацоўнікі, знаходзячыся на дзяржаўнай працы, з'яўляючыся членамі Саюза беларускіх пісьменнікаў, актыўна праводзяць палітыку, далёкую ад дзяржаўных інтарэсаў. А Ганна Кісліцына дайшла да таго, што на інтэрнэт-сайце публічна абразіла цэлую групу нашых пісьменнікаў, напісаўшы іх прозвішчы ў двукоссях і з малой літары: "шуглі", "слівы", "гусачэнкі", "касцючэнкі", "курылы", "федасеенкі". Гэту "інтэрнэтвяшчальніцу" не збянтэжыла нават тое, што Уладзімір Канстанцінавіч Федасеенка ёй у бацькі, калі не ў дзяды, падыходзіць. Ён не толькі вядомы аўтар шматлікіх добрых кніг, але і ветэран вайны, узнагароджаны баявымі ордэнамі.

Можна лёгка зразумець абурэнні нашага старэйшага таварыша, пяру якога належыць нямала выдатных твораў.

Нас не можа не хваляваць стан вывучэння роднай мовы і літаратуры ў школах і гімназіях. Навучэнцам 5 — 10-х класаў не прапаноўваюць напісаць сачыненні на тэмы "Я і мая Радзіма Беларусь", "За што я люблю родную краіну Беларусь", "Што б я зрабіў, калі б стаў Прэзідэнтам?", "Мая сям'я — частка маёй Радзімы" і г.д. Чамусьці ў маладых людзей, вучняў адукацыйных устаноў, гучаць развагі пра "рай" на Захадзе, "дзе можна без экзаменаў паступіць у ВНУ і нават атрымліваць еўра на піва". Ці не таму такія паняцці, як Радзіма, патрыятызм, гонар, адказнасць перад дзяржавай, законам, сям'ёй, любоў да школы амаль перасталі культывавацца сярод нашых дзяцей. А яны ж маюць патрэбу ў духоўнай падтрымцы, ім толькі трэба дапамагчы асэнсаваць сённяшняе жыццё, не засмеціць іх душы брудным палітыканствам. Толькі тады іх сэрцы будуць напоўнены высакароднасцю.

Хлусня ў літаратуры і ў жыцці павінна стаць нашым ворагам. Для гэтага трэба некаторым пісьменнікам перасягнуць праз уласнае "Я", быць самакрытычнымі. І ад гэтага мы станем яшчэ мацней, згуртаваней, будзем ганарыцца поспехамі адно аднаго, смела звацца "паплечнікамі".

> *"І яшчэ адна сур'ёзная праблема. Вельмі мала нашых пісьменнікаў працуе ў Інтэрнэце, большасць не мае сваіх сайтаў. Хаця персанальны сайт — гэта каласальная магчымасць выказаць сваё меркаванне па тым ці іншым пытанні, пазнаёміць чытача са сваім творам, выступіць з крытычнай нататкай, паспрачацца з апанентам. Я думаю, будзе правільна, калі ў будучым годзе абвесцім конкурс на лепшы, найбольш актыўны ўдзел у Інтэрнэце з добрай прэміяй і прызам.*

Нам трэба абараняць нашу родную літаратуру, нашых чытачоў, асабліва дзяцей, ад спроб апаганіць высокае прызначэнне літаратуры, плюнуць у душы людзей. Калі бярэш кнігу выдаўца Логвінава, адразу ж хочацца пашукаць літаратурных крытыкаў, пагледзець ім у вочы.

Мы лічым сваім абавязкам цвёрда рэагаваць на такія выхадкі. СПБ — грамадская арганізацыя, членам якой далёка не абыякава, што дзяцей і сталых людзей нашай краіны спрабуюць паіць калялітаратурнай атрутай.

Відавочна, новаму складу Праўлення, прэзідыума, сакратарыята неабходна праявіць адмысловую ўвагу да работы ўсіх творчых секцый — крытыкі і літаратуразнаўства, паэзіі, прозы, драматургіі, дзіцячай літаратуры, публіцыстыкі. Трэба актывізаваць іх арганізацыйна-творчую працу, каб яна не зводзілася толькі да вылучэння на прэміі, ды і рэкамендацыі па прыёме ў Саюз.

У канцы 2010 — пачатку 2011 гг. у абласных аддзяленнях прайшлі справаздачна-выбарчыя сходы. Была прааналізавана праца за пяць апошніх гадоў. Узнімаліся найбольш вострыя праблемы творчага і арганізацыйнага характару. Вось вытрымка з пратакола справаздачна-выбарчага сходу Гомельскага абласнога аддзялення: "На жаль, цяжка вырашаюцца пытанні з выданнем кніг у "Мастацкай літаратуры", дзе больш як дзесяць гадоў чакаюць выхаду рукапісы кніг Я. Калашнікава, Ю. Фатнева, А. Караленкі і іншых. Затое актыўна выдаюцца тыя, хто працуе ў выдавецтве. Многія пісьменнікі не могуць атрымаць ганарар за даўно рэалізаваныя кнігі..."

Скажу шчыра, у Саюз пісьменнікаў Беларусі паступілі і паступаюць лісты, заявы з нагоды таго, што занадта ўжо багата друкуюцца ў літаратурных часопісах самі супрацоўнікі выданняў. Гэта, натуральна, абцяжарвае доступ да прэсы іншым літаратарам. Асабліва з перыферыі. І маладым аўтарам. У мінулыя гады штатны супрацоўнік мог надрукавацца не больш як адзін раз. А цяпер у нашым творчым аб'яднанні амаль 600 чалавек. Ці не час суцішыць запал самавыдання? Выдавецтвы, літаратурныя выданні ў нас дзяржаўныя! А не прыватызаваныя!.. І яны павінны служыць усім талентам, а не "шчаслівым" з рэдакцый. Трэба больш увагі надаваць маладым талентам.

І яшчэ пра некаторыя этычныя моманты нашага жыцця…

Літаратурная праца — праца індывідуальная. Яна патрабуе вялікай душэўнай, эмацыянальнай энергіі. Натуральна, кожны шануе яе вынікам — уласнай кнігай. Праўда, гэта "каханне" часам пераходзіць межы прыстойнасці. Яшчэ кніга не атрымала чытацкага прызнання, не заўважыла яе літаратурная крытыка, а ўжо аўтар штурмуе Саюз: "Давайце прэмію!!! Такой кнігі яшчэ не было!.. Яна толькі першага месца варта! Мяне прыгнятаюць па нацыянальным прынцыпе!" — і гучна стукае дзвярамі, складвае свае грамадскія паўнамоцтвы.

Але ж не я даю прэміі! Няхай той жа чытач ацэньвае, скажуць слова калегі, прафесіяналы-крытыкі. Эрнэст Хэмінгуэй неяк заўважыў: "Кожны пісьменнік, які страціў пачуццё справядлівасці, павінен кінуць пісаць".

Верыцца, што падобную практыку "самавылучэння" мы ўсё ж выкаранім. Таму што ёсць такія паняцці, як "душа" і "сумленне", ні за якія грошы, ніякім "блатам" іх не набудзеш.

Вялікія, нават велізарныя магчымасці ёсць у нашых крытыкаў. Мы ставім перад сабой задачу стварыць такі інстытут літаратурнай крытыкі, які акажа наймагутнейшы ўплыў на далейшае развіццё літаратуры ў краіне. Нам патрэбна не хамская, не абразлівая, не зневажальная крытыка, а справядлівая, накіраваная на творчасць, якая дазваляе пісьменніку ўбачыць недахопы ў яго творы і падахвочвае яго да ўдасканалення.

Саюз пісьменнікаў Беларусі значную ўвагу надае працы з маладымі талентамі. На жаль, сярэдні ўзрост усёй арганізацыі складае больш як 50 гадоў. Гэта тлумачыцца тым, што многія дасведчаныя пісьменнікі перайшлі да нас з Саюза беларускіх пісьменнікаў. Трэба актыўней выкарыстоўваць літаратурныя веды і таленты ў рабоце з маладымі аўтарамі. Гэтае пытанне неаднаразова разглядалася на пасяджэннях прэзідыума. Ёсць станоўчыя вынікі. Так, Мінскае гарадское аддзяленне ў 2009 годзе арганізавала агульнагарадскі літаратурны конкурс, у якім узялі ўдзел 208 юных літаратараў. Летась правяло Міжнародны літаратурны конкурс сярод старшакласнікаў, прысвечаны 65-годдзю Вялікай Перамогі. У ім узялі ўдзел юныя літаратары не толькі сталіцы, але і ўсёй Беларусі, а таксама Літвы, Латвіі, Расіі, Украіны — усяго 795 творцаў. Адзначаны ўзнагародамі 64 канкурсанты.

Значную працу з маладымі пісьменнікамі праводзіць Гомельскае аддзяленне, дзе дзейнічае школа юнага літаратара, якой кіруе дасведчаная паэтэса Ніна Шклярава. Выйшла з друку газета "Літаратурныя абсягі" — своеасаблівы веснік аддзялення. Ініцыяваны выпуск літаратурных старонак у мясцовых перыядычных выданнях. Ажыццёўлены першы, справаздачны, выпуск калектыўнага зборніка "Натхненне. Вдохновение".

Нядаўна на прэзідыуме мы зацвердзілі дзесяць гадавых стыпендый маладым літаратарам для ажыццяўлення іх найбольш цікавых літаратурных праектаў. Аднак, пры ўсім гэтым, праца з моладдзю патрабуе якасна новага падыходу. Пакуль недастаткова ўвагі да іх з боку выдавецтваў. Недапушчальна, каб паэт ці празаік здаў рукапіс ва ўзросце да 30 гадоў, а кнігу атрымаў да 60-гадовага юбілею. Нашы літаратурныя часопісы, асабліва "Маладосць", павінны смялей ісці на рызыку і часцей публікаваць маладых, хай нават невядомых, аўтараў. Калі жадаеце, літчасопісы абавязаны стаць стартавымі пляцоўкамі для маладых, вышукваць сярод іх таленты. Неабходна актыўней супрацоўнічаць з мясцовымі органамі ўлады, з Беларускім рэспубліканскім саюзам моладзі.

Саюз пісьменнікаў Беларусі паслядоўна ўмацоўваў міжнароднае супрацоўніцтва. Традыцыйнымі сталі абменныя нумары беларускага часопіса “Нёман” і расійскага “Наш современник”.

Адбыліся дзелавыя кантакты кіраўніцтва Саюза з прадстаўнікамі пісьменніцкіх саюзаў Кубы, Венесуэлы, Сербіі, Расіі, Казахстана, Кыргызстана, Балгарыі, Турцыі, Сірыі і іншых краін.

Удзел у міжнароднай творчай дзейнасці бралі і нашы абласныя аддзяленні.

Гамяльчане штогод удзельнічаюць у міжрэгіянальным літаратурным свяце “На зямлі Баяна”, у літаратурных святах, якія праводзяцца ў Бранскай і Курскай абласцях Расійскай Федэрацыі, у Чарнігаўскай, Сумскай абласцях Украіны. У сваю чаргу пісьменнікі Расіі і Украіны ўдзельнічалі ў культурных мерапрыемствах, якія праводзіліся ў Беларусі.

Найбольш значная падзея ў нашай міжнароднай дзейнасці адбылася ў кастрычніку 2009 года. У Мінску прайшоў Устаноўчы з’езд Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы. Яго заснавальнікамі сталі Саюз пісьменнікаў Беларусі і Саюз пісьменнікаў Расіі. Само жыццё яго падрыхтавала, “выспеліла”. Прыняты Статут новай міждзяржаўнай пісьменніцкай арганізацыі, абраны кіраўнічыя органы — прэзідыум, праўленне, рэвізійная камісія, сустаршыні.

Ідэю форуму падтрымалі і віталі Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі, Пастаянны камітэт Саюзнай дзяржавы, Найсвяцейшы Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Кірыл, Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, іншыя дзяржаўныя і грамадскія дзеячы.

Прадстаўнічая дэлегацыя Саюза пісьменнікаў Беларусі прыняла ўдзел у правядзенні Дзён літаратуры і мастацтва “Нам дороги эти позабыть нельзя…”. Мерапрыемства, прысвечанае 65-годдзю Вялікай Перамогі, прайшло на легендарнай Курскай зямлі. Там беларускія пісьменнікі ўдзельнічалі ў рабоце выязнога пленума Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы. Яны сустракаліся з працаўнікамі вобласці, моладдзю, перадалі жыхарам горада бібліятэчку беларускіх аўтараў.

Гэта добрае пачынанне атрымала працяг. Сёлета, у дні, калі шырока адзначалася трагічная і адначасова гераічная падзея — 70-годдзе пачатку Вялікай Айчыннай вайны, — у Брэсце зноў сустрэліся дэлегацыі пісьменнікаў Беларусі і Расіі, каб на чарговым пленуме прадэманстраваць духоўнае адзінства, вернасць подзвігу братэрскіх народаў, гатоўнасць даваць рашучы адпор “перелицовщикам” гісторыі.

Такія сустрэчы не толькі карысныя для ўмацавання ўзаемаадносін — яны падказваюць новыя тэмы для будучых твораў. Пагадзіцеся, кніг пра жыццё сучаснага сяла, пра жыццё нашых вяскоўцаў яшчэ мала. Не выпадкова сёлета паміж Саюзам пісьменнікаў Беларусі, Дзяржаўным пагранічным камітэтам Рэспублікі Беларусь, грамадскім аб’яднаннем “Савет ветэранаў пагранічных войск” складзена дамова пра творчае супрацоўніцтва. Ёсць першыя вынікі. РВУ “Літаратура і Мастацтва” сумесна з супрацоўнікамі Інстытута пагранслужбы выпусціла кнігу пра гераізм пагранічнікаў у першыя дні вайны.

Цяжка пераацаніць высілкі намаганняў Саюза пісьменнікаў у вырашэнні пытанняў карэннай, я б сказаў, рэвалюцыйнай змены курса па развіцці літаратурнага працэсу. Мы з вялікім задавальненнем адзначаем, што пры падтрымцы Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і з непасрэдным удзелам Міністэрства інфармацыі пачалося вырашэнне істотных праблем. Мы адыходзім ад адзнакі кнігі па прыгажосці вокладкі, хоць і ў далейшым будзем вітаць правядзенне конкурсаў на лепшае мастацкае афармленне. Але нельга пад паняццем “Лепшая кніга” ацэньваць кнігу па вокладцы. Нам важны глыбокі змест, актуальнасць тэмы, яе раскрыццё.

Прадпрымаюцца меры для своечасовай выплаты аўтарскіх ганарараў. Цяпер яны затрымліваюцца, часам, на тры, пяць і нават на сем гадоў. Гэтая ганебная з’ява не павінна існаваць.. Спадзяёмся, што патрабаванне да аўтараў, чые кнігі рыхтуюцца да выдання, прадастаўляць выдавецтву даведкі-пацвярджэнні, што іх кнігі будуць выкуплены на 75 — 85 працэнтаў ад тыражу, таксама будзе перагледжана. Цяжка сабе ўявіць, скажам, каб Максім Танк, Іван Шамякін, Васіль Быкаў хадзілі па фірмах, заводах ці банках, прыніжаліся. Такі шлях — шлях да дэградацыі літаратуры і літаратараў.

І яшчэ адна сур’ёзная праблема. Вельмі мала нашых пісьменнікаў працуе ў Інтэрнэце, большасць не мае сваіх сайтаў. Хаця персанальны сайт — гэта каласальная магчымасць выказаць сваё меркаванне па тым ці іншым пытанні, пазнаёміць чытача са сваім творам, выступіць з крытычнай нататкай, паспрачацца з апанентам. Калегі, вы павінны зразумець, што Інтэрнэт і наша праца ў ім — найважнейшы складнік сённяшняга ладу жыцця. Мы заклікаем не адставаць ад жыцця і стаць актыўным удзельнікам сусветнай сеткі. Я думаю, будзе правільна, калі ў будучым годзе абвесцім конкурс на лепшы, найбольш актыўны ўдзел у Інтэрнэце з добрай прэміяй і прызам.

У Статуце Саюза пісьменнікаў Беларусі запісана, што наша грамадская арганізацыя, разам з іншымі мэтамі, створана для абароны творчых правоў, прафесійных і сацыяльных інтарэсаў пісьменніка, яго гонару, а таксама садзейнічанні ў забеспячэнні яму ўмоў для практычнай рэалізацыі творчых задум.

Бясспрэчна, сацыяльная падтрымка пісьменніка вельмі неабходна. Асабліва цяпер, калі літаратар не самы забяспечаны чалавек. Гадамі ён чакае ганарары за выдадзеныя творы. Бывае, і не дачакаецца пісьменнік узнагароды. Таму, каб звязаць канцы з канцамі, ідуць “творцы высокага духу” працаваць вартаўнікамі, грузчыкамі, кандуктарамі на грамадскім транспарце, дворнікамі.

Ёсць сярод пісьменнікаў ветэраны вайны, інваліды, людзі з вельмі нізкімі заробкамі. Каб падтрымаць іх, кіраўніцтва саюза прыняло рашэнне пра дапамогу такім літаратарам. Падтрымалі дзякуючы спонсарам.

Былы партызан Георгій Уладзіміравіч Шыловіч, атрымаўшы такую дапамогу, патэлефанаваў нам: “Мяне вельмі крануў такі падарунак. Як гэта важна — памятаць пра старэйшых калег! Тое, што вы зрабілі, узнімае настрой, жыццёвы тонус, што вельмі важна ў пажылым узросце!”

І такіх лістоў нямала. Кіраўніцтву саюза, па нашым цвёрдым пераканանні, варта працаваць у такім кірунку і пасля з’езда.

Мы ўдзячны рэдакцыям газет і часопісаў за падтрымку пісьменнікаў. Хацелася б, каб і наша Беларускае тэлебачанне аднавіла цыклы перадач пра пісьменнікаў і літаратуру. Яго ранейшае кіраўніцтва насуперак патрабаванням Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь хірургічна бязлітасна зарэзала літаратурныя перадачы.

Нам сёння даводзіцца вырашаць шматлікія складаныя задачы, пастаўленыя самім жыццём. Іх важна асэнсаваць, ацаніць. Трэба актыўна ўрывацца ў жыццё, знаходзіць у ім натуральныя заканамернасці. Пісьменнік павінен сказаць сваё ўзважанае слова пра тое, што неабходна зрабіць для ўладкавання жыцця ў краіне і нават на Зямлі. Таленавітае слова можа многае!

Слова, народжанае сілай чалавечага духу і творчай думкі, здольна пераўтвараць свет, а таму яго чысціню трэба берагчы, абараняць.

Вось чаму мы адзіныя з народам, Беларуссю і яе Прэзідэнтам!

***(Даклад друкуецца ў скарочаным варыянце).***

# Рэзалюцыя II з’езда грамадскага аб’яднання «Саюз пісьменнікаў Беларусі»

Чарговы з’езд Саюза пісьменнікаў Беларусі — знамянальная падзея не толькі ў творчым, але і грамадскім жыцці краіны. Час, які прайшоў пасля папярэдняга форуму, яшчэ раз засведчыў, што наш творчы саюз упэўнена сцвердзіў сябе ў якасці арганізацыі, якая сваёй паўсядзённай працай выдатна зарэкамендавала сябе як творча і сацыяльна актыўная сіла, здольная ўносіць значны ўклад у захаванне маральна-этычных прынцыпаў, духоўнасці ў грамадстве, гуртаваць вакол сябе таленавітых творцаў, клапаціцца пра выяўленне маладых талентаў, садзейнічаць іх актыўнаму прафесійнаму і грамадзянскаму станаўленню. Наша задача была, ёсць і застанецца нязменнай: канструктыўны дыялог з уладнымі структурамі, творчымі саюзамі, іншымі грамадскімі арганізацыямі, падтрымка ўсіх пачынанняў, скіраваных на тое, каб свабодная і незалежная Беларусь па-ранейшаму квітнела, здзяйсняючы вялікі запавет неўміручага Янкі Купалы і заняўшы свой “пачэсны пасад між народамі”, надалей паказваючы прыклад іншым краінам сваімі дасягненнямі не толькі ў прамысловасці, сельскай гаспадарцы, але і ў мастацкай літаратуры.

Праца пісьменніка глыбока індывідуальная. У ёй немагчыма выйсці на загадзя запланаваныя паказчыкі, як і нельга прадбачыць, які значны твор цягам часу выйдзе з-пад пяра таго ці іншага пісьменніка. Адно несумненна: сапраўдны талент, калі для яго створаны належныя ўмовы, абавязкова рэалізуецца. Такія ўмовы для творчай працы ў СПБ ёсць. Дзяржава клапоціцца пра выданне літаратурна-мастацкіх часопісаў “Полымя”, “Маладосць”, “Нёман”, штотыднёвіка “Літаратура і мастацтва”, часопісаў для юных чытачоў “Вясёлка” і “Бярозка”. Дзяржаўным выдавецтвам аказваецца падтрымка ў выданні сацыяльна значнай літаратуры. Сведчанне клапатлівага стаўлення дзяржавы да развіцця літаратуры — і штогадовы рэспубліканскі конкурс на лепшы твор у галіне прозы, паэзіі, дзіцячай літаратуры, публіцыстыкі, мастацкай літаратурнай крытыкі, літаратуразнаўства і іншых жанрах, шматлікія конкурсы для маладых літаратараў.

Саюз пісьменнікаў Беларусі заснаваў дзесяць стыпендый на 2012 год для маладых аўтараў. СПБ стаў ініцыятарам выдання літаратурна-мастацкага часопіса “Белая вежа” — органа Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі.

Саюз пісьменнікаў Беларусі вялікую ўвагу надае прапагандзе беларускай літаратуры. Пастаянна выступаюць пісьменнікі ў бібліятэках, школах, ВНУ, у працоўных калектывах, воінскіх часцях. Галоўны крытэрый нашых твораў — высокая мастацкасць, патрыятызм. Зыходзячы з гэтага, беларуская літаратура павінна яшчэ больш прапагандавацца і ў перыядычным друку, на радыё і тэлебачанні. Умацоўваюцца сувязі беларускіх пісьменнікаў з літаратарамі іншых краін, пра што засведчыў наш з’езд, на які прыехалі прадстаўнікі з далёкага і блізкага замежжа.

Мы канстатуем і той факт, што на творчым рахунку сённяшніх пісьменнікаў ёсць нямала твораў прозы, паэзіі, публіцыстыкі і драматургіі, якія перакладзены на рускую, азербайджанскую, англійскую, літоўскую, таджыкскую, польскую, румынскую, японскую, турэцкую мовы. Нямала твораў апошніх гадоў атрымала станоўчы водгук у чытачоў, уганараваныя прэстыжнымі прэміямі як Беларусі, так і замежжа.

Сімвалічна, што чарговы пісьменніцкі форум праходзіць напярэдадні 120-годдзя з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча. Мы рыхтуемся шырока адзначыць 130-годдзе з дня нараджэння волатаў нацыянальнага прыгожага пісьменства Янкі Купалы і Якуба Коласа, а таксама 100-годдзе з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Максіма Танка.

Творца не можа і не мае права ставіць сябе па-за кантэкстам народнага жыцця. Пісьменнік можа і павінен працаваць разам са сваім народам, выказваючы яго думкі і спадзяванні.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і надалей будзе настойліва аб’ядноўваць усе творчыя сілы на карысць развіцця роднай краіны, сродкамі літаратуры адстойваць пашырэнне сферы ўжывання беларускай мовы як мовы тытульнага народа.

Класікі беларускай літаратуры пакінулі нам прыклады самаадданай працы на карысць Бацькаўшчыны, узор таго, як неабходна пазбаўляцца дробязнага і мітуслівага ў імя будучыні. Асаблівая роля належыць літаратурна-мастацкай крытыцы, якая павінна дапамагаць выпрацоўваць эстэтычны густ у чытачоў, ставіць “заслон” на шляху твораў маламастацкіх, безгустоўных, панегірычных аднадзёнак. Неабходна павысіць патрабаванні да творчасці тых аўтараў, якія ўступаюць у наш Саюз.

Улічваючы сацыяльную значнасць часопісаў “Роднае слова”, “Беларускі гістарычны часопіс”, “Полымя”, “Маладосць”, “Нёман”, “Бярозка”, “Вясёлка”, газет “ЛіМ”, “Раніца”, СПБ звяртаецца да Урада Рэспублікі Беларусь з просьбаю аб унясенні названых выданняў у пералік друкаваных сродкаў масавай інфармацыі, рэдакцыям якіх аказваецца падтрымка з рэспубліканскага бюджэту.

Наш з’езд пераканаў, што мы аднадумцы ў тым, як нам трэба працаваць дзеля далейшага працвітання роднай Беларусі.

II з’езд Саюза пісьменнікаў Беларусі засведчыў, што нашы пісьменнікі падтрымліваюць палітыку, якую праводзіць Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка, накіраваную на ўмацаванне незалежнасці і самабытнасці нашай краіны.

# Мэтавае фінансаванне — упэўненасць у заўтрашнім дні

**Зоя ПАДЛІПСКАЯ,**
**галоўны рэдактар часопіса "Роднае слова"**

Ва ўмовах афіцыйнага двухмоўя, якое, дарэчы, выбраў сам народ, не сакрэт, што з кожным годам усё цяжэй падымаць прэстыж роднай мовы. Вырасла пакаленне маладых людзей, якія вывучалі беларускую мову толькі ў школе і якім прасцей размаўляць па-руску. Ствараюцца сем'і, падрастаюць дзеці. Маладыя бацькі, у якіх ёсць магчымасць выбару, вядуць іх у першы клас з рускай мовай навучання. Мяркуюць, што так прасцей будзе дзецям у будучым. Паступова зніжаецца колькасць класаў з беларускай мовай навучання і нават агульнаадукацыйных устаноў, а адсюль — частая крытыка ў адрас Міністэрства адукацыі. Між тым, пры наяўнасці заяў ад бацькоў, безумоўна, такія класы былі б адкрыты.

Таму праблема бачыцца мне як у сям'і, так і ў грамадстве. Відавочна, што патрэбна аб'яднаць намаганні ўсіх, каб нарэшце зразумець, што сёння неабходна ведаць, магчыма, і некалькі замежных моў, але найперш патрэбна ведаць сваю.

На маю думку, неабходна прадаўжаць значную асветніцкую працу праз сродкі масавай інфармацыі — газеты, часопісы, радыё, Інтэрнэт; павялічыць колькасць новых цікавых беларускамоўных праектаў на тэлебачанні; неабходны пісьменніцкія выхады, калі хочаце, дэсанты ў дзіцячыя садкі, школы, вышэйшыя навучальныя ўстановы, працоўныя калектывы. Хацелася б, каб людзі, якія па розных прычынах не зусім добра валодаюць роднай мовай, імкнуліся дакрануцца да прыгажосці роднага слова і, галоўнае, — адчуць у ім патрэбу. А яшчэ — каб гэта былі не аднаразовыя акцыі, а пастаянная мэтанакіраваная праца. Бо для таго, каб каласілася поле, патрэбна падрыхтаваць глебу.

Саюз пісьменнікаў — якраз тая грамадская арганізацыя, якая можа і павінна ўплываць на гэтыя працэсы.

Многае для папулярызацыі і зберажэння роднай мовы робіцца ў нашай краіне: Дні пісьменства, навукова-практычныя канферэнцыі, фестывалі, выстаўкі, кнігадрукаванне… На гэта працуем і мы, беларускамоўныя выданні. Таму сёння наяўнасць часопісаў "Вясёлка", "Пралеска" ў дашкольных установах, часопісаў "Пачатковая школа", "Роднае слова", "Беларуская мова і літаратура ў школе", "Беларускі гістарычны часопіс", "Бярозка", "Маладосць", "Полымя", "Нёман", штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" ў фондах бібліятэк устаноў адукацыі — ужо не раскоша, а неабходнасць, выкліканая часам.

Наступнае. Дзякуючы Міністэрству інфармацыі ў мінулым годзе мы атрымалі ліцэнзію на выдавецкую дзейнасць. І ўжо можам гаварыць пра першыя вынікі. Нядаўна ў "Родным слове" выйшаў у свет першы том (на беларускай мове, 592 старонкі) кнігі-летапісу старажытных беларускіх родаў пад назвай "Я — сын Ваш" Анатоля Статкевіча-Чабаганава.

Добрыя стасункі ў рэдакцыі з установамі сістэмы Міністэрства культуры. Сёння практычна кожная публічная бібліятэка мае ў сваіх фондах часопіс "Роднае слова".

Мэтанакіравана мы падтрымліваем і навуковую моладзь краіны — магістрантаў і аспірантаў.

Літаратура, як вядома, не існуе сама па сабе. Літаратурны твор, надрукаваны ў мастацкім часопісе ці асобным выданнем, становіцца аб'ектам навуковага даследавання, а таксама літаратурнай крытыкі. Даследаванне мовы твораў праз навукоўцаў транслюецца настаўнікам, вучням, студэнтам і выкладчыкам менавіта праз наш часопіс, які, дарэчы, у наступным годзе будзе адзначаць свой сярэбраны юбілей.

Калі мы хочам, каб насамрэч у нашых сем'ях загучала беларускае слова, паўтаруся, патрэбны новыя беларускамоўныя і, нягледзячы на пэўныя эканамічныя праблемы ў краіне, абавязкова фінансаваныя дзяржавай праекты. А без гэтага — ніяк. Толькі ўклаўшы сродкі ў культуру, мы будзем упэўненыя ў заўтрашнім дні сваёй рэспублікі. Дык, можа, пачаць з больш дзейснай падтрымкі беларускамоўных выданняў? Бо сённяшняя сітуацыя з адзінай беларускамоўнай дзіцячай газетай "Раніца", якая выдавалася з 1929 года, нягледзячы на крызіс, вайну і пасляваенную разруху — ужо не першы трывожны званок, а набат!

Агульнавядомая ісціна: для таго, каб дрэва расло і квітнела, мала пасадзіць яго і сказаць: "Расці!" Патрэбна цяпло, вільгаць і сонца... Словам — падтрымка. Сёння хлеб духоўны не менш важны, чым хлеб на стале. Таму ўсе намаганні калектыву часопіса "Роднае слова" скіраваны на захаванне традыцыйных каштоўнасцей, умацаванне патрыятызму і нацыянальнай годнасці — на значную асветніцкую працу.

Нягледзячы на эканамічныя складанасці, а калі дакладней, поўную адсутнасць дзяржаўнага фінансавання, мы спадзяёмся, што свой 25-гадовы юбілей сустрэнем, як і належыць знакаваму беларускамоўнаму выданню ў краіне, дзе шануюць родную мову, дзе клапоцяцца пра культуру, а значыць — дбаюць пра будучыню. А што датычыць нас, супрацоўнікаў беларускамоўных рэдакцый, то мы і надалей будзем аддана служыць роднаму слову і Беларусі!

# Нам неабыякавы лёс братняй краіны

**Вітаўтас ЖЭЙМАНТАС,**
**член Саюза пісьменнікаў Літвы і Саюза пісьменнікаў Беларусі**

Я з белай зайздрасцю глядзеў на прэзідыум з'езда. Высокі прадстаўнік ад Адміністрацыі Прэзідэнта, намеснік прэм'ер-міністра, кіраўнікі трох міністэрстваў… На нашых форумах такога высокага прадстаўніцтва ніколі не ўбачыш. Гэта і зразумела. Калі міністры прыходзяць на мерапрыемствы, яны ведаюць, што мы што-небудзь ды папросім. Значыць, трэба прыходзіць з адкрытым сэрцам, з жаданнем выслухаць і дапамагчы.

Пры ўездзе ў Мінск здзівілі новабудоўлі. Дзясяткі будаўнічых кранаў, і ўсё ў руху. Гэта нагадала мне вясельны танец жураўлёў. А ў Вільнюсе новабудоўлі — рэдкая з'ява. Народ, які шмат будуе, шчаслівы народ.

У справаздачы, выступленнях дэлегатаў прагучала заклапочанасць станам літаратурнага выхавання моладзі, асабліва школьнікаў. Такая праблема ёсць і ў нас. Нам таксама не абыякава, што чытаюць дзеці. Распрацавана новая праграма навучання для 11 — 12 класаў. Раней нашы школьнікі вывучалі толькі тых пісьменнікаў, якія пісалі на літоўскай мове. Цяпер зроблены якасны крок наперад. У праграму ўключаны пісьменнікі, асветнікі, якія жылі ў Літве ці Вялікім Княстве Літоўскім і пісалі на латыні, беларускай, польскай, рускай, яўрэйскай, нават на французскай мовах. Так, у гэту праграму былі ўключаны і некаторыя вашы землякі — Радзівіл Сіротка, Тадэвуш Касцюшка, Адам Міцкевіч.

Чамусьці ў гэтым спісе не аказалася імя Янкі Купалы. Ён доўга жыў у Вільнюсе, тут выйшлі першыя яго кнігі на беларускай мове, тут ён выдаваў "Нашу ніву". Я з гэтым пытаннем звярнуўся ў адпаведнае міністэрства. Мне адказалі, што "падумаюць" над адказам.

Дарэчы, апошнім часам у Літве шмат зроблена, каб увекавечыць мясціны, дзе працавалі знатныя сыны беларускага народа. Адкрыты мемарыяльныя дошкі Францыску Скарыне, Янку Купалу, Максіму Гарэцкаму, іншым літаратарам. І гэту справу трэба працягваць. Мы, літоўцы, павінны ведаць, якую шматгранную культурную спадчыну пакінулі нам беларускія творцы. Думаю, што трэба паставіць у Вільнюсе і помнік Янку Купалу.

Цяпер у Літве аб'яўлены конкурс мастацкага перакладу. Можна перакладаць з 23 моў. Жадаў і я паўдзельнічаць у ім, але ў гэтым спісе няма беларускай мовы. Мне сказалі, што беларускія тэксты, канечне, уключылі б, але не знайшлося прафесійных экспертаў, якія б змаглі ацаніць якасць перакладу. Гэта трывожны званок. Мала беларуска-літоўскіх і літоўска-беларускіх слоўнікаў. Думаю, што на міністэрскім ці ўніверсітэцкім узроўні праблему можна вырашыць. Трэба загадзя рыхтаваць перакладчыкаў. Напрыклад, арганізаваць абмен студэнтамі, якія маюць літаратурныя здольнасці, і ў нас будуць адпаведныя спецыялісты.

Я вяду перапіску з Лідзіяй Арабей, Алесем Карлюкевічам, Уладзіславам Мачульскім, Георгіем Марчуком, Сяргеем Трахімёнкам, іншымі пісьменнікамі і заўсёды прашу, каб яны пісалі мне на сваёй роднай мове. Першая кніга на беларускай мове, якую я прачытаў, была Л. Арабей "На полымі кахання" — пра вядомую паэтэсу Алаізу Пашкевіч (Цётку). Яна жыла і працавала ў Вільнюсе, між іншым, выйшла замуж за літоўца.

Я ўжо пераклаў з беларускай мовы і апублікаваў некаторыя яе творы, а таксама Георгія Марчука. Цяпер займаюся перакладам Вольгі Караткевіч. Да Новага года планую выдаць сваю новую (15-ю) кнігу — зборнік эсэ пра беларускіх пісьменнікаў, паэтаў, якія на пачатку XX стагоддзя жылі, вучыліся і працавалі ў Літве, — Адам Станкевіч, Аляксандр Астрамовіч (Андрэй Зязюля), Канстанцін Стаповіч (Стэповіч, Казімір Сваяк), Станіслаў Глякоўскі (Stasiuk z-nad Niomna), Язэп Германовіч (Вінцук Адважны), Янка Семашкевіч (Янка Быліна) і іншыя знакамітыя літаратары.

# Дзяржаўная прэмія — заказ на значныя літаратурныя праекты

**Міхась ПАЗНЯКОЎ,**
**старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ**

Творы многіх літаратараў сталіцы за апошнія пяць гадоў надрукаваны больш як у 30 краінах свету. За сваю плённую творчую дзейнасць 15 пісьменнікаў сталічнага аддзялення адзначаны высокімі дзяржаўнымі ўзнагародамі. Спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта РБ, прэміяй "За духоўнае адраджэнне", а таксама прэміяй Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ўзнагароджаны за гэты час 12 нашых літаратараў.

Застаецца толькі шкадаваць, што Прэзідэнту краіны не паступае інфармацыя пра адметныя творчыя здабыткі лепшых творцаў нашага саюза.

Пісьменнікі сталічнага аддзялення — частыя госці ў дзіцячых садках, школах, іншых навучальных установах Мінска і рэспублікі, у музеях, бібліятэках, у Палацах культуры і г.д. Мы выступаем у вайсковых часцях, аўдыторыях ваенных навучальных устаноў, на пагранзаставах, у пагранатрадах.

Усё гэта сведчыць пра тое, што грамадствам запатрабавана сапраўдная, сумленная літаратура, што расце аўтарытэт нашай творчай арганізацыі, аўтарытэт пісьменніка.

Адзін з галоўных напрамкаў нашай дзейнасці — работа з юнымі і маладымі літаратарамі. Наш святы абавязак — выявіць, падтрымаць, выхаваць новую творчую змену. Праводзім літаратурныя конкурсы, арганізоўваем вучобу на семінарах, у школах юнага празаіка і юнага паэта, у літаратурных студыях і аб'яднаннях. Далучаем таленавітую моладзь да творчых выступленняў, праводзім кансультацыі, дапамагаем апублікаваць творы, рэдагуем першыя кнігі. Упершыню ў краіне ўкладзена анталогія маладой паэзіі Беларусі, у якую ўвайшло 180 маладых паэтаў (укладальнік — паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Міхась Башлакоў). А з 2011 года распачалі выпуск (упершыню ў гісторыі пісьменніцкай арганізацыі) кніжнай серыі "Мінскія маладыя галасы". Ужо выйшла дзве кнігі. Кожны год плануем выдаваць 5 — 7 першых кніг маладых аўтараў.

Не менш важкай з'яўляецца і работа з пісьменнікамі-ветэранамі, інвалідамі. У нас працуе адпаведная камісія, якую ўзначальвае Павел Саковіч.

Новаабранаму праўленню СПБ варта больш увагі надаваць творчаму працэсу, правесці ў будучым пашыраныя пленумы па такіх пытаннях літаратурна-пісьменніцкага жыцця, як: "Пісьменнік. Час. Грамадства", "Пісьменнік. Выдавец. Кнігагандляр. Бібліятэкар. Чытач", "Публіцыстыка. Набыткі. Праблемы. Задачы", "Крытыка. Набыткі. Праблемы. Задачы" і гэтак па ўсіх жанрах.

Не магу не выказацца па Дзяржаўнай прэміі. Раней было чатыры такія прэміі ў галіне літаратуры (проза, паэзія, дзіцячая літаратура і публіцыстыка). Цяпер — адна, ды і то за цэлы творчы блок.

Варта выступіць з ініцыятывай аб заснаванні хаця б дзвюх дзяржаўных літаратурных прэмій. Хай яны будуць не надта вялікія ў фінансавым вымярэнні, але, упэўнены, гэта паслужыла б актывізацыі літаратурнага працэсу, паспрыяла б стварэнню выдатных твораў, вартых нашага часу, з'явілася б пэўным дзяржаўным заказам на значныя літаратурныя праекты.

Некалькі слоў пра Рэспубліканскую прэмію за лепшы твор года "Залаты Купідон". Заснавана 11 намінацый. І гэта добра, каб усе жанры развіваць, заахвочваць. Варта стварыць моцнае, незалежнае журы па прысуджэнні гэтай прэміі. Не імкнуцца прадставіць усе рэгіёны, а сумленна вызначаць сапраўды лепшыя творы. Талент, высокі мастацкі ўзровень найперш! Нельга пагадзіцца з тым, што калі аўтар атрымаў прэмію ў адной з 11 намінацый, то не можа быць вылучаны пасля па нейкай іншай намінацыі. Інакш прэмія змізарнее і згубіць сваю вартасць і прызначэнне, адбудзецца дыскрэдытацыя яе. Наспела і правядзенне больш урачыстага свята па ўручэнні прэмій, мажліва, і ў гэтай зале ці ў Палацы Рэспублікі, а не спехам, як гэта бывае на святах Беларускага пісьменства.

Пажадана, каб пра літаратурны працэс, літаратурнае жыццё, таленавітыя кнігі больш расказвала наша тэлебачанне. Напрыклад, як гэта робіць Беларускае радыё, дзе пісьменнікі частыя госці эфіру, дзе гучаць іх творы, гутаркі з імі, рэкламуюцца кнігі, дзеля чаго плённа шчыруюць таксама і нашы калегі Навум Гальпяровіч, Маргарыта Прохар, Алесь Бадак, Таццяна Сівец.

Хочацца, каб мы, паважаныя калегі, глыбей учытваліся ў тыя творы, аўтарам якіх даём рэкамендацыю на ўступленне ў СПБ. Часам вельмі здзіўляе паспешлівасць у гэтым асобных пісьменнікаў, дача рэкамендацый літаратарам, узровень твораў якіх яшчэ далёкі да прафесіянальнага.

Пісьменнік — паняцце высокае, з'ява сацыяльная. Ён павінен спалучаць талент літаратара з талентам дабрыні, сумленнем і адказнасцю грамадзяніна. Тады яго дзейснае, сумленнае слова будзе ўзвышаць чытача, мацаваць яго сілу і веру, працаваць на стваральнасць, вучыць годнасці, спагадзе і любові. Гэтага я і жадаю нам усім у наш няпросты, але і цікавы час.

**Каскад карпусоў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта размяшчаецца непадалёк ад чыгуначнага вакзала сталіцы. Усе, хто завітвае ў Мінск, дзівяцца не толькі таму, як расквітнеў горад, а і колькасці маладых людзей на яго вуліцах. Далучыцца да клопатаў чалавека адукаванага можна адразу ва ўніверсітэцкім дворыку, дзе студэнты зазвычай бавяць час з падручнікамі па дысцыплінах: у атачэнні галоўнага корпуса ды памяшканняў розных факультэтаў ствараецца адмысловы макрасвет, які сягае далёка ў будучыню. Гэтымі днямі Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт святкуе сваё 90-годдзе. Пра традыцыі і навацыі, якія нараджаюцца ў сценах ВНУ, распавядае першы прарэктар, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар Міхаіл ЖУРАЎКОЎ.**



# У БДУ з’явяцца міжфакультэцкія спецыяльнасці

Ірына ТУЛУПАВА

**— Міхаіл Анатольевіч, слова *ўніверсітэт* досыць ёмістае паводле свайго значэння. Універсітэцкая адукацыя азначае пэўны ўзровень развіцця асобы, планку якога возьме не кожны. Выпускнік універсітэта — гэта высокаадукаваны інтэлігентны чалавек з шырокім кругаглядам і прагрэсіўнымі поглядамі. Як жа сёння забяспечваецца такі ўзровень адукацыі?**

— Як вядома, універсітэт — вышэйшая навучальная ўстанова, дзе рыхтуюць спецыялістаў па фундаментальных і шматлікіх прыкладных навуках. А ў сферы адукацыі якасць — гэта той нарматыўны ўзровень, якому павінен адпавядаць “прадукт” адукацыі. Ва ўмовах мадэрнізацыі якасць адукацыі якраз і паказвае канкурэнтныя перавагі той альбо іншай навучальнай установы.

Галоўнымі паказчыкамі якаснай падрыхтоўкі спецыяліста можна прыняць два асноўныя, я сказаў бы, інтэгральныя крытэрыі: гэта колькасць часу, якая неабходна выпускніку ВНУ для далейшай адаптацыі на рабочым месцы, і колькасць родных (сумежных) спецыяльнасцей, па якіх выпускнік можа працаваць.

**— Сёння лічыцца, што ўніверсітэт — гэта буйны вучэбны, навуковы і вытворчы цэнтр…**

— Шмат якія сучасныя ўніверсітэты дзейнічаюць менавіта як вучэбна-навукова-практычныя комплексы, і наш таксама. У склад сучаснага БДУ ўваходзіць 26 адукацыйных устаноў, у тым ліку 16 факультэтаў, ліцэй і каледж, 4 навукова-даследчыя інстытуты, 9 навуковых цэнтраў, 41 навукова-даследчая лабараторыя, 11 вытворчых прадпрыемстваў, 176 кафедр, 3 вучэбна-вопытныя станцыі, 3 музеі.

Да гонару: у нас на пастаяннай аснове працуюць 287 дактароў навук і 1370 кандыдатаў навук. З улікам сумяшчальнікаў працуюць 13 акадэмікаў і 18 членаў-карэспандэнтаў НАН Беларусі.

**— Але галоўнае ўсё ж універсітэт як вучэбны цэнтр. Ці з’яўляюцца новыя факультэты? Як пачуваюць сябе ў навучальным працэсе студэнты? Што ёсць ім у дапамогу?**

— Адразу зазначу, што выпускнікі ўніверсітэта запатрабаваныя на рынку працы. Калі ў 2006 годзе 15 працэнтаў выпускнікоў не атрымалі размеркавання з-за адсутнасці месцаў, то апошнімі гадамі гэты паказчык не перавышае 1 — 2 працэнтаў. Што да новых спецыяльнасцей, то, зразумела, яны з’яўляюцца, зыходзячы з патрэб інавацыйнай эканомікі. Цяпер мы думаем пра тое, каб укараніць міждысцыплінарныя, міжфакультэцкія спецыяльнасці. Сярод іх пазначыліся такія, якія цяжка аднесці да нейкай адной галіны. Да прыкладу, “Біяхімія” ці “Нанатэхналогіі”. Гэта адначасова і фізікі, і хімікі, і біёлагі. На якім факультэце спецыяльнасць адкрываць? Адказаць складана. Пакуль што адкрылі некалькі міжфакультэцкіх спецыяльнасцей, але на пэўных факультэтах і з прыцягненнем іншых спецыялістаў. У далейшым, думаю, паявяцца міжфакультэцкія кафедры.

Па новых факультэтах таксама ёсць напрацоўкі, яны будуць адкрывацца. Дарэчы, з 2007 года ў БДУ былі адкрытыя 4 новыя спецыяльнасці, 23 кірункі спецыяльнасцей і 44 спецыялізацыі.

Зроблены шэраг крокаў па ўдасканаленні падрыхтоўкі спецыялістаў для навуковай і вытворчай дзейнасці ў IT-сферы. Дастаткова згадаць: цяпер мы рыхтуем нават спецыялістаў, якія будуць запатрабаваныя пры рэалізацыі Нацыянальнай касмічнай праграмы, асваенні вытворчасці новых узораў тэхнікі.

*« Калі мы пазіцыяніруемся як вядучая навучальная ўстанова, то павінны ісці наперадзе ўсіх універсітэтаў і падтрымліваць рэнамэ нашай краіны ва ўсёй адукацыйнай прасторы. Што, думаю, мы паспяхова робім. Пра гэта сведчыць рэйтынг Беларускага дзяржаўнага сярод іншых універсітэтаў свету.*

**— Расказваюць, што сёлета ў Інтэрнэце можна было пабачыць прамую трансляцыю працэдуры залічэння вашых студэнтаў…**

— У БДУ досыць актыўна ўкараняюцца новыя адукацыйныя тэхналогіі: дыстанцыйная адукацыя, тэлекамунікацыйныя сістэмы, аддалены доступ да сістэм універсальных баз даных. Для ўніверсітэта цяпер актуальнае фарміраванне такога інфармацыйнага асяродка, які б садзейнічаў індывідуалізацыі навучання, павышэнню матывацыі далучэння да ведаў, а ў выніку — фарміраванню асобы, якая здольна дзейнічаць у сучасных умовах.

Распрацавана і актыўна выкарыстоўваецца сецевая адукацыйная платформа e-University; зманціравана суперкамп’ютарны кластар СКІФ. Створаная і пачала функцыянаваць электронная бібліятэка. Між іншым, з 2008 г. арганізуюцца тэлетрансляцыі ва ўнутранай сетцы БДУ, а ў 2009 годзе ўпершыню было арганізавана прамое інтэрнэт-вяшчанне з сайта БДУ, з 2010 года арганізаваны бесправодны Інтэрнэт у галоўным корпусе БДУ.

Так што, вяртаючыся да пачатку размовы, трэба зазначыць: якасць адукацыі становіцца фундаментальнай катэгорыяй дзяржаўнай палітыкі ва ўсім свеце, галоўным арыенцірам міжнароднай палітыкі ў галіне адукацыі. У Балонскім працэсе, скіраваным на стварэнне агульнаеўрапейскай сістэмы вышэйшай адукацыі, праблемы якасці займаюць найважнейшае месца. І мы вывучаем: што ж такое Балонскі працэс?

**— Раней універсітэт быў толькі адзін. Цяпер іх у краіне стала значна больш. Што ж робіць універсітэт Універсітэтам — вышэйшай навучальнай установай з вялікай літары? Якія традыцыі ён павінен захоўваць? Якім патрабаванням адпавядаць?**

— Традыцыі вынікаюць з асноўных мэт, якія ставіць перад сабою ўніверсітэт: гэта спалучэнне фундаментальных ведаў, добрай тэарэтычнай падрыхтоўкі і ўліку інавацыйных тэхналогій.

Калі мы пазіцыяніруемся як вядучая навучальная ўстанова, то павінны ісці наперадзе ўсіх універсітэтаў і падтрымліваць рэнамэ нашай краіны ва ўсёй адукацыйнай прасторы. Што, думаю, мы паспяхова робім. Пра гэта сведчыць рэйтынг Беларускага дзяржаўнага сярод іншых універсітэтаў свету.

Адпаведнае месца ў рэйтынгу вызначаецца па розных крытэрыях, у тым ліку і па тым, хто ва ўніверсітэце выкладае. Важна, ці ёсць нобелеўскія лаўрэаты, сусветна прызнаныя вучоныя з вялікім аўтарытэтам. Неабходна, каб ва ўніверсітэце развівалася навука і выкладаліся цікавыя прадметы. Па гэтым шляху мы і павінны рухацца. Нобелеўскіх лаўрэатаў пакуль у нас няма, затое ёсць лаўрэаты прэмій, заснаваных у краіне, і прэмій еўрапейскіх, міжнародных арганізацый. Але мы традыцыйна лічым: самыя галоўныя асобы ва ўніверсітэце — гэта прафесар і студэнт. Прафесар вызначае тэматыку і кірункі навуковых даследаванняў па спецыяльнасцях, спецыялізацыях і прадметах, якія выкладаюцца. Мы імкнёмся нават традыцыйныя класічныя прадметы выкладаць па-новаму. Усё больш і больш выводзім студэнтаў на самастойную працу. Гэта не значыць, што яны ў вольным плаванні. Але студэнт вызначае тэму, яму гавораць, што ён мусіць вывучыць, а затым занятакі праходзяць у форме гутаркі выкладчыка і студэнта. Таму наша пажаданне: каб кожны год абнаўленне вучэбнага матэрыялу было мінімум на 20 — 30 працэнтаў. Ёсць новыя формы выкладання. Часам здараецца: прафесар рэкамендуе студэнту знайсці ў бібліятэцы нейкі матэрыял. А ён адказвае: я ўжо знайшоў! У яго сёння ёсць мабільны тэлефон, нэтбук з магчымасцю выхаду ў Інтэрнэт… І матэрыял, які раней выкладаўся за семестр, цяпер можа быць разгледжаны цягам некалькіх лекцый. Аднак на выкладчыка ўскладваюцца зусім іншыя абавязацельствы, ён па-іншаму павінен рыхтавацца да заняткаў! Укараненне новых тэхналогій — гэта новае слова і ў падрыхтоўцы спецыялістаў. І тое, што адрознівае перадавы ўніверсітэт ад іншых.

*« Стварэнне ў БДУ Інстытута тэалогіі з’явілася значным крокам у аднаўленні еўрапейскай традыцыі ўніверсітэцкай адукацыі — нягледзячы на тое, што практычна ўсе еўрапейскія дзяржавы і адукацыя ў іх мае свецкі характар. Факультэты тэалогіі — неад’емная частка універсітэтаў. Гэта не толькі даніна традыцыі. Багаслоўе і навука з’яўляюцца двума шляхамі пазнання свету, якія дапаўняюць адно аднаго.*

**— У структуры ўніверсітэта ёсць свае інстытуты — у прыватнасці, Інстытут тэалогіі. Якія мэты перад сабой ставіць гэтая ВНУ і дзе працуюць яго выпускнікі?**

— Стварэнне ў 2004 годзе ў БДУ Інстытута тэалогіі з’явілася значным крокам у аднаўленні еўрапейскай традыцыі ўніверсітэцкай адукацыі — нягледзячы на тое, што практычна ўсе еўрапейскія дзяржавы і адукацыя ў іх маюць свецкі характар. Факультэты тэалогіі — неад’емная частка ўніверсітэтаў. Гэта не толькі даніна традыцыі. Багаслоўе і навука з’яўляюцца двума шляхамі пазнання свету, якія дапаўняюць адно аднаго. Навука і тэхналогіі сёння дасягнулі такога ўзроўню, што могуць забяспечыць практычна любое жаданне чалавека, але ні адна навука не гаворыць нам пра тое, чаго ж павінен жадаць чалавек. Тэалогія дазваляе бачыць чалавека не толькі з боку яго натуральных патрэбнасцей, а і з боку самакаштоўнасці.

**— Вядучая вышэйшая навучальная ўстанова краіны павінна быць флагманам і па ўкараненні і пашырэнні выкарыстання беларускай мовы. Філалагічны факультэт ды Інстытут журналістыкі БДУ падрыхтавалі шмат пісьменнікаў і журналістаў, якія працуюць на літаратурнай ніве і ў інфармацыйнай прасторы. Але што робіцца, каб пашыралася беларуская мова ў сценах ВНУ і ў краіне?**

— Зразумела, што сілавымі метадамі тут дзейнічаць не варта. У Інстытуце журналістыкі, на філасофскім факультэце шмат прадметаў выкладаецца на беларускай мове. Калі вы прыйдзеце на гістфак, то ўбачыце, што амаль усе дысцыпліны чытаюцца на роднай мове. Ды практычна на кожным факультэце ёсць выкладчыкі, якія чытаюць лекцыі на беларускай мове, шмат студэнтаў, якія адказваюць па-беларуску. І зусім няма ніякага антаганізму. Дарэчы, многія пасяджэнні вучонага савета праходзяць таксама на беларускай. Просім выкладчыкаў, асабліва прыродазнаўчых, гуманітарных факультэтаў, каб хаця спецкурсы чыталі па-беларуску. Але… Мы вельмі ўважліва вывучалі вопыт Украіны. Яны, да прыкладу, свае прыродазнаўчыя дысцыпліны перавялі на ўкраінскую. І паўсталі вельмі сур’ёзныя праблемы ад таго, што іх навуковыя часопісы перасталі выходзіць на міжнародны ўзровень. А гэта дрэнна!

**— Зразумела, што цягам гадоў умацоўваецца міжнародны аўтарытэт БДУ. З ВНУ якіх краін устаноўлены стасункі?**

— Натуральна, мы маем вельмі моцныя, фундаментальныя стасункі з Расіяй: па ўсіх кірунках навукі. Апошнім часам актыўна развіваюцца стасункі з Кітаем, В’етнамам, Карэяй. Вельмі добрыя адносіны нашага філалагічнага факультэта з кітайскімі ВНУ. Нядрэнныя кантакты пачалі наладжвацца з Лацінскай Амерыкай — Бразіліяй, Венесуэлай. Еўропа ў адукацыі кансерватыўная, дастаткова складана ўвайсці ў яе адукацыйнае супольніцтва, але працуем мы з усімі краінамі свету. БДУ сёння мае больш як 270 міжнародных пагадненняў з навукова-адукацыйнымі цэнтрамі пяцідзесяці краін свету.

**— На ваш погляд, што змянілася ў характары сучасных студэнтаў?**

— Студэнты застаюцца студэнтамі ва ўсе часы. Яны і вучацца, і вядуць актыўны лад жыцця. Адзінае маё назіранне, што студэнты сталі больш прагматычнымі. Яны першапачаткова нацэлены на канчатковы вынік. І калі раней бачылі сябе вядомымі вучонымі, выкладчыкамі, то цяпер у асноўным імкнуцца ў вялікі бізнес альбо ў сферу, якая прыносіць эканамічныя дывідэнды. Не ведаючы, што спатрэбіцца ў будучым, яны часта задаюць дзіўныя пытанні кшталту: “Навошта мне гэта дысцыпліна, калі я яе ніколі не скарыстаю?”

**— Але калі пытанні задаюць, значыць, дрэва пазнання яшчэ жывое…**

— Ведаеце, я вылучаю тры групы студэнтаў. Таленавітыя, моцныя сярэднія і ніякія. Сярод апошніх ёсць тыя, хто пайшоў не туды, куды хацеў, і таму “не цягне”. Касцяк студэнцтва заўсёды складае сярэдняя частка. З іх вырастаюць добрыя спецыялісты. Раней гэтая частка была вялікая: больш як дзве трэці студэнтаў. Адна трэць даводзілася на таленавітых і іншых. Цяпер таленавітых і якраз засталося столькі, колькі і было. А сярэдняя маса, на жаль, перамяшчаецца да апошняй. Яны кажуць: мне дастаткова спецыяльных ведаў і больш не трэба. Пра шырокі кругагляд гаварыць не даводзіцца. Таму ва ўніверсітэце патрэбна падрыхтоўка бакалаўраў і магістраў. Найперш — людзей, якія маюць неабходны набор ведаў і добра працуюць. Але чалавек з шырокім дыяпазонам запатрабаванняў павінен вучыцца далей.

**— Наколькі моцныя да вас ідуць абітурыенты? Якія цяпер стартавыя пазіцыі ў навучанні: ці не зніжаюцца яны з улікам дэмаграфічнай сітуацыі? І якое будучае чакае ўніверсітэт?**

— Мы прыйшлі ўжо да таго часу, калі ўніверсітэты пачынаюць канкураваць паміж сабой за студэнтаў. Але, з іншага боку, і працадаўцы часцей пытаюцца: “Як жа ты вучыўся?” — ды просяць паглядзець укладыш у дыплом. На Захадзе, да прыкладу, ёсць дзясятак універсітэтаў, выпускнікоў якіх бяруць адразу, а іншыя павінны пацвердзіць сваю кваліфікацыю.

Сёння мы ўжо думаем над канцэпцыяй далейшага развіцця БДУ. Прадугледжваецца істотнае ўмацаванне пазіцый універсітэта як сучаснага адукацыйнага і навукова-інавацыйнага цэнтра Рэспублікі Беларусь, плануем павялічыць колькасць навукова-педагагічных работнікаў з ліку таленавітай моладзі, шмат іншых стратэгічных момантаў, якія мы вызначылі аж да 2021 года. Каб стратэгія развіцця адукацыі не саступала лепшым універсітэтам свету.

# Промні далёкага лета

*Ці помніцца вам гарачае лета 1992-га? Першы год беларускай незалежнасці, подых свежых вятроў у грамадстве і ў той жа час — вялікія ўзрушэнні, нестабільнасць эканамічная і палітычная, спароджаныя абвалам былой вялікай дзяржавы. Зрэшты, у кожнага — свае ўспаміны. Што ж да паэтаў, то яны, бадай, заўсёды жывуць крыху па-за рэальнасцю суровай штодзённасці: і сёння, і дваццаць, і сто гадоў таму. І, аднак, часта прадбачаць тое, чаго ніяк не спасцігнеш рацыянальнай логікай.*

*Прапануем увазе чытачоў гэткі паэтычны рэпартаж з мінуўшчыны — нізку вершаў і асэнсаў (лірычна-філасофскіх развагаў) Івана Ждановіча, напісаных ім 19 гадоў таму.*

*Творы друкуюцца ўпершыню.*



Іван Ждановіч

## Мода на колер

*Уборы чорныя хаваю*
*Ў чакання мех…*
*— Жанчына ў чорным,*
*Не ўгадаю:*
*Чаму твой смех?*

*Адзенне белае-святое*
*На святы ўбачу…*
*— Жанчына ў белым,*
*Што з табою?*
*Чаму ты плачаш?*

*Адзенні… Розныя адценні…*
*Кантраст, пастэль…*
*Ці модна чорнае — з цяpпеннем?*
*З адчаем — бель?*

*А можна выбраць*
*Колер сэнсу —*
*Блакіт і сінь, —*
*Каб стаць бліжэй*
*Да рэк, да лесу*
*І да вяршынь?*

*Аднак ці ж сэнсам я спатолю*
*Пытання грэх:*
*Чаму*
*Пад белым — гронка болю,*
*А ў чорным — смех?*

## На пераходзе

*Бераг мора — край зямлі…*
*Вузкая безжыццёвая паласа*
*З жоўтага пяску і камянёў —*
*Мяжа паміж*
*Светам блакітнага*
*І*
*Светам зялёнага.*
*Нейтральная паласа:*
*Яшчэ не мора*
*І*
*Ўжо не зямля.*
*На адпачынак*
*Людзі імкнуцца*
*Менавіта сюды:*
*І тыя, хто працуе на зямлі,*
*І тыя, хто ў моры.*
*Няўжо найбольшы адпачынак*
*Для цела й душы —*
*Вось на гэтым*
*Безжыццёвым памежжы?*
*Няўжо найбольшая асалода —*
*На гэтым*
*Пераходзе*
*Паміж двума светамі жыцця:*
*Непахіснасцю зямлі*
*І*
*Зменлівасцю мора?*
*…Пляж —*
*Гарызантальная мадэль*
*Непазбежнага пераходу*
*Ў іншы,*
*Неспазнаны свет,*
*Які ўвесь час*
*Імкнёмся спазнаць?*

## Жаданне і грэх

*Жаданні, кажуць філосафы,*
*Зводзяць людзей*
*Да грахоў…*

*Жаданне — граху прадчуванне?*
*Жаданне ж*
*Вядзе й да пазнання!*
*Жаданне — прадвесце спазнання?*

*Жадаць*
*Можна толькі таго,*
*Што яшчэ да канца*
*Не спазнана.*

*Не жадае вады наталёны…*
*Не жадае насычаны — ежы…*
*Пэўна, ўсе, каго бачым наўкола,*
*Не спазналі яшчэ*
*Да Вялікай Мяжы*
*Таямніцу жыцця,*
*І законаў яго прыгажосць…*
*І таму — праз жаданні ідзем,*
*Праз грахі ды праз церні —*
*Шляхамі пазнання.*
*…Мы ў дарозе,*
*Пакуль не напоўніцца*
*Сонцам душа.*
*І тады — азарэнне?*
*Момант ісціны?*
*Можа, тады й перастанем жадаць?*
*…А пакуль — аніяк не магу*
*Пажадаць сабе, каб*
*Не жадаць*
*А-ні-чо-га.*



*Фота Кастуся Дробава*



Юрка Голуб

## Год

*Бы ледаход, знікае год:*
*Не змог за бераг зачапіцца.*
*Застаўся помны эпізод:*
*Як навальніца на Грамніцы*
*Зламала воблакі і лёд.*

*Трыпутнікам зыходзіў год,*
*Ды пакідаў жывыя словы.*
*Сіваваронкамі на дрот*
*Ляцелі промні. І суровым*
*Не быў на восень паварот.*

*У бронзу апранаўся год,*
*Каб залучыцца ў небасхілы.*
*А ліставерці ў карагод*
*Карцела выскачыць штосілы,*
*Ды шлях канчаўся ля варот.*

*Паломнікам вяртаўся год:*
*Займаў дзялянку пад сумёты,*
*Каб сцюжам стаўся агарод*
*Найбольш прытулкам для самоты.*
*І не спыняўся карагод.*

## Элегія Свіцязі

**Яўгену Лецку**

*Варухнуў на чароце*
*Нехта поўні замок.*
*Зорак звалена процьма:*
*Невад з неба звалок.*

*Вецер здужаў — аберуч*
*Напінае намёт.*
*Ствольна ўзносіцца бераг,*
*Як на вечнасць намёк.*

*Лямпу зрок ці запаліць?*
*Кнот нябыту пагас.*
*Толькі ў вока запала:*
*Свіцязь свеціць між нас.*

*Іскра — цемры ахвяра.*
*Задыхаецца дым.*
*Тое ім — па-за карай…*
*…Перад свечкай стаім.*

## З начлегу ў Белавежы

*Дзе нанач супыніўся Бог,*
*А маладзік акно завешваў,*
*Там час часаў зубрыны рог*
*Аб шула дрэмнай Белавежы.*

*На тле барвовага куп'я*
*Смялелі птушкі на акордах.*
*Дзе скарб Ярыла закапаў*
*На загуменні вёскі Корнадзь.*

*Пацеху клямкай зашчапіць*
*Анёлы раілі малойцу.*
*Грамы не хапнуць за цапы —*
*Цяпер зусім інакш малоцяць.*

*Нібы замшэлы запавет,*
*Легенду здані неслі ўпрочкі.*
*Ды страсянуў лаўцоў як след*
*Нябачны збоку стораж ночкі.*

*… Уладу вершыць на сталé*
*Прамень рашучы — у палоску,*
*І там, дзе ранак настае,*
*Расу аблізвае з пялёстка.*

## З дарогі

*Сябе аднойчы перамог,*
*І жыць наперад палягчала.*
*І з поўнай выкладкай дарог*
*Спацела кайстра за плячамі.*

*А злоснік стаў адным з заік.*
*Здзівіся, мусібыць, паплечнік.*
*І ўсё таму, што ты з-за іх*
*Закінуў роспач у запечча.*

*Світае ранак. Дзень пяе.*
*Цвіргоча коніка напільнік.*
*Раней ён быў амаль паэт,*
*Цяпер — паэзіі прыхільнік.*

*Ці варта бавіцца з нудой?*
*Вяршыцца без прыпынку жытка.*
*І зорка асвятляе дол,*
*І васілёк злятае ў жыта.*



Лёля Багдановіч

## Родная мова

*Родная мова — матчына мова.*
*Ззяе вясёлкаю кожнае слова.*
*Кожная літара — кропля з крыніцы,*
*Колькі ні піў бы — не наталіцца.*
*Раны загоіць, дасць паратунак.*
*Дзедавых гусляў чароўныя струны*
*Кожнае сэрца спаўюць у пяшчоту,*
*Мігам прагоняць адчай і самоту.*
*Родная мова, голас твой чысты.*
*Пацеркі-гукі звіняць, як маністы.*

## Малая радзіма

**Сваёй роднай вёсачцы Градзянка, што на Магілёўшчыне, прысвячаю.**

*Мая маленькая радзіма —*
*Кранаюць зорачкі лясы.*
*Куточак на зямлі адзіны,*
*Дзе чую продкаў галасы.*
*Кіёчак згорблены ля ганка,*
*Вакол матульчыны сляды...*
*Асірацелая Градзянка*
*Зусім ссівела праз гады.*
*За хатаю знікае хата,*
*Забыліся пра радавод,*
*І стала вуліца шчарбатай,*
*Зарос бабулін агарод.*
*Гады ляцяць, як тое лісце,*
*Ды я дагэтуль бачу ў снах:*
*Маленькі брацік у калысцы,*
*Пяшчота ў маміных вачах.*
*Мая задумлівая вёска,*
*Не зберагні цябе, прабач.*
*Як адляцяць у вырай вёсны,*
*Ты над душой маёй паплач...*

## Роздум...

*У спадчыну мне Богам дадзена*
*Зямля бацькоў, дзядоў і прадзедаў*
*З лугамі роснымі, мурожнымі*
*І са світанкамі прыгожымі,*
*Гаі, дубровы неабсяжныя,*
*Буслы на сенакосе важныя,*
*Вада гаючая ў крыніцы*
*І подых летняй навальніцы,*
*Завея вечарам зімовым,*
*Пяшчотныя матулі словы,*
*Галінка яблыні ў акенцы*
*Ды скрып масніцы у сенцах,*
*Накрыты стол льняным абрусам*
*І — гонар звацца беларусам.*

## Поўня

*Нарэшце быў ты толькі мой —*
*Люляў мяне, нібы малую.*
*І зоркі соннай чарадой*
*Глядзелі ў цемру векавую.*
*Падперазаўшыся, як дзед,*
*Сачыў за імі месяц важны.*
*На сцежцы Млечнай кожны след*
*У срэбным рэшаце узважваў.*
*Прыціхла ўсё. Спыніўся час.*
*Імгненне знічкаю зляцела.*
*Душа гукала на Парнас*
*Бязважка-стомленае цела...*

## Заложніца

*За вішнёвым плотам,*
*За трыма замкамі*
*Плача адзінота*
*Доўгімі начамі.*
*Выцвілі вочы,*
*Сэрцайка знямела.*
*Сум у хату скочыў*
*З ветрам ашалелым.*
*Удваіх нялоўка*
*І няма гаворкі.*
*Месяц у начоўках*
*Калыхае зорку.*
*Заспявала б песню,*
*Ды згубіла словы.*
*Шанаваці меўся,*
*Ды забыць гатовы.*
*За вішнёвым плотам,*
*За трыма замкамі*
*Клічу я пяшчоту,*
*Што згубілі самі...*

**Германія — краіна з высокаразвітай выдавецкай і кніжнай культурай, сведчаннем чаму з'яўляецца найбуйнейшы ў свеце Міжнародны кніжны кірмаш у Франкфурце-на-Майне. Ужо тры гады працягваецца праект "Павышэнне кваліфікацыі спецыялістаў выдавецкай справы краін Усходняй Еўропы і Цэнтральнай Азіі", у якасці ініцыятара якога выступае Інстытут імя Гётэ. Найважнейшым аспектам удзелу ў праграме з'яўляецца тое, што нямецкія калегі не прапаноўваюць нам, кнігавыдаўцам і кнігагандлярам з розных краін, цалкам пераймаць іх досвед. Яны знаёмяць са сваімі напрацоўкамі — шляхам удзелу ў тэматычных семінарах, а таксама праз азнаямленчыя паездкі на кніжныя выстаўкі. І вось у межах праекта павышэння кваліфікацыі не так даўно была арганізавана чарговая паездка выдаўцоў у Франкфурт-на-Майне.**




# Фэст слова ў Франкфурце

**Кацярына СІМАН,**
**Мінск — Франкфурт-на-Майне — Мінск,**
**фота аўтара**

## Германія: агульная характарыстыка рынку

У першы дзень праграмы адбылася гутарка з Рольфам Нютэнам, дырэктарам камітэта выдаўцоў Біржавага саюза нямецкага кнігагандлю. Дадзеныя, якія адлюстроўваюць тэндэнцыю развіцця кніжнага рынку Германіі, дапамаглі дакладна ўявіць агульны стан спраў у сучасным кніжным свеце. На нямецкім рынку чытачу прапаноўваецца каля 1,5 млн. найменняў кніг. Галоўнай асаблівасцю з'яўляецца раўнамернае размеркаванне кнігарань — гэта адзін з асноўных крытэрыяў стабільнасці і сталасці рынку. Але сёння назіраецца тэндэнцыя: буйныя кніжныя сеткі паступова звужаюць спецыялізацыю і скарачаюць гандлёвыя плошчы. Пры гэтым зніжаюцца аб'ёмы продажаў у стацыянарных кнігарнях, але павялічваюцца продажы кніг па пошце. Справа ў тым, што ў Германіі існуе фіксаваная цана на кнігі, але чытач можа атрымаць "палёгку" ў выглядзе нізкага тарыфу на дастаўку (пры гэтым ёсць шэраг абавязковых умоў, напрыклад, вага пасылкі не павінна перавышаць 2 кілаграмы).

Ёсць і іншы выхад з сітуацыі. Адзін са складнікаў поспеху нямецкага кніжнага рынку — наяўнасць прамежкавага звяна паміж кнігавыдаўцом і кнігагандляром у выглядзе так званых калектараў, якія дазваляюць крамам пазбегнуць складавання кніжных запасаў і пры гэтым забяспечваюць даступнасць патрэбнай кнігі ў любой кропцы краіны за працягу 24 гадзін. Акрамя таго, падобным звяном прамежкавага гандлю могуць лічыцца прамыя продажы выдавецтваў. Так распаўсюджваецца спецыялізаваная літаратура, якую набываюць навуковыя і бізнес-цэнтры і арганізацыі, а таксама юрыдычныя кансультацыі.

Ва ўсім свеце ў апошні час усё больш кажуць пра ўкараненне сучасных тэхналогій у розныя сферы бізнесу, тым больш у кнігавыданне. Аднак разнастайныя апытанні паказваюць, што нямецкі чытач усё яшчэ непарыўнальна часцей выбірае класічную папяровую кнігу. Сведчанне таму — папулярнасць Франкфурцкага кніжнага кірмашу, які стаўся самай доўгачаканай кропкай прыпынку падчас наведвання Германіі.

## Дзе б'ецца сэрца кнігі?

Падчас працы кірмашу мы мелі магчымасць пагутарыць з Тобіасам Фосам (віцэ-прэзідэнтам і кіраўніком міжнароднага аддзела Франкфурцкага кніжнага кірмашу), Уладзіміраі Купска (акаўнт-менеджарам рэгіёна Цэнтральнай і Усходняй Еўропы), Аляксандрам Скіпісам (галоўным дырэктарам Біржавога саюза нямецкага гандлю). Прайшлі сустрэчы з прадстаўнікамі выдавецтваў *Peter Hammer* і *Campus*. Падчас гэтых імпрэз былі разгледжаны пытанні права і ліцэнзій, а таксама дадзены агляд нямецкага рынку кніг для дзяцей і падлеткаў. Дакладчыкі не толькі з вялікім задавальненнем прэзентавалі агульны агляд кніжнага рынку краіны, але і з цікавасцю выслухоўвалі пытанні, што датычылі магчымасці выкарыстання нямецкага досведу на рынках краін СНД.

Што ж можна сказаць пра саму выстаўку? Гэта не проста кірмаш кніг. Гэта цэлая кніжная краіна. Акрамя новых тэхналогій сёлета ўсе шмат гаварылі пра Ісландыю, бо менавіта гэтая краіна стала ганаровым госцем фэсту ў Франкфурце. Значна тое, што мерапрыемствы, якія прадстаўляюць краіну-ганаровага госця, праходзілі не толькі на выставачных пляцоўках, але і па ўсёй Германіі.

Якая ж краіна мае права атрымаць падобны статус на найбуйнейшым у свеце кніжным кірмашы? Адна з неабходных умоў — наяўнасць высокаразвітай выдавецкай і кнігагандлёвай сферы. Дзейнасць кніжнага бізнесу павінна распаўсюджвацца за яе межы і займаць сусветныя пазіцыі. Разам з тым неабходна, каб дзяржава здзяйсняла двухбаковыя пагадненні ў адносінах да аўтарскага права, а таксама каб прадаваліся правы для перакладу твораў з нацыянальнай мовы на нямецкую. Пры гэтым у краіне павінен існаваць цэнтр, які садзейнічае перакладам. Асабліва быў адзначаны той факт, што выдавецтвам S.Fischer было выпушчана пяць тамоў ісландскіх легенд у перакладзе на пяць моў. Падрыхтоўка Ісландыі да ўдзелу ў форуме ў якасці ганаровага госця праходзіла на працягу трох год!




У першыя дні выстаўкі яе наведвальнікамі могуць стаць толькі спецыялісты-кнжнікі. Бо Франкфурцкі кірмаш — гэта ў першую чаргу найбуйнейшая арэна для заключэння здзелак адносна ліцэнзій і аўтарскага права. І толькі ў выхадныя дні патрапіць сюды мог любы ахвочы.

Падчас сустрэчы Тобіас Фос звярнуў нашу ўвагу на тое, што з 2010 года распрацавана новая праграма — Frankfurt Sparks. З яе дапамогай ажыццяўляюцца імгненныя рэакцыі на змены кніжнага рынку. Асноўны кірунак функцыянавання праграмы — дыгіталізацыя. Апроч гэтага, яна выявіла агульныя заканамернасці і тэндэнцыі ў змене каналаў збыту.

Закраналіся таксама і пытанні многіх іншых трансфармацый у кніжнай справе. Так, раней існаваў ланцужок: аўтар — выдавец — кнігагандляр. За апошнія 10—15 гадоў у сістэму ўвайшлі новыя часткі і занялі месца паміж аўтарам і выдаўцом. Гэта агенты. Не ўсіх задавальняе іх прысутнасць у справе, але ж, з іншага боку, без садзейнічання агентаў мы б не атрымалі сёння тую багатую карціну ўзаемапранікнення і ўзаемаўзбагачэння культур. Але на гэтым разнастайнасць гульцоў новага кніжнага свету не скончылася. Шмат у чым гэтаму паспрыяў менавіта Франкфурцкі кірмаш. Цяпер тут частымі гасцямі і ўдзельнікамі сталі прадстаўнікі кінаіндустрыі, вытворцы гульняў, спецыялісты адукацыйнай сферы. Задача кірмашу — злучыць усіх удзельнікаў і ў якасці выніку атрымаць новыя шляхі збыту кантэнту.

Таксама сёлета павільёны Франкфурта былі багатыя на так званыя "гарачыя кропкі" (Hot Spots). Гэта яшчэ адна навінка — сумесныя стэнды, на якіх можна было атрымаць інфармацыю адносна кніг пэўнай тэмы, кожнай з іх быў вылучаны свой Hot Spot. Тут жа праводзіліся тэматычныя імпрэзы і дыскусіі спецыялістаў.

Многія эксперты кніжнай індустрыі прыраўноўваюць удзел у Франкфурцкім кірмашы да Алімпійскіх гульняў. Афіцыйная статыстыка 2011 года абвяшчае: больш як 7300 удзельнікаў з 106 краін свету, 3200 імпрэз і 280 тысяч гасцей за пяць дзён. Найбуйнейшы горад зямлі Гесэн знакаміты не толькі сваімі банкамі. Штогод тут вырашаецца лёс кніг, ствараецца будучыня. Без перабольшання можна сказаць: у Франкфурце б'ецца сэрца кнігі. І рытм яму сёння, як і летась, задавалі лічбавыя тэхналогіі. Інфармацыйна-тэхналагічная рэвалюцыя, якая ўжо адбылася ў кніжным свеце, — неаспрэчны факт. І менавіта таму мы прынялі ўдзел у семінары па самапублікацыях. У аснове сістэмы — інтэрактыўны паблішынг. Так, аўтар працуе ў прамым кантакце з чытачом, стала абапіраючыся на яго водгук. А значыць, дзейнічае не наўзгад і наўпрост, а, ведаючы спадзевы чытача, дае яму жаданае.

Сёлетні кірмаш быў багаты і на выбітных і зорных гасцей. Фэст слова наведалі не толькі Марыё Варгас Льёса і Умберта Эка, але і Джымі Уэйлс, бацька-заснавальнік "Вікіпедыі". Здзіўленне многіх патлумачылі проста: "Наш праект — гэта таксама кніга, але толькі ў прынцыпова новым разуменні гэтага слова… гэта кніга, якую пішуць, чытаюць і рэдагуюць тысячы людзей ва ўсім свеце".

Значна і тое, што ўвага большасці наведвальнікаў была прыцягнута да працы станка Іагана Гутэнберга. Дакладная копія вялікага вынаходніцтва была дастаўлена на форум з Музея Гутэнберга ў Майнцы. Так, кожны ахвочы мог дакрануцца да таямніц стварэння першых кніг і паспрабаваць сябе ў ролі першадрукара.

Як ужо згадвалася, сёлета ганаровым госцем Франкфурцкага кніжнага кірмашу стала Ісландыя. Папулярнасць ісландскіх аўтараў — праява агульнай тэндэнцыі ажыўлення і ўздыму ва ўсёй скандынаўскай літаратуры апошніх гадоў. Павільён Ісландыі міжволі прыцягваў погляды наведвальнікаў. Утульная паўцемра, зручна спланаваная мультымедыйная прастора, дзе на экранах можна было не толькі любавацца ісландскімі пейзажамі непараўнальнай прыгажосці, але і бачыць граматна падабраныя відэазамалёўкі, якія перадаюць любоў ісландцаў да кнігі і чытання. Здавалася, не было ніводнага наведвальніка, хто застаўся б раўнадушным да страдаўняй драўлянай мэблі, асветленай цёплым жоўтым святлом.

Нават калі вы не ведаеце ні слова паісландску, вы б усё роўна ўладкаваліся зручней і ўзялі ў рукі адну з выдатных кніг ісландскіх казак. Так зараджаецца любоў да кнігі — без слоў, ад самога сэрца…

***На здымках:** стэнды ўдзельнікаў Франкфурцкага кніжнага кірмашу.*

**P.S. Чытаючы і слухаючы расповеды пра кірмаш у Франкфурце, міжволі задаешся пытаннем: а ці былі там беларусы? Натуральна, былі. Пра тое, як пачуваліся прадстаўнікі айчынных выдавецтваў на самым буйным кніжным форуме свету, а таксама як да іх ставіліся гаспадары і госці выстаўкі, мы распавядзём у адным з наступных выпускаў "Кніжнага свету".**

## Беларускія літаратурныя адрасы ў Расіі

# Сляды паэта

**Максім МІРШЧЫНА,**
**Мінск — Яраслаўль — Мінск**

Днямі патрапіў на вочы нарыс рускага паэта Яўгена Савінава "Зямля франтавога юнацтва". "...што можа быць цяжэй вайны? Пехацінцам прабіваўся я балотамі ля возера Езярышча, начаваў у снягах пад Віцебскам, у спёку лета 1944 года праходзіў каля Полацка і перапраўляўся праз рэкі Дрыса і Заходняя Дзвіна ў напрамку Латвіі. Асабліва памятаю заснежаны Гарадок", — піша Яўген Фёдаравіч. І далей: "Вярнуўшыся пасля вайны дахаты, на Волгу, у старажытны горад Яраслаўль, я ніколі не забываў прывабліва, шматпакутную Беларусь. І мяне заўсёды цягнула як мага болей даведацца пра жыццё народа, які палюбўся мне. Я чытаў і перачытваў вершы Янкі Купалы і Якуба Коласа, баладу Аркадзя Куляшова (калісьці яго "Сцяг брыгады" і "Камсамольскі білет" я ведаў на памяць). І з вялікай радасцю адкрыў для сябе, што класік беларускай літаратуры Максім Багдановіч пастаянна жыў у маім горадзе..." Максім Багдановіч і цяпер жыве, прысутнічае ў прасторы Яраслаўля. Пра гэта сведчыць і той факт, што ў старажытным горадзе працуе музей класіка беларускай літаратуры. Якая ўвага да скарбонкі літаратурнай памяці — пра гэта наша размова з навуковым супрацоўнікам-экскурсаводам Музея Максіма Багдановіча Кацярынай Лысенкавай.

**— Кацярына Сяргееўна, з чаго пачаўся музей?**

— Афіцыйна музей быў адкрыты 9 снежня 1992 года пад назвай "Літаратурнае жыццё Яраслаўскага краю". І на той час з'яўляўся філіялам Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея-запаведніка М. А. Някрасава "Карабіха". У 1995 годзе музей стаў самастойнай муніцыпальнай установай культуры, а ў дадатак атрымаў статус Цэнтра беларускай культуры. У 2000 годзе ў Расіі адбыліся некаторыя змены ў фінансаванні культуры, была ўведзена так званая казначэйская форма выканання бюджэту. І адпаведна 9 верасня 2000 года мэр Яраслаўля прыняў Пастанову аб наданні Музею М. Багдановіча статуса філіяла Музея гісторыі горада Яраслаўля.

**— І як жа вы цяпер афіцыйна называецеся?**

— "Цэнтр беларускай культуры. Музей Максіма Багдановіча", а ў дужках дадаём: "Філіял муніцыпальнай установы культуры "Музей гісторыі горада Яраслаўля". Кіраўнік — загадчыца філіяла (дырэктар) Наталля Валянцінаўна Прохарава.

**— З чаго складаецца экспазіцыя?**

— У музеі тры залы. Першая прысвечана дзяцінству і юнацтву Максіма Багдановіча, гісторыі сям'і Багдановічаў. Другая зала — гісторыя дома і сям'і Ржэўскіх. Трэцяя — падрабязны расповед пра яраслаўскае атачэнне Максіма Багдановіча, а таксама пра яраслаўскі перыяд у жыцці Адама Ягоравіча і яго трэцяй сям'і. Аўтарамі мастацкай канцэпцыі новай экспазіцыі з'яўляюцца яраслаўскія мастакі Іван Мітрафанаваў і Іван Бухараў. Новая экспазіцыя будавалася на аснове навуковай канцэпцыі, падрыхтаванай навуковымі супрацоўнікамі Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Мінску. У экспазіцыі прадстаўлены 133 экспанаты. Збіраліся яны агульнымі намаганнямі. Нешта прынеслі яраслаўцы, шмат што падаравалі з мінскага музея. Сярод экспанатаў — ацалелая пасля пажару 1918 года бібліятэка Адама Ягоравіча Багдановіча. У бацькі паэта былі ўнікальныя кнігі, сапраўдныя шэдэўры сусветнай мастацкай літаратуры. Дзеці адкрывалі класіку з маленства.

**— Згадваю радкі з нарыса Яўгена Савінава: "...Быў я "дапушчаны" да бібліятэкі Адама Ягоравіча, якая ў дакладнасці паўтарала згублены збор кніг А. М. Горкага ў Ніжнім Ноўгарадзе. Калісьці абодва сваякі куплялі аднолькавыя кнігі, і па бібліятэцы А. Я. Багдановіча можна было меркаваць пра інтарэсы Горкага ў складаны перыяд яго духоўнага жыцця..."**

— Так, сапраўды, кнігі заўсёды аказваюцца шматслоўнымі, гавораць часам нават болей, чым у іх напісана. Асабліва калі знаёмішся з імі ў межах пэўнай калекцыі, пэўнага збору.

У экспазіцыі музея мне найбольш цікавымі падаюцца два досыць каштоўныя экспанаты. Піяніна, якое падарылі музею нашчадкі Дзідора Дэбольскага — сябра Максіма па гімназіі. Гэты інструмент часта слухаў Максім, прыходзячы ў госці да Дэбольскіх. І яшчэ адзін каштоўны экспанат — геліягравюра Рафаэля "Сікстынская Мадонна". Карціна — падарунак Максіма Горкага. Містычным чынам гравюра ацалела пасля пажару 1918 года. Максім любіў глядзець на карціну, яна натхніла яго на стварэнне цыкла лірычных вершаў "Мадонна". На мой погляд, геліягравюра надае асаблівы каларыт інтэр'еру драўлянай хаты.

**— Пашыраць прастору памяці пра беларускага паэта далёка ад Беларусі, відаць, няпроста... З кім падтрымліваеце партнёрскія стасункі, хто дапамагае ў рабоце музея?**

— Галоўным нашым добрым і надзейным партнёрам з'яўляецца мінскі музей Максіма Багдановіча. Істотна дапамагаюць Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Апарат Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь. Супрацоўнічаем з таварыствамі "Радзіма", "Бацькаўшчына". Добрыя сябры музея — Пасольства Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі, ФНКА "Беларусы Расіі", Яраслаўскае рэгіянальнае аддзяленне Асамблеі народаў Расіі. І гэта вельмі важна, калі ёсць на каго абаперціся. А яшчэ пра нас ведаюць як пра асяродак беларускай культуры. Музей выразна акрэсліва гэты клопат, гэты накірунак.

**— Ці шмат наведвальнікаў прыходзіць да вас?**

— Ёсць пэўная статыстыка. У 2009 годзе да нас завіталі 3028 чалавек, у 2010-м — 3763.




Палову складаюць школьнікі. Але лічым, што не так важна, колькі чалавек наведвае музей. Галоўнае, што кожны наведвальнік прыходзіць сюды невыпадкова. Музей Максіма Багдановіча ў Яраслаўлі — гэта цэнтр беларускай культуры. Таму і наведваюць яго людзі неабыякавыя, цікаўныя да беларускай культуры, літаратуры ўвогуле. Прыходзяць і тыя, хто ўпершыню прачытаў нешта з Багдановіча і даведаўся, што такі яркі, цікавы паэт звязаны з іх горадам.

**— Якія ініцыятывы збіраецеся рэалізаваць у бліжэйшы час?**

— У 2010 — 2011 гадах на сродкі Гранта губернатара Яраслаўскай вобласці ў сферы культуры і мастацтва здзяйсняецца праект "Агульнасць народаў — агульнасць культур". Галоўнай падзеяй у гэтым плане стала маладзёжная музычная акцыя "Сустрэчны рух". Яна прайшла летась у Палацы моладзі горада Яраслаўля. Выступалі разам музычныя калектывы Расіі і Беларусі. А ў фае была разгорнута фотавыстаўка "Русь і Беларусь — сустрэчны рух". Ужо болей як дзесяць гадоў пры музеі дзейнічае грамадская арганізацыя "Сяброўства". А да 120-годдзя Максіма Багдановіча музей з яраслаўскімі беларусамі, што ўваходзяць у "Сяброўства", арганізуюць гарадскі конкурс чытальнікаў "Вянок паэзіі".

**— Кацярына, а што для вас асабіста значыць паэзія Багдановіча?**

— Вершы, паэмы Максіма — гэта нямая пяшчота, якая сілкуе маё жыццё. Я шмат чытаю з беларускай літаратуры, але ні ў кога не сустракала гэтулькі цеплыні, "жаноцкасці", гэтулькі праніклівых слоў пра мацярынства, як у аўтара неўміручага "Вянка".

## Азбука Морзэ

**Чэслава ПАЛУЯН**

● Выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" правяло ў Мінску міжнародную сустрэчу энцыклапедыстаў. Так, да беларускіх калег завіталі кіраўнікі і прадстаўнікі Інстытутаў энцыклапедычных даследаванняў Акадэміі навук Малдовы і Нацыянальнай акадэміі навук Украіны. Удзельнікі сустрэчы пазнаёміліся з арганізацыяй работы выдавецтва "БелЭн", абмеркавалі пытанні, што датычылі рэалізацыі сумесных выдавецкіх праектаў, планы трохбаковага супрацоўніцтва, у тым ліку ініцыятыву па стварэнні Асацыяцыі энцыклапедыстаў краін СНД.

▬ У Ерэване ў межах Міжнароднага форума перакладчыкаў краін Садружнасці прайшла прэзентацыя рухомай экспазіцыі "Культурная спадчына СНД". У якасці яе арганізатараў выступілі Расійскі кніжны Саюз і Міждзяржаўны фонд гуманітарнага супрацоўніцтва дзяржаў-удзельніц СНД. У экспазіцыю ўключаны тры раздзелы: кнігі па гісторыі і культуры, выданні па народнай творчасці і дэкаратыўна-прыкладным мастацтве, шэдэўры нацыянальных літаратур. Акрамя асобных выданняў у літаратурным раздзеле экспазіцыі ганаровае месца займае шматтомны збор "Класіка літаратур СНД". За некалькі год існавання гэтай серыі, што выдаецца пра падтрымцы МФГС, у ёй выйшлі 22 тамы фальклору і літаратурных помнікаў Азербайджана, Арменіі, Беларусі, Кыргызстана, Казахстана, Малдовы, Таджыкістана, Туркменіі, Узбекістана, Украіны, а таксама зводны руска-англійскі том, у якім упершыню пад адной вокладкай сабраны вяршынныя творы усіх краін СНД. З Ерэвана выстаўка пераедзе ў Кіеў, дзе пройдзе XIV Міжнародны кніжны кірмаш "МЭДВІН: Кніжны свет — 2011", а затым пабывае ў Мінску. Яе экспанаты па ходзе перамяшчэння передаюцца ў Нацыянальныя бібліятэкі краін СНД у якасці падарунка МФГС і Расійскага кніжнага саюза.

● Завяршыўся прыём работ у другім сезоне Усерасійскага конкурсу на лепшы літаратурны твор для падлеткаў "Кнігуру". На конкурс прыйшло 676 работ з 58 рэгіёнаў Расіі і 17 замежных краін. "Кнігуру" — адзіны конкурс, на якім ацэньваюцца мастацкія, а з новага сезона — і пазнавальныя тэксты. Па словах арганізатараў, каля чвэрці прадстаўленых работ адносяцца да нон-фікшн. Але ж самым папулярным у аўтараў жанрам застаецца казка. На другім месцы — рэалістычныя творы пра сённяшні дзень.

▬ Поўны архіў штоквартальнага часопіса Бібліятэкі Кангрэса ЗША *Quarterly Journal* даступны ў электронным выглядзе на сайце некамерцыйнай электроннай бібліятэкі *JSTOR* (Journal Storage). Заснаваны Арчыбальдам Маклішам, дырэктарам Бібліятэкі Кангрэса ЗША, часопіс змяшчаў навуковыя артыкулы пра асаблівыя зборы і новыя паступленні бібліятэкі з 1943 да 1983 гг. Многія з артыкулаў выдання, прысвечаныя апісанню асобных прадметаў і калекцый, лічацца неперазыдзенымі і да сённяшняга дня. У 1983 годзе выданне часопіса было спынена.

● Карпарацыя *Google* анансавала новы эксперыментальны праект *WebGL Bookcase* — ідэю "кніжнай шафы без межаў". У адрозненне ад традыцыйных кніжных шаф, ён змяшчае вялізную колькасць 3D-мадэляў лічбавых кніжных выданняў ад *Google*. Больш як 10 тысяч кніг віртуальнай кніжнай шафы размяшчаюцца на "спіральных паліцах", якія можна пракручваць. Для зручнасці ўсе выданні арганізаваны па 28 тэмах. З праектам *WebGL Bookcase* можна пазнаёміцца на сайце галерэі Chrome Experiments, якая сёння аб'ядноўвае больш як 300 крэатыўных праектаў ад распрацоўшчыкаў і мастакоў з усяго свету.

**Марына ЯЎСЕЙЧЫК**

# Згадкі пра даўніну

**Чарговая выстаўка ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы прымеркавана да юбілею вершаванага перакладу песняром твора старажытнай літаратуры "Слова аб палку Ігаравым".**



Хто з нас не памятае слаўны пачатак помніка славянскай літаратуры:

*Ці не добра было бы нам,*
*браццi,*
*Старадаўнымі словы*
*пачаці*
*Сказ аб Ігара трудным*
*паходзе,*
*Святаславіча —*
*князя прыгодзе?..*

Урывак за ўрыўкам чытаў, нібыта прыгадваў далёкі ўспамін, акцёр і рэжысёр Беларускага радыё Алег Вінярскі. І "Слова..." ажыло, цішыня напоўнілася ім. Было такое адчуванне, быццам згадкі пра старадаўняе жыццё пачалі ўсплываць з уласных успамінаў. Можна толькі ўявіць, што перажываў Купала, калі займаўся перакладам твора. Сам пісьменнік вось як апісаў свае пачуцці: "Я так зжыўся з творам, што, зрабіўшы пераклад, як бы адчуў сябе суаўтарам "Слова" і гляджу на гэту сваю працу як сваю ўласную творчасць".

Пераклад Купалы высока ацаніў Яўхім Карскі: "Ваш вершаваны пераклад "Слова о полку Игореве" выйшаў цудоўным: паўсюль бачна разуменне старога тэксту <...>, не кажучы ўжо пра лёгкі верш, які адпавядае зместу карціны. У Вашай апрацоўцы беларуская мова апынулася на вышыні..." Але ж даследчая праца па вывучэнні перакладу Янкі Купалы пакуль не скончана. Людміла Зарэпа, дацэнт кафедры рускай літаратуры БДУ, даследчыца "Слова...", выказала думку пра тое, што найлепшы спосаб адзначыць юбілей старажытнага твора — засяродзіцца на пытаннях, якія пакуль не маюць адказаў. А іх яшчэ многа.

"Слова" ажывае не толькі пры чытанні. Глянем на сцены залы, дзе месяцца выстаўка, — дзіву даешся, наколькі ўмела можна перадаць змест літаратурнага твора ў ілюстрацыях! У мастацкай частцы выстаўкі "Сказ аб Ігара трудным паходзе..." прадстаўлены графічныя лісты — работы народнага мастака Беларусі Георгія Паплаўскага і мастачкі Алены Лось.

Таксама ў музеі на сваё вочы можна пабачыць рукапісы перакладу Янкі Купалы, кнігі з паэмай "Слова аб палку Ігаравым" на рускай мове, што выйшлі ў XIX — пачатку XX стст.

***На здымку: Георгій Паплаўскі "Дружына князя". Ілюстрацыя да "Слова аб палку Ігаравым" з фондаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.***

# На все случаи жизни

Ольга ПОЛОМЦЕВА

**Наш динамичный и изменчивый мир вносит свои коррективы в пристрастия читателей. Привыкшие заполнять досуг чтением вовсе не собираются отказываться от своих привычек, даже если им не по нраву то, что предлагает прогресс. Наряду с электронными новшествами в моде традиционные книги. На прекрасной бумаге. В твёрдом переплёте и суперобложке. С полноцветной полиграфией. Правда, маленькие. Подарочно-сувенирного формата. Зато удобно — книга поместится в сумочке и даже в кармане верхней одежды. И всегда с тобой — в пробках, очередях, да и мало ли ещё в каких жизненных ситуациях. Мы продолжаем рассказ о миниатюрных изданиях "Харвеста".**

## Книжная графика по-японски

У этого художника целая коллекция профессиональных имён и псевдонимов. Хокусай, японский мастер живописи и гравюры школы укиё-э (картины плывущего (изменчивого) мира) таким



образом отделял каждый период творчества от предыдущего, добавляя один из 20 псевдонимов к основному имени. И если ранние работы отражали весь спектр тематики упомянутой школы: портреты актёров, женщин, пейзажи и т.п., то более поздние носят иной характер — это полуисторические пейзажи с использованием западных техник перспективы и работы, изображающие детей. Исследователи творчества художника говорят, что на перемены в пристрастиях мастера повлияла его женитьба и появление детей. Ему выпало жить на рубеже XVIII и XIX столетий. Хорошо зная книжную и гравёрную отрасль, Хокусай экспериментировал с перспективой и цветом в западном стиле, соперничал с признанным мастером гравюр, изображавшим чувственные фигуры, — Утамаро, он отдавал первый план и акцент своих картин пейзажу, делая фоном человеческие фигуры. С начала XIX века иллюстрирует исторические романы, потом переходит к созданию альбомов ксилографий, предназначенных для копирования художниками-любителями.

Например, "36 видов горы Фудзи" Хокусая считаются вершиной развития японской пейзажной гравюры. Миниатюрная энциклопедия **"Хокусай"** позволит оценить его "Снежное утро в Кайсикаве", и "Смеющегося демона ревности", и "Понтонный мост около Сано, Козукэ: прежний вид" и "Отдыхающую куртизанку", а также другие работы.

И поучиться у него жизнелюбию. В 74 года "старик, помешанный на живописи" сказал: "Примерно с пятидесятилетнего возраста я создал множество картин, однако всё, что я рисовал до 70 лет, по правде, не стоит упоминания. Когда мне было 73 года, я, наконец, ухватил нечто в истинной сущности птиц, животных, насекомых, рыб, а также жизненной природе трав и деревьев. Поэтому в 80 лет я продвинусь дальше в глубокую суть вещей, в 100 я буду по-настоящему творить чудеса, а в 110 каждая точка, каждая линия наверняка будет иметь собственную жизнь. Я только прошу, чтобы достаточно долго прожившие люди подтвердили правоту моих слов".

## Всё под рукой



Энциклопедия **"Чудеса света"** поведает не только о египетских пирамидах, висячих садах Семирамиды, мавзолее в Галикарнасе, Александрийском маяке, колоссе Родосском, храме Артемиды и статуе Зевса. Прекрасные иллюстрации и информативные справки вы найдёте и о новых чудесах — Великой Китайской стене, мавзолее Тадж-Махал в Индии, крупнейшем древнеримском амфитеатре Колизее, городе Петре — столице Набатейского царства, расположенном в 262 километрах от Амана, статуе Христа Спасителя в Рио-де-Жанейро, жемчужине инкской культуры городе Мачу-Пикчу и Чичен-Ице — политическом и культурном центре индейцев майя на севере полуострова Юкатан в Мексике.

## Языческий пантеон



Составленная неутомимым М. Адамчиком, энциклопедия **"Славянская мифология"** расскажет о язычестве как основе мировосприятия славянских народов. Славянские мифы — ответвление древней индоевропейской культуры, о чём свидетельствуют сохранённые ими представления о мироздании. С конца первого тысячелетия до нашей эры до принятия христианства на землях между Вислой и Днепром по Центральной и Восточной Европе от Эльбы до Дуная и от южного побережья Балтийского моря до севера Балканского полуострова поклонялись Полевику, Каме, Наречнице и иным богам, имена которых не знакомы современному уху. Изучение славянских мифов — задача трудная: не сохранилось древних текстов, подлинность которых не вызывала бы сомнения. До VI века нашей эры они просто отсутствуют, с VI по XI упоминаются только в христианских поучениях против язычества. Реконструкция мифов происходила по фольклорным и этнографическим записям XI-X — XX веков, сохранившимся в общинах болгар-помаков "Золотой книге", "Птичьей книге", "Книге странствий", "Веде славян", дошедших до нас в копиях текстам "Слова о полку Игореве", "Книге Велеса", "Голубиной книге". Обнаружит читатель среди героев этой книги и трёх богатырей — Илью Муромца, Добрыню Никитича и Алёшу Поповича, которые даже украшают обложку.

## Странички с золотым обрезом

*Не знаю до сих пор,*
*лепивший плоть мою*
*Задумал место мне*
*в аду или в раю?*
*Беру наличностью:*
*пою, влюбляюсь, пью,*
*А рай обещанный —*
*желаешь? — отдаю.*

В переводе И. Голубева всегда с вами **"Четверостишия" Омара Хайяма —** знаменитые рубаи классика персидско-таджикской поэзии, великого учёного Средневековья, философа, математика, астронома. Лаконичные, яркие, они относятся к разным периодам его долгой жизни. Изданы рубаи, как и положено, с восточной роскошью — странички с золотым обрезом, фоном стихам



служат пёстрые изображения цветов и птиц, роскошь ковров... Среди изобилия самое время подумать.

*Ещё один мой день*
*промчался без следа,*
*Как суховей в степи*
*и как в реке вода.*
*Два выдуманных дня*
*его мне не заменят,*
*Я в "завтра" и "вчера"*
*не верил никогда.*



# Класікі ў мініяцюры

Юзэфа ВОЎК



Кніжныя паліцы ТАА "Харвест" папоўніліся новымі выданнямі беларускай класікі. На гэты раз у цэнтры ўвагі апынуліся нашы слаўныя песняры. Сёння мы разглядзім томікі **"Выбранага" Янкі Купалы і Якуба Коласа.** Выданні зручнага кішэннага фармату могуць стацца як добрымі падарункамі аматарам беларушчыны, так і заўсёднымі спадарожнікамі ў паездках.

Чым жа апроч новага фармату вылучаюцца кнігі "Выбранага"? Звычай пры фарміраванні падобных зборнікаў складальнікі кіруюцца пэўнымі прынцыпамі адбору твораў. Яны арыентуюцца на аўдыторыю, мэту выдання, а таксама на яго фармат. Дык вось у новых кнігах вершаў Купалы і Коласа матэрыял падабраны такім чынам, каб, па-першае, пазнаёміць з творчасцю нашых



класікаў, прадставіць іх спадчыну ў цэлым. З гэтай прычыны кнігі будуць карыснымі як вучням і студэнтам, так і аматарам паэзіі, для чытання "для сябе". Падругое, забяспечыць чытача магчымасцю адпачыць, што вельмі важна ў наш імклівы час. Напэўна, па гэтай прычыне ў кнігу Купалы не ўвайшла яго вострая грамадзянская лірыка, створаная з мэтай абудзіць нацыянальную свядомасць народа. Не пабачым мы тут і скрушных філасофскіх твораў, у якіх паэты імкнуцца спазнаць сэнс быцця. Як у Купалы, так і ў Коласа прачытаем пра прыроду, каханне, пазнаёмімся і з патрыятычнай лірыкай, поўнай замілавання родным краем і суму з прычыны беднасці і "забітасці" нашага народа. Па-трэцяе, даць магчымасць палюбавацца не толькі вобразамі прыроды, створанымі песнярамі ў вершах, але і пабачыць іх увачавідкі — на фотаздымках. Варта адзначыць, што ілюстратыўны рад падабраны ў кнігах досыць удала. Здымкі перадаюць настрой вершаў, дэманструюць нашы родныя краявіды. Перагортваючы старонку за старонкай, нібыта вандруеш па беларускіх лясах, палях, зазіраеш у вёсачкі ці заходзіш у адзінокія хаткі.

Думаецца, кнігі вартыя таго, каб заняць месца на паліцы. Прасторы яны патрабуюць няшмат (з-за маленькага фармату), але могуць стацца іміджавай рэччу. Класікі былі б задаволеныя, бо ў гэтым выпадку "беларускае" стане сінонімам слоў "дарагое", "густоўнае", і таму безумоўна вартае чытацкай увагі.

## Teenbook

Евгения ПАСТЕРНАК

***В этом обзоре я хочу рассказать о трёх книгах для подростков. 15 — 16 лет — сложный возраст. Это уже почти взрослые люди. "Почти", потому что не хватает жизненного опыта. Не верите? Я очень часто слышу: "Да какие они взрослые, мой обормот до сих пор сам утром проснуться не может!" Мы, взрослые, часто не даём им взрослеть. Они привыкают жить из-под палки, занимаясь не тем, к чему лежит душа, а тем, что "должен". И самое печальное, что у многих это остаётся на всю жизнь — выбранная родителями специальность, одобренный бабушкой муж… Родители кормят, натягивают шапки, вытирают носы. Если шестнадцатилетний пацан не в состоянии сделать себе бутерброд, потому что не знает, где на кухне найти колбасу, это никого не смешит и не пугает. Мальчику повезло: у него заботливая мама. Я очень люблю "недетские" книги для подростков. Они дают им шанс вырасти.***

# Шанс вырасти

### *Лоис Лоури. Дающий. — Москва: Розовый жираф, 2011.*

Сразу после выхода в 1993 году роман вызвал огромное количество споров. "Дающий" даже попал в список книг, которые группы родителей пытались запретить: они считали, что с юными читателями нельзя говорить на такие серьёзные темы. Но, несмотря на критику, книга вошла в школьную программу средних классов американской школы, получила множество престижных наград, включая медаль Ньюбери Американской библиотечной ассоциации. Ее суммарный тираж составил к настоящему моменту 5,5 миллиона экземпляров.

Мне не понравилась аннотация к книге.

Этот роман, написанный в редком для детской литературы жанре антиутопии, словно отвечает на невысказанные, но оттого не менее острые для подростков вопросы. Почему в мире так много жестокости и боли? Почему иногда так трудно отделить благо от зла? Что будет, если устроить мир "по справедливости", устранив все различия между людьми?

Если она рассчитана на подростка, то он мало что из неё поймет. Что такое антиутопия? Почему все перечисленные вопросы называют "невысказанными"? Они очень даже высказанные, причём задавать их начинают лет в шесть. Зачем на свете существует Зло? Почему Добро не может победить Зло раз и навсегда? Как раз маленькие дети очень чувствительны к несправедливости, и их она трогает гораздо больше, чем взрослых.

Сразу хочу предупредить любителей фантастики, тех, кто предпочитает, чтобы всё было объяснено. Мир, описанный Лоури, понятен, но непонятно и не объяснено, КАК этот мир стал таким. Лично мне это абсолютно не мешает. Все возникающие вопросы мне от себя отогнать просто, потому что я понимаю: книга не об этом. Но есть читатели, которых это будет сильно раздражать.

Вот что пишет про книгу сама Лоис Лоури: "Я сделала так, чтобы уютный и безопасный мир Джонаса понравился читателю. Я выбросила из него всё, что не любила сама: насилие, бедность, предрассудки и несправедливость. Все мои персонажи вежливы и обходительны — ведь мне так нравятся эти качества в людях. Прекрасный мир! В этом мире даже не нужно мыть за собой посуду. Ах, как бы мне хотелось остановиться на этом!"

Община. Идеально вежливые люди. Идеально продуманные порядки. Идеально выстроенная СИСТЕМА. Все заняты своим делом, причём это дело выбрано советом старейшин. Они долго наблюдают за каждым ребёнком и каждому предлагают занятие, к которому он склонен. Идеально подобраны семьи. Если ты хочешь создать ЯЧЕЙКУ, то должен подать заявление, и тебе подберут пару. Дети тоже подбираются и распределяются по семьям, в соответствии с характерами и темпераментами. Каждой семье положено иметь одного ребёнка мужского пола и одного — женского.




Главный герой книги, Джонас, накануне своего двенадцатилетия очень волнуется. Ведь в 12 лет ребенок становится взрослым, и должно состояться его НАЗНАЧЕНИЕ. То есть выбор дела, которым он будет заниматься в коммуне всю жизнь.

Но Джонас не был НАЗНАЧЕН, он был ИЗБРАН.

Он узнаёт, что один из старейшин находится в уникальной должности ПРИНИМАЮЩЕГО и теперь он станет его преемником. ПРИНИМАЮЩИЙ — единственный в коммуне человек, который имеет доступ к книгам и единственный хранитель воспоминаний.

И тут Джонасу открывается вся оборотная сторона идиллии, царящей в коммуне.

Оказывается, когда-то, давным-давно, всё было устроено совсем не так. В мире было много боли и несправедливости. Были войны и драки. Но люди вычеркнули всё это из своей жизни. Вместе с болью ушла и любовь… Ушли чувства, воспоминания, даже краски, окружающий мир стал равномерно серым.

Мне очень понравилось, что вместе с обесцвечиванием жизни в коммуне происходит и обесцвечивание языка. Говорить нужно просто, прямо, без идиом и прочих ненужных оборотов. В итоге для общения используется набор словесных штампов.

Как только Джонас начинает видеть краски окружающего мира, как только у него появляются отголоски чувств, он понимает, что жить без этого невозможно. И он готов пожертвовать собой ради того, чтобы всем людям вернулась способность чувствовать.

Идиллия становится для него бесконечным враньём, вежливость — фальшью, дружба — подделкой. А за непонятным УДАЛЕНИЕМ из коммуны скрывается банальное убийство…

Мне кажется, я понимаю тех, кто эту книгу запрещал. Описание жизни общины с его приторно-сладким благополучием и общим довольством жизнью могут вызвать раздражающие ассоциации. Всех неугодных — УДАЛИТЬ, всех несогласных — УДАЛИТЬ, остальным рассказывать о том, что именно такой уклад жизни единственно правильный.

И люди счастливы. Не придерёшься.

Но насколько их жизнь убога и неполноценна, можно судить только узнав, чего они лишены. И старый ПРИНИМАЮЩИЙ прекрасно понимает, что возвращение к реальности будет более чем болезненным. Ужасно болезненным. И что многие могут с этим не справиться.

Оставить людей жить в патоке или обрушить на них реальный мир? Этот вопрос не стоит для Джонаса. Он просто не может поступить подругому.

Лично мне коммуну нисколечко не жалко. А вам?

### *Юн Эво. Солнце — крутой Бог. — Москва: Самокат, 2009.*

Взрослеть трудно. Жаль, что, повзрослев, многие забывают об этом. И хорошо, что есть писатели, которые готовы об этом напомнить. Перед вами история шестнадцатилетнего Адама, который хочет стать взрослым. Он безнадёжно влюблён, он занимается тем, что коллекционирует интересные "фактики", например, то, что "первый раз вилки для еды были использованы 25 июня 1630 года", а "хлеб нарезкой стали продавать в 1954 году". Он живёт в семье, где отец актёр, мать — бывшая гитаристка панкгруппы, которая стала директором большого цветочного магазина, а старшая сестра работает в магазине спорттоваров. Адам заключает договор с Солнцем. Всё лето он каждое утро будет приветствовать его на крыше элеватора, а за это Солнце поможет ему повзрослеть. Цитирую летний проект Адама: список того, что необходимо сделать, чтобы стать взрослым.




*1. Простейшие вещи:*

*— Хорошо прожарить бифштексы.*

*— По-настоящему надраться.*

*— Взять на себя ответственность за собственную жизнь.*

*2. То, что требует бОльших усилий:*

*— Выработать собственный стиль одежды.*

*— Научиться курить сигары.*

*— Не на шутку облажаться.*

*3. То, что стОит калорий и пота:*

*— Стать материально независимым.*

*— Вступить в настоящие взрослые отношения с девушкой.*

*— Сделать то, чего я больше всего боюсь.*

Вот таким Адаму представляется взрослый мир.

Эта книга будет очень полезна тем, кто считает, что пора взрослеть. Мне кажется, она может натолкнуть на ответ, что такое «взрослость». Будет она полезна и девушкам, которых интересуют шестнадцатилетние юноши. Только пусть не отмахиваются от неё с раздражением, а постараются принять то, что примерно так и думают юноши, и секс занимает у них в голове... достаточно места. (Обращаю внимание: автор книги — мужчина. Он знает, о чем пишет.) Мальчишки не "тупые", не "придурочные", они просто другие. И чем раньше девочки это поймут, тем меньше проблем будет у них в жизни.

### *Луис Сашар. Ямы. — Москва: Розовый жираф, 2011.*

О серии "Вот эта книга!" издательство "Розовый жираф" пишет, что "в неё войдут книги, которые не забываются сразу после прочтения. Их хочется рекомендовать близким и друзьям, обсуждать и размышлять над ними".

Это правда. Мне бы очень хотелось поговорить об этой книге с теми, кто её прочёл. В ней много всего перемешано. Истории столетней давности переплетаются с современностью. Вернее так: истории столетней давности не отпускают современность.

Когда-то старая цыганка помогла молодому человеку, но потребовала за это плату. И пригрозила, что если он не сделает то, что обещал, его род будет проклят. Он не сделал. По глупости. Молодой был, всего 15 лет…

И вот его род проклят. Главный герой книги, Стенли, его правнук, осуждён за преступление, которого не совершал. Он неудачник, его отец был неудачник. И поделать с этим ничего нельзя.

Мне понравилось, как ближе к концу книги выстраиваются параллели с прошлым. Как прошлое прорастает через настоящее, как оживает легенда.




В рыжеволосую разбойницу Кейт Барлоу и всё, что с ней связано, верю! Кроме того, что у меня личная приязнь к рыжеволосым, ещё и персонаж очень живой. Колоритный.

Но осталась у меня заноза, которая после прочтения книги не уходит.

Проклятье снялось, когда Стенли исполнил то, что должен был сделать его прадед. Жизнь немедленно наладилась, его отпустили, отец стал "удачником", зло в виде Смотрителя исправительного лагеря наказано, сокровища нашлись, деньги рекой.

Вопрос: "Мы действительно в ответе за своих предков?"

А если "да", то как разглядеть свой Шанс исправить положение?

Почему ничего не смогли сделать дед и отец Стенли? Им Судьба давала Шанс? Почему они не избавили род от проклятья?

Мне кажется, что подросткам очень важна уверенность в своих силах. Возраст у них такой. Комплексов гора, организм меняется, взрослеть приходится, а не всегда хочется. Очень важно знать, что в любом случае всё зависит от тебя. От тебя самого. И если ты честен и смел, если ты не предаёшь друзей, то Судьба даст тебе возможность избавиться от любого проклятья. А заодно книга заставляет задуматься о том, что жить нужно так, чтобы правнукам не пришлось расхлёбывать заваренную тобой кашу.

**Централизованное тестирование. Немецкий язык**: сборник тестов / Учреждение образования «Республиканский институт
Літаратура. Літаратуразнаўства

**Міждысцыплінарныя даследаванні актуальных праблем тэорыі літаратуры** / [М. А. Тычына і інш.; навуковы рэдактар М. А. Тычына]; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут мовы і літаратуры ім. Якуба Коласа і Янкі Купалы. — Мінск: Беларуская навука, 2011. — 394 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-08-1296-4.

### Мастацкая літаратура на асобных мовах. Літаратура на паўночна-германскіх мовах

**Фростэнсан, К.** Чыстая краіна / Катарына Фростэнсан; [пераклад на беларускую мову, фота: Плакс Д.]. — Мінск: Медысонт, 2011. — 37 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6982-23-4.

### Руская літаратура

**Грант, Л.** Среда: проза / Лера Грант. — Минск: А. Н. Вараксин, 2010. — 272 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-6986-02-7.
**Грибоедов, А. С.** Горе от ума: комедия в 4 действиях, в стихах / А. С. Грибоедов. — Минск: Мастацкая літаратура, 2011. — 109 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-02-1279-5.

### Літаратура Беларусі на рускай мове

**Выходи на круг! Частушки современные** / [составитель Толеренок В. М.]. — Витебск: Витебская областная типография, 2011. — 200 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6849-94-0.
**Жабко, Я. Г.** За все судьбу благодарю: стихотворения / Янина Жабко. — Минск: Четыре четверти, 2011. — 41 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-6981-68-8.
**Железко, Б. А.** Души прекрасные порывы: стихи, песни / Борис Железко. — Минск: Печенко А. Г., 2011. — 55 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7008-32-2.
**Заболотних, В. А.** Как мы учились воевать: [проза] / Валерий Заболотних. — Минск: Лазурак, 2010– — ISBN 978-985-6260-47-9.
Кн. 2. — 2011. — 168 с — 64 экз. — ISBN 978-985-6260-49-3.
**Заслонова, И. К.** Повесть об отце / Иза Заслонова; [художник Р. Л. Заслонов]. — Минск: А. Н. Вараксин, 2011. — 304 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-6986-43-0.
**И физики, и лирики...**: стихотворения студентов, преподавателей, сотрудников и выпускников Брестского государственного технического университета / составитель Т. Ю. Шульга. — Брест: Брестская типография, 2005–
Вып. 7. — 2011. — 39 с. — Часть текста на белорусском языке. — 200 экз. — ISBN 978-985-524-092-2.
**Крылов, Ф.** Твой выбор – смерть: роман / Федор Крылов. — Минск: Букмастер, 2011. — 382 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-009-9 (в пер.).
**Кулецкий, Н. А.** Мысли мгновений...: [стихи] / Николай Кулецкий. — Минск: А. Н. Вараксин, 2011. — 246 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6986-50-8.
**Кулецкий, Н. А.** Память мгновений...: [стихи] / Николай Кулецкий. — Минск: А. Н. Вараксин, 2011. — 310 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6986-49-2.
**Легостаева, А. А.** Поле жизни моей: [стихи] / Алина Легостаева. — Минск: Ковчег, 2011. — 137 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7006-24-3.
**Момот, К. Ю.** А я стою в лиловом цвете: [стихи] / Кристина Момот; [фото: Михаил Маруга]. — Минск: Юнипак, 2011. — 34 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-6802-46-4.
**Морозов, А.** Короче: Почти смешная книга: [сборник зарифмованных шуток и афоризмов] / Саша Морозов. — Минск: А. Н. Вараксин, 2011. — 184 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-6986-51-5 (в пер.).
**Мурашев, В. А.** Минск бандитский-3: рассказы / Вячеслав Мурашев. — Минск: А. Н. Вараксин, 2011. — 135 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-6986-47-8.
**Переверзева, О. В.** Невидимые птицы: стихотворения / Ольга Переверзева; [автор предисловия Глеб Артханов]. — Минск: Четыре четверти, 2011. — 89 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-6981-65-7 (в пер.).
**Потапов, В. П.** На грани виртуальности: стихи / Валерий Потапов. — Минск: Печенко А. Г., 2011. — 59 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7008-28-5.
**Потапов, В. П.** Проникновение: стихи / Валерий Потапов. — Минск: Печенко А. Г., 2011. — 59 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7008-27-8.
**Симанович, Д. Г.** Молодость древнего Витебска: память мирных и огненных лет, 1944–1964: поэма / Давид Симанович. — Минск: Медисонт, 2011. — 15 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-6982-22-7.
**Соловьев, И. И.** Огоньки надежды: стихи / Иван Соловьев. — Слоним: Слонимская типография, 2011. — 99 с. — 70 экз. — ISBN 978-985-6602-89-7.
**Теличко, Н. Г.** Что написано пером: стихи / Николай Теличко. — Брест: Брестская типография, 2011. — 62 с. — 250 экз. — ISBN 978-985-524-095-3.
**Чернышев, О. В.** Отражения: сборник стихов / Чернышев Олег. — Минск: Пропилеи, 2011. — 172 с. — 60 экз. — ISBN 978-985-6329-89-3.
**Шелестов, В. Е.** Среда обитания, или Курс молодого бойца: повесть / В. Е. Шелестов. — Минск: А. Н. Вараксин, 2011. — 227 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6986-52-2.
**Шкирманков, Ф. В.** Ты рядом – значит я живу: стихи / Феликс Шкирманков. — Минск: Четыре четверти, 2011. — 59 с. — Часть текста на белорусском языке. — 200 экз. — ISBN 978-985-6981-61-9.

### Беларуская літаратура

**Адважны, В.** Выбраныя творы / Вінцук Адважны; [укладанне, прадмова, каментар Ірыны Багдановіч]. — Мінск: Кнігазбор, 2011. — 589 с. — 700 экз. — ISBN 978-985-6976-82-0 (у пер.).
**Барадулін, Р.** Толькі б яўрэі былі!..: кніга павагі і сяброўства: [эсэ, вершы, пераклады] / Рыгор Барадулін; [складанне Наталлі Давыдзенкі; прадмова Ванкарэма Нікіфаровіча; заўвагі Ірыны Сляповіч]. — Мінск: Кнігазбор, 2011. — 242 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-6976-88-2.
**Беларуская літаратурная спадчына**: анталогія: у 2 кн. / [укладальнікі: С. А. Курбанава і інш.]. — Мінск: Беларуская навука, 2011– — ISBN 978-985-08-1055-7 (у пер.).
Кн. 1. — 2011. — 1028 с. — Змяшчае аўтараў: Ажэшка Э., Багдановіч М., Багушэвіч Ф., Баршчэўскі Я., Будны С., Бядуля З., Гартны Ц., Гарун А., Гарэцкі М., Гурыновіч А., Гусоўскі М., Дубоўка У., Дунін-Марцінкевіч В., Жылка У., Зан Т., Зарэцкі М., Зізаній Л., Каганец К., Каліноўскі К., Караткевіч У., Кірыла Тураўскі, Колас Я., Крапіва К., Крэўза Л., Купала Я., Лучына Я., Міцкевіч А., Пацей І., Пашкевіч Я. К., Равінскі В., Рымша А., Савіч Ф., Сімяон Полацкі, Скарына Ф., Смятрыцкі М., Сыракомля У., Трус П., Цётка, Цяпінскі В., Чачот Я., Ядвігін Ш. — 2000 экз. — ISBN 978-985-08-1279-7.
**Броўка, П.** Пахне чабор...: вершы, паэмы / Пятрусь Броўка; [укладанне Віктара Шніпа]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2011. — 229 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1272-6.
**Дзікая, А. П.** Жыву, спадзяюся...: вершы / Ала Дзікая. — Мінск: Кнігазбор, 2011. — 66 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 100 экз. — ISBN 978-985-6976-96-7.
**Карамазаў, В. Ф.** Мастак і парабкі: апошняя вясна Мікалая Неўрава: раман / Віктар Карамазаў. — Мінск: Медысонт, 2011. — 270 с. — 700 экз. — ISBN 978-985-6982-14-2 (у пер.).
**Лосік, І. В.** Прыхаваў час абрысы сцяжынаў: вершы / Ігар Лосік. — Мінск: Кнігазбор, 2011. — 79 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-7007-05-9.
**Не перасохнуць звонкія крыніцы**: літаратурны альманах. — Мінск: Ковчег, 2011. — 170 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7006-19-9 (памылк.).
**Нупрэйчык, Г. І.** Пясчынкі часу: вершы / Галіна Нупрэйчык. — Мінск: Кнігазбор, 2011. — 107 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6976-94-3.
**Прыёмка, С. В.** Ян і Яніна: вершы / Сяргей Прыёмка. — Мінск: Кнігазбор, 2011. — 83 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 100 экз. — ISBN 978-985-6976-99-8.
**Супрунчук, В. П.** Матчын век, або Дарога да храма: маленькія аповесці / Віктар Супрунчук. — Мінск: Кнігазбор, 2011. — 103 с. — 400 экз. — ISBN 978-985-6976-97-4 (у пер.).
**Тарановіч, А.** Берлінская мазаіка: проза, эсэ / Алесь Тарановіч. — Мінск: Кнігазбор, 2011. — 253 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-7007-04-2.

### Японская літаратура

**Басё.** Мудрость Басё: японская лирика / [автор-составитель Владимир Вячеславович Адамчик]. — Минск: Харвест, 2011. — 287 с. — В книге также стихи авторов: Абэ-но Накамаро, Дзито (императрица японская), Какиномото-но Хитомаро, Кисэн, Оно-но Комати, Отомо-но Якамоти, Сарумару-даю, Семимару, Тэндзи (император японский), Ямабэ-но Акахито и др. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9117-9 (в пер.).

### Мастацкая літаратура для дзяцей і юнацтва

**Винни-Пух**: раскраска. — Минск: Юнипресс, 2011. — 16 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-532-647-3.
**Грин, А. С.** Алые паруса: повесть, рассказы: [для старшего школьного возраста] / А. С. Грин; [составитель О. В. Спринчан]. — Минск: Мастацкая літаратура, 2011. — 204 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1283-2.
**Про доброго Журавлика**: [для чтения взрослыми детям: по мотивам русской народной сказки «Лиса и Журавль» / пересказ Дмитрия Харченко; художник – Сергей Самсоненко]. — Минск: Издательство Дмитрия Харченко, 2011. — 14 с. — 2500 экз. — ISBN 978-985-545-020-8.
**Пушкин, А. С.** Поэмы / А. С. Пушкин. — Минск: Мастацкая літаратура, 2011. — 229 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1282-5.

### Літаратура Беларусі на рускай мове

**Ананич, С. А.** Как птичка-невеличка за модой гонялась: [для младшего школьного возраста] / Светлана Ананич; [художник – Елена Карпович]. — Минск: Издательство Дмитрия Харченко, 2011. — 20 с. — 2500 экз. — ISBN 978-985-545-009-3.
**Ананич, С. А.** Удачная находка Сорокибелобоки: [для младшего школьного возраста] / Светлана Ананич; [художник – Елена Карпович]. — Минск: Издательство Дмитрия Харченко, 2011. — 23 с. — 2500 экз. — ISBN 978-985-545-019-2.
**Беляев, А. Р.** Человек-амфибия: повесть: [для старшего школьного возраста] / Александр Беляев. — Минск: Мастацкая літаратура, 2011. — 173 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1280-1.
**Голубева, Н. А.** Сказки тетушки Руфь: [для среднего школьного возраста] / Наталья Голубева; [перевод на английский язык: Вежан Н. Л.; художник Рита Тимохова]. — Минск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 149 с. — Часть текста на английском языке. — 2000 экз. — ISBN 978-985-6994-39-8 (в пер.).
**Дашкевич, Т. Н.** Ах, какие чудеса!: [для чтения взрослыми детям] / Татьяна Дашкевич; [художник – Елена Карпович]. — Минск: Издательство Дмитрия Харченко, 2011. — 72 с. — 2500 экз. — ISBN 978-985-545-022-2.
**Жабко, Я. Г.** Пусть детство не торопится: загадки, стихи, скороговорки, шарады / Я. Г. Жабко. — Минск: Четыре четверти, 2011. — 41 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-6981-67-1.
**И жаждет дух благодарить...**: сборник детского творчества / [составитель Е. В. Павлова; авторы рисунков: Мария Апанасевич, Егор Азаров]. — Минск: Зорны Верасок, 2011. — 70 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6957-42-3.
**Климов, А. И.** Встреча невдалеке от неба: [для среднего школьного возраста] / протоиерей Алексий Климов. — Минск: Издательство Дмитрия Харченко, 2011. — 31 с. — 2500 экз. — ISBN 978-985-545-025-3.
**Сенюк, М. А.** Рукописи графского дворца: романтические сказки / М. А. Сенюк. — Минск: Белорусская ассоциация «Конкурс», 2011. — 447 с. — 11800 экз. — ISBN 978-985-6821-88-5 (в пер.).
**Харченко, Д. В.** Как хомячок Кроша Зернышкин научился быть добрым: рассказ для детей о совести: [для младшего школьного возраста] / Дмитрий Харченко; [художник – Елена Карпович]. — Минск: Издательство Дмитрия Харченко, 2011. — 16 с. — 2500 экз. — ISBN 978-985-545-010-9.
**Харченко, Д. В.** По тропинке прямо в небо: [для чтения взрослыми детям] / Дмитрий Харченко; [художник – Ирина Зенюк]. — Минск: Издательство Дмитрия Харченко, 2011. — 18 с. — 2500 экз. — ISBN 978-985-545-013-0.
**Харченко, Д. В.** Про маленького Волчонка: [для чтения взрослыми детям] / Дмитрий Харченко; [художник – Елена Карпович]. — Минск: Издательство Дмитрия Харченко, 2011. — 16 с. — 2500 экз. — ISBN 978-985-545-014-7.

### Беларуская літаратура

**Цётка.** Добрыя весці: [для старэйшага школьнага ўзросту] / Цётка; [складальнік Т. Ф. Рослік]. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя, 2011. — 166 с. — 18419 экз. — ISBN 978-985-11-0567-6 (у пер.).

### Тэорыя літаратуры

**Булацкая, Н. А.** Славянские литературы: классика и современность (болгарская, польская, сербская, чешская): учебно-методическое пособие для студентов всех специальностей учреждения образования «Белорусский государственный университет культуры и искусств» / Н. А. Булацкая; Министерство культуры Республики Беларусь, Белорусский государственный университет культуры и искусств. — Минск: БГУ культуры и искусств, 2011. — 141 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-522-023-8.
**Михайловская, Л. В.** Литературное чтение: учебное пособие для 3-го класса специальных общеобразовательных школ: в 2 ч. / Л. В. Михайловская, А. В. Киселева. — Минск: Издательский центр БГУ, 2011. — ISBN 978-985-476-887-8 (в пер.).
Ч. 1. — 125 с. — 350 экз. — ISBN 978-985-476-888-5.
Ч. 2. — 125 с. — 325 экз. — ISBN 978-985-476-889-2.

### Беларуская літаратура

**Варапаева, В. С.** Літаратурнае чытанне: вучэбны дапаможнік для 3-га класса спецыяльных агульнаадукацыйных школ з беларускай мовай навучання: у 2 ч. / В. С. Варапаева, Т. С. Куцанава. — Мінск: Выдавецкі цэнтр БДУ, 2011. — ISBN 978-985-476-873-1 (у пер.).
Ч. 2. — 2011. — 125 с. — 830 экз. — ISBN 978-985-476-875-5.
**Служение Ее Величеству Литературе** = Служэнне Яе Вялікасці Літаратуры: жизненный и творческий путь Тимофея Лиокумовича / [составители: Татьяна Орлова, Регина Пелтина]. — Минск: Кнігазбор, 2011. — 318 с. — Часть текста на белорусском языке. — 100 экз. — ISBN 978-985-6976-90-5.

## ГЕАГРАФІЯ. БІЯГРАФІІ. ГІСТОРЫЯ

### Археалогія. Перадгісторыя. Культурныя рэшткі гістарычных часоў

**Медведев, А. М.** Верхнее Понемонье в железном веке и раннем средневековье / А. М. Медведев. — Минск: Беларуская навука, 2011. — 349 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-08-1303-9.

### Краязнаўства

**Жабинка, 2011 г. —** 2011. — 17 с. — Часть текста на белорусском языке. — 120 экз.
**Саевич, Ф. К.** Раздумья о Беловежской пуще / Ф. К. Саевич. — Минск: БГАТУ, 2011. — 120 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-519-392-1.
**Шидловский, С. О.** Краеведение: учебно-методический комплекс для студентов специальности 1-89 01 01 «Туризм и гостеприимство» / С. О. Шидловский; Министерство образования Республики Беларусь, Полоцкий государственный университет. — Новополоцк: ПГУ, 2011. — 170 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-531-195-0.
**Minsk in your pocket** = Минск в твоем кармане: essential city guides: [справочник / составители: В. В. Мартынов, Е. А. Чудникова; фотограф А. П. Дрибас]. — Минск: Топпринт, 2011. — 53 с. — На англійскай мове. — 25000 экз. — ISBN 978-985-90160-3-5.
Мінск у тваёй кішэні

### Геаграфія. Падарожжы

**Централизованное тестирование. География**: сборник тестов / Учреждение образования «Республиканский институт контроля знаний» Министерства образования Республики Беларусь. — Минск: Аверсэв, 2011. — 64 с. — 2500 экз. — ISBN 978-985-529-851-0.

### Рэгіянальная геаграфія ў цэлым

**Науменко, Н. В.** География материков и стран: учебное пособие для 9-го класса учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / Н. В. Науменко, Н. Л. Стреха; под редакцией Н. В. Науменко. — 2-е изд., переработанное. — Минск: Народная асвета, 2011. — 229 с. — 92500 экз. — ISBN 978-985-03-1593-9 (в пер.).

### Біяграфічныя і падобныя даследаванні

**Тычына, М. А.** Вялікія і Малыя Тычыны: легенды і рэальнасць / Міхась Тычына. — Мінск: Права і эканоміка, 2011. — 429 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 150 экз. — ISBN 978-985-442-971-7.

### Гісторыя

**Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт (Мінск). Гістарычны факультэт**. Працы гістарычнага факультэта БДУ: навуковы зборнік / [рэдкалегія: У. К. Коршук (адк. рэд.) і інш.]. — Мінск: БДУ, 2006– — ISSN 1995-5669.
Вып. 6. — 2011. — 247 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 100 экз. — ISBN 978-985-518-482-0.

### Гістарычная навука. Гістарыяграфія

**Крыніцазнаўства і спецыяльныя гістарычныя дысцыпліны**: навуковы зборнік. — Мінск: БДУ, 2002– — ISSN 1995-5650.
Вып. 6 / [рэдкалегія: С. М. Ходзін (адк. рэд.) і інш.]. — 2011. — 199 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 100 экз. — ISBN 978-985-518-473-8.

### Гісторыя сярэдніх вякоў, новага і найноўшага часу

**Централизованное тестирование. Всемирная история Новейшего времени**: сборник тестов / Учреждение образования «Республиканский институт контроля знаний» Министерства образования Республики Беларусь. — Минск: Аверсэв, 2011. — 55 с. — 2500 экз. — ISBN 978-985-529-844-2.

## Внесение изменений в сведения о субъектах хозяйствования, имеющих лицензию на полиграфическую деятельность, по состоянию на 1 сентября 2011 года

| Наименование лицензиата | Местонахождение лицензиата (юридический адрес) | Учетный номер плательщика (УНП) | Сведения о лицензии (№ бланка лицензии, дата и № приказа о выдаче) | Срок действия лицензии | Составляющие полиграфической деятельности: выпуск печатной продукции |
|---|---|---|---|---|---|
| Выдана впервые лицензия на осуществление полиграфической деятельности сроком на пять лет частному производственно-торговому унитарному предприятию «КВ Ресурс» | | | | | |
| ЧУП «КВ Ресурс» | г. Витебск, ул. Ленинградская, д. 86, к. 2 | 390333861 | 02330/410 выдана от 31.08.2011 №148 | До 31.08.2016 | За исключением периодических изданий |
| Выдана новая лицензия на осуществление полиграфической деятельности сроком на пять лет коммунальному унитарному полиграфическому предприятию «Ивановская районная типография» | | | | | |
| КУП «Ивановская районная типография» | 225793, Брестская обл., г. Иваново, ул. Советская, 91 | 200073352 | 02330/122 выдана от 31.08.2011 №148 | До 31.08.2016 | Без ограничений |
| Продлено на пять лет действие лицензии на полиграфическую деятельность, выданной государственному учреждению «Редакция газеты «Слава працы» и программы радиовещания «Раніца Капыльшчыны» | | | | | |
| ГУ «Редакция газеты «Слава працы» и программы радиовещания «Раніца Капыльшчыны» | 223910, г. Копыль, ул. Тракторная, 2а, Минской обл. | 600068120 | 02330/125 выдана от26.10.2006 №146, продлена 31.08.2011 №148, | До 26.10.2016 | Без ограничений |
| Прекращено действие лицензии на полиграфическую деятельность, выданной производственному частному унитарному предприятию «Ходр» Общественного объединения «Белорусское товарищество инвалидов по зрению» на основании его письменного уведомления о прекращении осуществления им полиграфической деятельности | | | | | |
| ЧУП Ходр общественного объединения Белорусское товарищество инвалидов по зрению | 220004, г. Минск, ул. Освобождения, 9, к. 1-18 | 101205418 | 02330/0150482 выдана от29.03.2004 №71, продлена от 25.02.2009 №19 | До 29.03.2014 | За исключением газет |

## Внесение изменений в сведения о субъектах хозяйствования, имеющих лицензию на полиграфическую деятельность, по состоянию на 10 октября 2011 года

| Наименование лицензиата | Местонахождение лицензиата (юридический адрес) | Учетный номер плательщика (УНП) | Сведения о лицензии (№ бланка лицензии, дата и № приказа о выдаче) | Срок действия лицензии | Составляющие полиграфической деятельности: выпуск печатной продукции |
|---|---|---|---|---|---|
| Прекращено действие лицензии на полиграфическую деятельность, выданной частному учреждению образования «Минский институт управления» на основании его письменного уведомления о прекращении осуществления им лицензионной полиграфической деятельности | | | | | |
| Частное учреждение образования «Минский институт управления» | 220102, г. Минск, ул. Лазо, 12 | 100687805 | 02330/0150461 выдана от 29.03.2004 №71, продлена от 25.02.2009 №19 | До 29.03.2014 | За исключением газет |

## Мастак і кніга



**У сямейным архіве ўжо колькі гадоў захоўваецца часопіс з малюнкам Юрася Алісевіча. Гэта ілюстрацыя да апавядання "Як мы з мамай Фёдара кармілі", напісанага ад імя майго тады зусім маленькага сына Дзянiскі. Нам так спадабалася, як убачыў мастак вясёлы выпадак з вясковых прыгод гараджан, што мы з задавальненнем паказваем малюнак і расказваем гэту гісторыю нашым гасцям. І адразу ва ўсіх робіцца добры настрой, бо цёплая ўсмешка — адметнасць почырку гэтага мастака.**

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

# Апладысменты за вокладку

**— Юрась, калі і кім быў заўважаны ваш мастацкі талент?**

— Маімі аднакласнікамі. Класе ў чацвёртым сталі прасіць што-небудзь намаляваць. Патрапілі гэтыя малюнкі на вочы класнаму кіраўніку. Паліна Сцяпанаўна, выкладчыца геаграфіі, і параіла бацькам аддаць мяне вучыцца ў ізастудыю. Здалі. У Мінску, на Грушаўцы, у мастацкую школу. А там сказалі: "Трэба яго ў інтэрнат імя Ахрэмчыка". А я ўпарціўся, не хацеў. Баяўся: як яно там, у інтэрнаце. Бацькі ўзялі за руку і павялі. Здаў экзамены, агледзеўся, пасябраваў з астатнімі пастуноўцамі.

**— А як вызначыліся, што будзеце кніжным графікам?**

— Далёка не адразу. Бацькі мае — простыя людзі, але ў нас была вялікая бібліятэка. У маленстве больш любіў разглядаць малюнкі. Калі падрос, падабаліся творы Гогаля. Як стаў больш свядомы, любімым аўтарам стаў Багдановіч. І дагэтуль лічу яго лепшым паэтам. Падлеткам чытаў Эдгара По, Конан Дойла.

У інтэрнаце ўжо не аматарскі — прафесійны ўзровень. Рабіў дыплом па беларускіх чарадзейных казках. Менавіта на праглядзе дыпломных работ мяне заўважылі Уладзімір Вішнеўскі і Уладзімір Савіч. Можна сказаць, узялі на аловак мяне, а таксама Паўла Татарнікава, Ігара Гардзіёнка.

Мы разам і паступілі ў акадэмію. І, ведаеце, я забыўся пра кніжную графіку. Ажно да другога курса. Пакуль не атрымаў заданне: аформіць "Залёты" Дуніна-Марцінкевіча. Зрабіў макет, ілюстрацыі. Атрымалася выдатна. Стала цікава і надалей працягваць работу над кнігай.

**— Чым яшчэ захапляліся ў юнацкія гады?**

— Я нават сам вершы пісаў, але кінуў даўно. Люблю рок, джаз-рок і цяжкі метал: старыя, якія любіў у 15 гадоў, — "Led Zeppelin" і інш. На гітарцы магу пабрэнькаць, на барабане. У акадэміі быў падвальчык, збіраліся Коля Баран, Алег Кабзар, Аляксандр Цімошчанка.

Кіно люблю — старое, савецкае. "Салярыс" Андрэя Таркоўскага. Фільмы пра вайну ахвотна гляджу. Адзін з любімых — "У жніўні 44-га" Міхаіла Пташука. Мне час ад часу сніцца сон, што я ўдзельнік ваенных падзей. Я там жыву. Але я не ваенны, я хлапчук з вёскі пад Мінскам. І бачу бліскавіцы ад выбухаў…

**— Як лёс прывёў вас да дзіцячай тэматыкі?**

— Кіраўнік дыпломнай работы Уладзімір Савіч пазнаёміў мяне з пісьменнікам Уладзімірам Ягоўдзікам — і я яшчэ студэнтам пачаў супрацоўнічаць з газетай "Дзеці і мы", у якой Уладзімір Іванавіч быў галоўным рэдактарам.

*Візітка:*

*Юрась Алісевіч нарадзіўся ў Мінску ў 1970 годзе. У 1989-м скончыў Рэспубліканскую школу-інтэрнат імя І. В. Ахрэмчыка, у 1995-м — графічнае аддзяленне Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. З 1997 года член Беларускага саюза мастакоў. Выкладае малюнак у БДАМ. Узнагароджаны Ганаровай граматай Дзяржкамітэта па друку (1997), дыпломамі конкурсу "Мастацтва кнігі" (1997, 1999, 2000, 2003) і Гран-пры (2001). Таксама сярод узнагарод — дыплом першай ступені IX рэспубліканскай выстаўкі-конкурсу кніжнай ілюстрацыі "Мастак і кніга" 2006 года ў намінацыі "Родныя напевы" за цыкл ілюстрацый да кнігі У. Ягоўдзіка "Выбранае" ў двух тамах.*

У газеце працаваць было цікава, прэстыжна. Падабалася, што мяне заўважылі. Аднойчы пазваніў Яўген Ларчанка — мастацкі рэдактар часопіса "Вясёлка". Я атрымаў заданне зрабіць вокладку ў студзеньскі нумар — адказнае, пачатак новага года. Намаляваў снегіроў — увесь калектыў рэдакцыі апладзіраваў. Шмат гадоў з ім супрацоўнічаў. Яўген Аляксеевіч не шкадаваў добрых слоў, але мог мяне пакрытыкаваць, тое-сёе прымушаў перарабіць. Я дзяцей не ўмеў маляваць. Не ўмею і цяпер. Яны ў мяне атрымліваюцца нейкія дарослыя. Яшчэ з акадэміі схільны да стылізацыі вобраза. Самае ўдалае дзіця, можа, на вокладцы кніжкі Ніны Галіноўскай, што рабіў у выдавецтве "Юнацтва".

У часы "перабудовы" з'явілася многа камерцыйных выдавецтваў: "МЕТ", "Харвест" — выходзілі на мяне самі, шмат было прапаноў. Тады і пачаў займацца ў асноўным кніжкай.

**— Ці шмат аздобілі выданняў?**

— На маім рахунку кніжак хапае — і асобных, і работ у зборніках. Шмат работ выканана для выдавецтва "Харвест" (яны бралі для сваіх кніг малюнкі розных мастакоў, такі мікс стварылі).

**— Вашы самыя каштоўныя ўзнагароды?**

— Самымі значнымі лічу дыпломы конкурсу і Гран-пры "Мастак і кніга". У Браціславе на BIP у 2005 годзе адзначаны за цікавую падачу кніжкі "Выбранае" Уладзіміра Ягоўдзіка.

**— Ці былі прапановы ад замежных выдаўцоў?**

— Пасля таго, як мы з Татарнікавым з'ездзілі на Балонскае біенале, сербы зацікавіліся маімі працамі. Запрашэнне з Мексікі прыходзіла. Я адказаў, што згодны, але на гэтым усё і прыпынілася. Для мяне гэта было б не зусім проста — я не тэхнічны чалавек, далёка не на "ты" з Інтэрнэтам.

**— Прыгадайце смешны эпізод, звязаны з кніжкай.**

— Гады два-тры таму быў у складзе адборачнай камісіі на ўступных іспытах, ацэньваў работы абітурыентаў. Прыехала дзяўчынка ці то з Гомеля, ці то з Рэчыцы — дакладна не памятаю, — і прывезла… копіі маіх малюнкаў з кніжкі "Лісіца-хітрыца". Гляджу — нешта знаёмае. Я пасмяяўся, але ёй нічога не сказаў.

**— Як прыходзяць да вас вобразы герояў?**

— Галоўнае — першае ўражанне. Я ніколі не перачытваю кніжку два разы. Чытаеш — і як скануеш, адразу бачыш нейкую кампазіцыю — вушы, нос… Калі толькі трэба нешта ўдакладніць, можна адкрыць старонку, прыгадаць пэўныя дэталі.

**— А калі лічыце работу гатовай?**

— З'яўляецца ўнутранае адчуванне, што работа скончана. Я кажу сваім студэнтам: "Пачалі працу — трэба яе дабіць, каб там аж дзірка была, у паперчыне гэтай. Ніколі не адкідайце: усё роўна будзе тая самая памылка". Бывае, змываю некалькі разоў фарбу, нешта мяняю, пераношу, але праца ідзе на адным лісце, які ляжыць перада мной.

**— Над чым хацелі б папрацаваць?**

— Праілюстраваць хацелася б казкі. Я вырас як мастак-ілюстратар менавіта на казках. Там заўсёды прысутнічае гумар, які я дужа шаную. Ёсць нейкая падказка, як зрабіць так, каб у чытача на твары з'явілася ўсмешка. Сур'ёзныя рэчы мне не вельмі падабаюцца — гістарычныя, напрыклад. Не люблю "лапаціць" літаратуру — шукаць даспехі, зброю, перамалёўваць. Выключэнне магу зрабіць толькі калі малюю жывёл — але ўсё роўна шукаю вобраз смешны, больш гумарны.



***На здымках: ілюстрацыі Юрася Алісевіча да казкі "Стойкі алавяны салдацік" і зборніка "Лісіца-хітрыца" ("Доўг плацяжом моцны").***

## Пад вокладкай

Марына ВЕСЯЛУХА



**Мировая детская литература. Практикум / сост. Т. Е. Автухович и др.; под. ред. Т. Е. Автухович, Д. Р. Мышко. — Минск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 312 с.**

Гэта трэцяя частка вучэбна-метадычнага комплексу па курсе "Сусветная дзіцячая літаратура". У яго ўвайшлі таксама вучэбны дапаможнік і хрэстаматыя, крыху раней падрыхтаваныя аўтарскім калектывам. Дадзенае выданне акажа неацэнную дапамогу выкладчыкам. Тут змешчаны распрацоўкі практычных заняткаў па курсу, сістэма заданняў, варыянты іх выканання. У якасці дадатка да кнігі прапануецца дыск з запісам найбольш значных твораў сусветнай дзіцячай літаратуры.



**Кабржыцкая, Т. Дзве Радзімы — Украіна і Беларусь — пад міратворчымі крыламі буслоў: нацыянальныя гісторыка-культурныя міфы, ідэйна-эстэтычныя пошукі ўкраінскай і беларускай літаратур / Тацціяна Кабржыцкая; прадм. М. Мушынскага, А. Лойкі; пасляcл. М. Хмяльніцкага. — Мінск: Кнігазбор, 2011. — 448 с.**

Кніга вядомага ў краіне і за яе межамі вучонага-кампаратывіста, перакладчыка, лаўрэата Міжнароднай літаратурнай прэміі імя Івана Франко, лэдзі ўкраінскага дзяржаўнага ордэна Княгіні Вольгі — своеасаблівае "выбранае" са створанага Таццянай Вячаславаўнай за апошнія гады. Тут даследчыца звяртае ўвагу на значныя старонкі беларуска-ўкраінскага летапісу дружбы, этапы нацыянальнага самавызначэння беларусаў і ўкраінцаў, эстэтычныя пошукі нацыянальных літаратур. У выданні закранаюцца таксама і пытанні тэорыі мастацкага перакладу, прадстаўляюцца напрацоўкі аўтара як перакладчыка з беларускай мовы на ўкраінскую.



**Зарэмба, М. М. Здань у храме святой наіўнасці: аповесці / Міхась Зарэмба. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2011. — 271 с.**

Складаныя ўзаемаадносіны бацькоў і дзяцей, балючыя пытанні пошуку падыходу ў выхаванні, таямніца з'яўлення чароўнага пачуцця — Кахання. Пра гэта і многае іншае ў шчырай і спавядальнай манеры піша Міхась Зарэмба ў аповесцях "Здань у храме святой наіўнасці" і "Дзень магнітнай буры". Не выпадкова, што героямі і чытачамі аповесцей мусяць стаць падлеткі. Бо аўтар, як яго назваў Мікола Чарняўскі, — "пісьменнік добрага пяра і сэрца" — сваю творчасць прысвяціў маладой змене, тым, "хто стаіць перад выбарам дарогі ў шырокі і мала спазнаны пакуль свет жыцця".



**Шлинк, Б., Попп, В. Правосудие Зельба / Бернхард Шлинк, Вальтер Попп; пер. с нем. Р. Эйвадиса. — Санкт-Петербург: Азбука, 2010. — 320 с.**

Менавіта з гэтага рамана распачалося знаёмства нямецкіх і англамоўных чытачоў з харызматычным прыватным сышчыкам Герхардам Зельбам. Яму 68 год, удавец, мае добрае пачуццё гумару, цэніць моцную мужчынскую дружбу. Напраўду, гэтыя рысы здольныя заінтрыгаваць чытача, асабліва аматара дэтэктыва. А калі яшчэ Герхард мае здольнасці раскрываць цёмныя таямніцы мінулага, то, безумоўна, поспех раману забяспечаны.

***Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by***

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам "Кніжны салон". Тэл. 385-60-89.**



Алег Ждан

**У канцы XVIII стагоддзя расійская імператрыца Кацярына II па дарозе ў Крым заязджала ў Мсціслаўль. Сустракалі яе многія знакамітыя і незнакамітыя людзі з усёй Магілёўскай губерні, у тым ліку архіепіскап Георгій Каніскі, які ўсё жыццё змагаўся за ўзнаўленне і ўмацаванне праваслаўя ў Беларусі. Вядома, Кацярына Аляксееўна аднолькава адносілася да розных канфесій Хрысціянства ў імперыі, але была праваслаўнай і таму паблажліва сачыла за дзейнасцю архіепіскапа.**

**Мы друкуем урывак з рамана Алега Ждана "Гасударыня і епіскап". Асобнай кнігай раман выйдзе ў выдавецтве "Літаратура і Мастацтва" ў 2012 годзе.**

# «Яка жаніх з палаца свайго!..»

## *Урывак з рамана «Гасударыня і епіскап»*

Напярэдадні обер-камендант Радыёнаў загадаў прыкаціць і паставіць пры ўездзе ў горад абапал дарогі дзве гарматы. Напагатове павінны быць і званары. Капітан-спраўнік пакінуў конны пост каля вёскі Сапрынавічы, каб ведаць, калі пакажацца картэж імператрыцы.

Пост гэты, аднак, змарнаваў час: а чацвёртай гадзіне два скараходы з картэжу імператрыцы прыскакалі ў горад і паведамілі, што чакаць імператрыцу варта самае позняе праз гадзіну. Адразу ж прымчаліся ганцы з паходнямі запальваць вогнішчы ўсцяж дарогі. Яшчэ два скараходы прыскакалі за паўгадзіны да з'яўлення картэжу. І, нарэшце, паказаліся два вершнікі на пагорку за ракой.

Радыёнаў адчуў, як імгненна пачало моцна біцца сэрца. Вось ён, можа быць, самы гістарычны ў яго жыцці момант!

Калі вершнікі праскакалі паўз першы пост і карэта імператрыцы, запрэжаная трыццаццю конямі, таксама паднялася на гарадскі пагорак, па знаку капітана-спраўніка грымнулі абедзве гарматы, зазванілі званы на ўсіх храмах, узляцелі ракеты феерверку. Натоўп — мужыкі і бабы, служылыя людзі і шляхта — расцягнуўся ўздоўж усёй дарогі да самага палаца-спачывальні.

Карэта гасударыні была вялізная, па два акны на кожным баку, упрыгожаная радавым вензелем і расійскім гербам, з аксамітавым падножжам. Сані, на якія яе паставілі, таксама ўражвалі; высока загнутыя шырокія палазы, падкаваныя палосамі тонкага жалеза; на козлах у цёплай расійскай світцы з чырвоным поясам узвышаўся барадаты фурман, два фарэйтары ў трохвуголках з касой сядзелі на першай пары коней.

Дзевак сваіх у новых паўкажушках і каляровых хусцінках Ждан-Пушкін паставіў непадалёк ад уваходу ў палац, і як толькі адчыніліся дзверы карэты і паказалася гасударыня імператрыца, па яго знаку дзеўкі заспявалі-заскакалі. Гасударыня, відавочна, не чакала, прыпынілася, заўсміхалася, і гэта яшчэ больш натхніла дзевак, ужо так спявалі-круціліся, як ніколі раней. І Ждан-Пушкін, канечне, усміхаўся: патрапіў дакладна, здзівіў, дагадзіў. Нарэшце гасударыня здаволілася іх песнямі, павярнулася да людзей, што таўпіліся навокал, памахала ім рукой. "Матухна, гасударыня наша, Кацярына Аляксееўна, са шчаслівым прыбыццём!" — чулася тут і там. Ёй, бясспрэчна, падабалася сустрэча, і, хоць світа, таксама ўсміхаючыся, ужо стаяла каля дзвярэй палаца, прапаноўваючы імператрыцы зайсці першай, яна не спяшалася.

Гофмайстар Безбародка скарыстаўся паўзай і паведаміў Энгельгарду, а Энгельгард — Радыёнаву, што імператрыца выправіцца на адпачынак у дзевяць вечара, а таму вогнішчы павінны быць да гэтага часу патушаны, усялякія песні спынены. Падымецца яна ў шэсць раніцы, зробіць туалет на працягу трыццаці хвілін, прыме яго, Безбародку, па справах, паснедае, развітаецца з гаспадарамі горада і жыхарамі, а ў дзевяць раніцы прадоўжыць шлях.

Роўна ў дзевяць!

* * *

Перад самым прыездам імператрыцы ўзнікла пытанне: каму сказаць слова гасударыні? У якой паслядоўнасці? Безумоўна, павінны былі выступіць з нядоўгімі прамовамі тры архіепіскапы: Каніскі, Богуш-Сестранцэвіч, Лісоўскі. Гэтаксама многія іншыя, не знакамітыя, жадалі б пакланіцца Кацярыне Аляксееўне, паказацца ёй на вочы, хаця асабіста для сябе ніхто не жадаў якіх-небудзь даброт альбо ўзнагарод, акрамя, канечне, права ганарыцца перад суайчыннікамі і патомкамі.

— Думаю, першаму варта гаварыць вам, Ваша Светласць, — звярнуўся Мікалай Багдановіч Энгельгард да Георгія Каніскага. — Горад Мсціслаў, у асноўным, праваслаўны, царыца наша таксама праваслаўная... Вы старэйшы сярод нас, вам і гаварыць.

Каніскі згодна кіўнуў. Гэта будзе, канечне, апошні яго зварот да яе, паколькі надта кароткі тэрмін знаходжання на зямлі чалавека — і архіепіскапа, і царыцы. Хацеў перадаць і сваё, і ўсяго праваслаўнага люду захапленне і любоў, перадаць так, каб яна адчула яго.

Вечарам ён доўга маліўся пра заўтрашні дзень, дзякаваў Богу і маці Боскай за магчымасць выступіць перад царыцай і, хоць прыкладна ведаў, пра што будзе казаць, прасіў пераканаўчага слова, яснага розуму, моцнага голасу.

* * *

— Пакінем астраномам меркаваць, ці сонца каля нас ходзіць, ці мы з зямлёй каля яго кружымся. Наша Сонца каля нас ходзіць! — Голас у яго быў моцны, нягледзячы на ўзрост, а старыя вочы ззялі, як пяцьдзясят гадоў таму, у час пастрыгу. Ён ведаў, што скажа харошую прамову, яна запомніцца і царыцы, і ўсім прысутным. — Заходзіша, наймудрая манархіня, яка жаніх зыходзяй з палаца свайго! Ад краю мора Балтыйскага да краю мора Яўксінскага шэсце твае, ды толькі не адзін сукрыецца дабрадзейныя цеплыні твае. Цячы далей, о сонца наша, спешна! Цячы волатаўскаю ступою! — Ён не проста вітаў і славіў Кацярыну, ён развітваўся, ведаючы, што больш не ўбачыць яе. Не толькі яго, але і яе вялікае жыццё павяртала да вечнасці. Як прадоўжыць яго? — Да схілу толькі жыцця твайго не спышай, бо ўсклікнем мы, як Ісус Навін: "Стой, сонца, і не рухайся, таму што ўся супраціўная намерам тваім паможа!.."

Закончыць прамову яму не ўдалося: слёзы пырснулі з вачэй старога. Павільгатнелі вочы і ў не сентыментальнай імператрыцы. З пяшчотай і добрай усмешкай глядзела яна, як ён выцірае вочы вялікай скамечанай хустачкай, затым павярнулася тварам да прынца Карла дэ Ліня, які з задавальненнем выконваў у яе свіце ролю скарбніка, і ледзь заўважна кіўнула. Дэ Лінь умомант запусціў руку ў куфэрак, дзе захоўваліся кашалькі для падарункаў тым, хто сустракае, паклаў яго на сярэбраны паднос і з пакланом працягнуў архіепіскапу.

— Тысячу рублёў дорыць вам літасцівая імператрыца, — на жахлівай рускай мове сказаў ён.

Але нават калі б гэтая фраза прагучала без усялякага акцэнту ці на лацінскай, нямецкай, польскай, грэчаскай, старажытнаяўрэйскай мовах, якімі правялебны Георгій добра валодаў, не ведаў бы, што рабіць далей. Ён адхіснуўся ў першае імгненне, бо ніяк не чакаў падарунка, тым болей такога шчодрага, і тут жа пачуў ужо настойлівы голас прынца дэ Ліня:

— Вазьміце, Ваша Святасць.

Ён узяў падарунак і стаяў, схіліўшы галаву, адчуваючы, як непрыгожа выглядае з кашальком у руцэ, але і не рашаючыся апусціць яго ў кішэню. Між тым такі шчодры падарунак быў дарэчы. Усё жыццё ён марыў і збіраў грошы на сваю мару: пабудаваць храм у імя свайго нябеснага заступніка Георгія Перамаганосца. І вось цяпер стаяў, выціраў аб кашалёк раптам запацелыя далоні. Выручыў Богуш-Сестранцэвіч.

— Усёлітасцівейшая гасударыня Кацярына Аляксееўна! Няма ў Еўропе больш папулярнай асобы, чым вы, наша Расійская імператрыца! Зайздросцяць нам і немцы, і французы — усе, хто ведае ці хоць бы чуў пра вас. — Лёгкі польскі акцэнт выклікаў у прысутных асаблівы інтарэс і ўвагу. — Мы ганарымся тым, што жывём з вамі ў адным часе, шчаслівыя тым, што можам сузіраць вас. Хрысціяне ўсіх канфесій моляцца і дабраслаўляць вас. Як багата вырашылася праблем па вашай найвышэйшай волі. Усе мы: праваслаўныя, каталікі, уніяты, езуіты — цяпер спакойна глядзім адзін аднаму ў вочы, разумеем, што молімся аднаму Богу. Будзьце ж шчаслівымі ў вялікіх справах вашых!

Сказалі слова і ўніяцкі архіепіскап Лісоўскі, і генеральны вікарый езуітаў Лянкевіч.

Нарэшце і обер-камендант, пан Радыёнаў, дачакаўся сваёй чаргі.

— Ваша Імператарская Вялікасць! Ёсць светлыя хвіліны ў жыцці кожнага чалавека, але ёсць светлыя хвіліны ў жыцці людзей. Вось яны, гэтыя хвіліны, гадзіны і дні. У сярэдзіне мінулага года прыйшла добрая вестка, што вы праедзеце цераз наш горад. Збыліся нашы чаканні: вы тут, у старажытным Мсціславе! Самыя далёкія патомкі нашы будуць здзіўляцца і радавацца за нас. Лёс дабратворна пасадзейнічаў нам! Не перадаць словамі, як мы чакалі вас! "Ці дачакаемся?" — пыталі і старыя, і малыя. Але мінула маркотнае для ўсіх чаканне: вы з намі! Але як даказаць вам нашу любоў і адданасць? Небагатыя, быць можа, нашы засекі, аднак моцныя і гарачыя пачуцці. Выкажам, сугамадзяне, сваю радасць і ўрачыстасць: ура!

Відаць, і на самай справе ўсіх прысутных стамляла чаканне ўрачыстасці, таму што крыкнулі ў адзін голас. Канечне, імператрыца чула і больш натхнёныя словы, але, мабыць, лунала тут, у Мсціслаўе, штосьці незвычайнае, і нейкае асаблівае пачуццё, блізкае да падзякі, адбілася ў яе на твары, і яна зноў павярнулася да скарбніка дэ Ліня і нешта шапнула яму на вуха. У абліччы дэ Ліня, якому ўвогуле не было ніякай справы да горада Мсціслаўля, зноў адлюстравалася задавальненне. Ён зноў узяў сярэбраны паднос, паклаў на яго кашалёк.

— Найслаўнаму гораду Мсціслаўлю! — шапялява вымавіў ён.

Обер-камендант — не архіепіскап Каніскі, не адхіснуўся, ні на які міг не збянтэжыўся — хапіў кашалёк, быццам чакаў такога падарунка і баяўся, што хто-небудзь, напрыклад, шустранькі Ждан-Пушкін, яго апярэдзіць.

— І тры́ста рублёў гасударыня імператрыца ахвяруе Тупічэўскаму манастыру!

Ага, значыць, не дарэмна ў апісанні горада, якое завяршылі ў мінулым годзе для акадэміка Габліца, яны згадалі Тупічэўскі манастыр і зрабілі прыпіску пра яго бядотнае становішча.

І тут адразу, як па камандзе, а можа, і даў знак прадвадзіцель, аматар музыкі і народных скокаў, які марыў уладкаваць тэатр у горадзе, як уладкаваў Энгельгард у Магілёве, або Зорыч у Шклове, ды кішка тонкая, — у сэнсе кашалёк пусты, — зноў заспявалі і заскакалі дзеўкі, закружыліся, заляманталі. Гарэлі шэсць вогнішчаў вакол плошчы, цені мітусіліся на белым снезе, і на твары імператрыцы зноў адбілася задавальненне. Яна нават выняла рукі з цёплай футравай муфты і папляскала дзеўкам, канечне, умомант запляскалі ўсе. Дзеўкі кланяліся, кланяўся і Ждан-Пушкін, быццам гэта ён спяваў і скакаў, і менавіта яму дзякавала гасударыня.

— А цяпер просім, Кацярына Аляксееўна, на сціплую вячэру! — сказаў Радыёнаў і прасцёр руку да палаца.

Царыца згодна кіўнула і ступіла да палаца, дзе яе чакаў адпачынак. За ёю ахвотна падалася ўся яе згаладалая світа. То былі прынц аўстрыйскі Кабенцэль, французскі Луі Сюгер, англійскі Фіц Гербер, прынцы Карл Іосіф дэ Лінь і карл Генрых Насау-Зінген, добрыя два дзясяткі сваіх прыдворных, ну і, канечне, чародка раскошных дам: фрэйліны Браніцкая, Скаўронская, Пратасава, Чарнышова... У агульнай колькасці ў картэж імператрыцы ўваходзілі трыццаць два вышэйшыя чыноўнікі.

Разам з беларускімі гасцямі і самымі значнымі асобамі горада за сталом апынулася каля пяцідзесяці чалавек, і ўсе з дапытлівасцю вывучалі закускі.

Ні ў пяці кухарак, якіх на самай справе Радыёнаў прывёз з Магілёва, далучыўшы ім у памочніцы сваіх кухаранят, ні ў Радкевіча, ні ў Ждана-Пушкіна, ні ў таго ж Радыёнава або нават у Энгельгарда не было ўяўлення, што такое царскае вячэра, і кухары нагатавалі столькі, што хапіла б і лакеям, і фарэйтарам, цырульнікам, камердынерам, музыкантам, скамарохам і іншым — усяго было за дзвесце чалавек. Гэтых гільдзэйскі староста Рог павёў у вялікую трапезную.

Імператрыца, як зайшла, на хвіліну затрымалася, аглядаючы сталы, і накіравалася ў цэнтр, світа таксама нядоўга тапталася каля парога, відаць, месцы кожнага былі першапачаткова распісаны, а вось гаспадары — тры архіепіскапы, обер-камендант Радыёнаў, гарадзнічы Радкевіч, прадвадзіцель Ждан-Пушкін, капітан-спраўнік Воўк-Левановіч і некалькі памешчыкаў, якіх ніхто не запрашаў, аднак прарваліся, стоўпіліся пры ўваходзе. І тады Безбародка зрабіў ім знак рукой, паказаўшы на дзясятак вольных месцаў насупраць імператрыцы, маўляў, смялей. У той жа момант яны шумна пакіраваліся да вольных крэслаў і, напэўна, правільна селі, таму што Кацярына Аляксееўна заахвочвальна ўсміхнулася, і Безбародка кіўнуў кучаравай галавой. Аднак усім крэслаў насупраць імператрыцы не хапіла, і памешчыкі, а таксама капітан-спраўнік з гарадзнічым вымушаны былі шукаць месца на вольным краі стала. Нарэшце, ўсе паселі, і ўсе былі задаволены, а калі хто незадаволены, то высветліцца гэта потым, пазней, калі пройдзе час і ўсе ўспомняць, хто на што мог прэтэндаваць і што атрымаў узамен таго, чаго чакаў і на што спадзяваўся.

Аднак перад самай вячэрай адбылося прадстаўленне імператрыцы самых вядомых людзей губерні і Мсціслаўскага павета. Губернатара Энгельгарда Кацярына ведала і помніла, — яна рэдка забывала тых, хто аднойчы паяўляўся перад яе вачыма, тым не менш, відаць, згодна з пратаколам, яго ўсё ж прадставіў Безбародка, а далей знаёмства вялі Энгельгард і обер-камендант Радыёнаў. Кожны з прадстаўленых рабіў крок да імператрыцы, кланяўся, а калі прыйшла чарга Ждана-Пушкіна — гэты не стрымаўся і зрабіў два крокі да імператрыцы, а пакланіўся ніжэй і адданей за іншых. Вушы ў яго ад задавальнення і хваляванні гарэлі так, што, напэўна, свяціліся б у цемры.

Кацярына Аляксееўна адчула па затрымцы, што прадстаўленне закончылася і зрабіла здзіўлены выгляд:

— Гэта ўсё, панове? А дзе вашы дамы?

І ўсе прысутныя паглядзелі на Радыёнава, а Радыёнаў на сваю жонку. Тэадора тут жа ступіла ўперад, зрабіла глыбокі рэверанс, злавіла ўсмешку гасударыні і, здаецца, беражліва панесла яе назад, да іншых дам, якія чакалі сваёй чаргі.

— Пані Радыёнава, мая жонка, — не без збянтэжанасці аб'явіў обер-камендант.

— Брава, — нягучна прамовіла Кацярына Аляксееўна.

Гэтак жа нягучна паўтарылі "брава" і палацавыя фрэйліны Пратасава, Скаўронская, Браніцкая, Чарнышова...

Затым выступілі жонкі гараднічага, прадвадзіцеля і капітана-спраўніка, і ўсякі раз гасударыня прамаўляла "брава".

Кацярына ела мала, як шапнулі Радыёнаву, яна і наогул часцей за ўсё не вячэрала, абыходзячыся шклянкай вады з якім-небудзь сокам або садавінай. Гэтак і цяпер — узяла шклянку малака. Тым самым яна нямала збянтэжыла гаспадароў, якія спачатку гэта палічылі за прыклад паводзін, і толькі ўбачыўшы, як ахвотна вячэрае світа, дазволілі і сабе бліжэй падсунуць талеркі...

**Пераклад з рускай Віктара Гардзея**

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Віктара Кавалёва

**Восем гадоў таму ў Мінску адбыўся вернісаж, які, можна сказаць, наноў адкрыў для нас імя Мікалая Міхалапа — вядомага ў свой час беларускага мастака-кераміста і прамысловага дызайнера, першага дырэктара Дзяржаўнай карціннай галерэі БССР (цяпер Нацыянальны мастацкі музей Беларусі). Тагачасная экспазіцыя яго творчай спадчыны ўключала графічныя і керамічныя работы. Сёлета споўнілася 125 гадоў з дня нараджэння Мікалая Міхалапа (1886 —1979), і Нацыянальны мастацкі музей наладзіў новую выстаўку, якая сталася працягам знаёмства з гэтым таленавітым чалавекам і светам яго творчых захапленняў.**



# Захапленні першага дырэктара

Нарадзіўся Мікалай Міхалап у Мінску ў сям'і рабочага-чыгуначніка. У 1915-м скончыў Ленінградскае вышэйшае мастацка-прамысловае вучылішча імя В. Мухінай. Праз 10 гадоў арганізаваў керамічнае аддзяленне ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме, дзе сам выкладаў да 1929 г. Затым узначаліў аддзел керамікі НДІ прамысловасці БССР. Пазней стаў адным з арганізатараў і першым дырэктарам Дзяржаўнай карціннай галерэі БССР (1937 — 1941 гг.).

Дзякуючы яго ініцыятыве ў фонды галерэі трапілі слуцкія паясы з нясвіжскай калекцыі Радзівілаў. А потым дырэктар быў абвінавачаны ў тым, што ў час эвакуацыі, напярэдадні ўварвання ў Мінск гітлераўскіх акупантаў, ён не паклапаціўся пра ўратаванне 48 унікальных паясоў дый фактычна ўся калекцыя карціннай галерэі была страчана. Мікалай Пракопавіч адчуваў сябе бязвінна вінаватым: са сховішча, у якое змясцілі, бадай, самую знакавую нацыянальную каштоўнасць і пра існаванне якога апроч Міхалапа ведаў толькі адзін яго вельмі паважаны калега, слуцкія паясы загадкавым чынам зніклі... Знакам адмены рэпрэсій у дачыненні да былога дырэктара галерэі сталася высокая ўрадавая адзнака: праз нейкі час пасля заканчэння Вялікай Айчыннай вайны яго ўзнагародзілі ордэнам "Знак Пашаны". Чым жа заняўся М. Міхалап, вярнуўшыся ў вызвалены Мінск? Праектаваннем архітэктуры малых формаў (дэкаратыўныя рашоткі, вулічныя ліхтары, ляпніна на фасадах дамоў). Распрацоўваў таксама керамічныя формы, розныя віды глазуры для вытворчасці на Мінскім фарфоравым заводзе. Працуючы ў сектары мастацкай прамысловасці ўпраўлення па справах архітэктуры пры СМ БССР, зрабіў значны ўнёсак у распрацоўку тэхналогіі керамічных матэрыялаў, у стварэнне эталонаў фарфорава-фаянсавай вытворчасці ў Беларусі.

Яшчэ з маленства памятаю ўзорыстыя срэбныя "п'едэсталы-скрыначкі" стромкіх ліхтароў уздоўж галоўнага сталічнага праспекта і цэнтральных вуліц. Ды толькі цяпер даведалася, што гэтая прыкметная рэльефная аздоба свяцільнікаў (дарэчы, на матывы тых самых слуцкіх паясоў!) зроблена паводле праекта М. Міхалапа. Яго мастакоўская натура выяўлялася ў розных формах дэкаратыўна-прыкладной творчасці: і ў такой манументальнай аздобе гарадскога асяроддзя, і ў дэкаратыўных фаянсавых вазах, і ў маёлікавых мініяцюрах, і ў графічных аркушах, і ў маляўнічых акварэлях. І не толькі...

Вось што адзначыла з нагоды выстаўкі "Мікалай Міхалап. «Маё ХХ стагоддзе». Час, які мінуў. Кераміка і фотаздымкі 1910 —1950-х гадоў" кандыдат гістарычных навук Настасся Скеп'ян, праўнучка мастака:

— Сёння мінчане, віцябляне і гамяльчане штодзень бачаць вынікі працы Мікалая Міхалапа, нават не ведаючы пра яго аўтарства. Мачты ліхтароў, устаноўленых на цэнтральных вуліцах некаторых гарадоў, дагэтуль упрыгожваюць "фартухі", зробленыя на аснове яго праекта. У дэкоры ліхтароў, ваз, створаным паводле матываў слуцкіх паясоў, увасобілася яго замілаванне беларускай культурай, пранесенае праз усё жыццё. Выстаўка да 125-годдзя з дня нараджэння мастака — гэта магчымасць пазнаёміцца з керамічнымі творамі, якія адлюстроўваюць эвалюцыю форм і мастацкіх стыляў іх аўтара, і спадчынай Міхалапа-фатографа, якая раскрывае невядомыя грані яго як творчай асобы.



Зварот да фатаграфіі быў для яго невыпадковы. Яшчэ да Вялікай Айчыннай вайны ў сям'і захапляліся фатаграфіяй, але з даваенных фота, што рабіліся на шкляных пласцінах, захаваліся толькі здымкі сямейнага жыцця і выявы некалькіх неатрыбутаваных твораў выяўленчага мастацтва. Пасля вяртання ў Мінск з эвакуацыі ў 1944 годзе Мікалай Пракопавіч аддаваў шмат часу фатаграфаванню разбуранага роднага горада, а яшчэ — жывёл у Белавежскай пушчы, беларускай флоры. Для выстаўкі выбраныя мінскія краявіды, якія мы ўжо ніколі не пабачым. Гэтыя здымкі (іх захавалася некалькі сотань, яны знаходзяцца ў Музеі старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К.Крапівы НАН Беларусі і сямейным архіве) — не толькі досыць рэдкі помнік фотадакументалістыкі: лепшыя з іх — прыклад сапраўднай мастацкай чорна-белай фатаграфіі. Яны пабудаваныя паводле законаў кампазіцыі мастацкага твора, што адчуваецца ў выбары нечаканага ракурсу, у адюстраванні лірычных пачуццяў, пошуках выразнасці святла і ценю. Цікавыя не толькі панарамныя фота Мінска, Гродна, Міра і Мірскага замка, але і рэдкія здымкі элементаў гарадской забудовы і архітэктурныя дэталі: рашоткі, балконы, асобныя дамы. Фотааб'ектыў Міхалапа паспеў выхапіць і спыніць моманты жыцця пасляваеннага горада, якія адбудоўваліся літаральна на вачах, змяняліся вельмі хутка. Гэтая частка яго творчай спадчыны захоўвае атмасферу гадоў, што прамінулі, дазваляе пабачыць гарады і людзей, якіх ужо няма. У гэтым сэнсе яго фотаздымкі — сама гісторыя. А паколькі Мікалай Пракопавіч быў чалавек надзвычай назіральны і па-мастацку ўважліва фіксаваў на стужку асобныя дэталі сваіх арнаментаў на керамічных формах будынкаў, то серыі яго фотаздымкаў, безумоўна, — вельмі каштоўныя для сучасных рэстаўратараў, якія аднаўляюць аблічча мінскіх вуліц.

Вернісаж сабраў у Нацыянальным мастацкім музеі нямала зацікаўленых гасцей. Думаю, не толькі карэнныя мінчане з настальгіяй углядаліся ў чорна-белыя фота 1945 — 1956 гадоў, дзе адлюстраваліся спыненыя імгненні будзённага жыцця адзінага ў свеце, такога дарагога і шматпакутнага горада. Сярод сямі дзясяткаў экспанаваных здымкаў былі таксама выявы іншых беларускіх мясцін, куды М. Міхалап ездзіў у экспедыцыі па заданнях Саюза архітэктараў БССР. Пра значэнне дзейнасці гэтага ўнікальнага прадстаўніка беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі першай паловы ХХ стагоддзя, пра каштоўнасць яго рознабаковай творчай спадчыны гаварылі ў той дзень дырэктар НММ Уладзімір Пракапцоў, дырэктар Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы НАН Беларусі Аляксандр Лакотка. І важкім сведчаннем прызнання вялікіх заслуг Мікалая Пракопавіча перад айчыннай культурай сталася праведзеная ў музеі цырымонія спецыяльнага памятнага гашэння мастацкага маркіраванага канверта, падрыхтаванага РУП "Белпошта" да 125-й гадавіны з дня нараджэння М. Міхалапа.





***На здымках: дырэктар Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы НАН Беларусі Аляксандр Лакотка і дырэктар НММ Беларусі Уладзімір Пракапцоў; Мікалай Міхалап з сям'ёй (сядзяць дачка Вольга, жонка Надзея Іванаўна, стаіць сястра Соф'я); "Зімовы пейзаж з пуняй, або Лазня" (таніраваная папера, каляровы алоўак, крэйда, 1943 год); керамічныя вазы з сямейнай калекцыі.***

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА

Да 90-годдзя з дня нараджэння народнай артысткі БССР і СССР Аляксандры Клімавай супрацоўнікі Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі прымеркавалі выстаўку "Вернасць прызванню". Экспазіцыя нагадвае прыхільнікам актрысы не толькі пра разнапланавыя ролі, увасобленыя ёю ў спектаклях Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага, але і пра атмасферу вялікай тэатральнай эпохі, звязаную з імем А. Клімавай — стваральніцы вобразаў Клеапатры і Ларысы Агудалавай, Ранеўскай і Марыі Сцюарт, лэдзі Макбет і легендарнай жанчыны-Камісара.

Сталіца рыхтуецца сустрэць XVIII Мінскі міжнародны кінафестываль "Лістапад". Да яго ўрачыстага адкрыцця застаецца тыдзень, але чарада падзей у падтрымку свята "дзясятай музы" ўжо распачалася. Першая тэматычная вечарына (з серыі "Cinema parties"), ініцыяваная дырэкцыяй ММКФ "Лістапад", прайшла ў фотастудыі "Zнята studio" пад знакам беларускага кіно. Адбыўся прагляд і абмеркаванне стужкі Андрэя Кудзіненкі "Масакра". Удзельнікі вечарыны — прадстаўнікі багемы, маладыя бізнесоўцы, аматары кіно — пагаварылі пра патэнцыял беларускага кінематографа ў варунках сусветнага кінарынку, падзяліліся меркаваннямі наконт фестывалю "Лістапад". Наступная вечарына пад знакам "Cinema parties" адбылася ў адным са сталічных бараў і пазнаёміла публіку з творчасцю найбольш паспяховых айчынных кінарэжысёраў-пачаткоўцаў, у тым ліку студэнтаў ВНУ.

Вялікаму спеваку сучаснасці, непаўторнаму і незабыўнаму італьянскаму тэнару Лучана Паварoці прысвячалася канцэртная праграма "O, sole mio" ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры. Аўтарам незвычайнага і прыгожага праекта стаў заслужаны работнік культуры Беларусі, мастацкі кіраўнік тэатра Адам Мурзіч. Ён прапанаваў стварыць праграму ў памяць пра Лучана Паварoці і запрасіць для ўдзелу ў ёй не толькі лепшых мінскіх вакалістаў, а і тых паспяховых спевакоў, якія маюць беларускія карані, нарадзіліся, вучыліся тут, а сёння працягваюць сваю выканальніцкую кар'еру і прафесійнае ўдасканаленне у тэатрах і філармоніях сталіцы Расіі, Санкт-Пецярбургу. Выдатная ідэя атрымала годнае творчае ўвасабленне: сапрана, мецца-сапрана, барытоны і, вядома ж, тэнары спявалі свае ўлюбёныя арыі з італьянскай опернай класікі ды неапалітанскія песні. Як натхнёны партнёр салістаў выступіў аркестр тэатра з дырыжорамі Алегам Лесуном, Юрыем Галясам, Мікалаем Макарэвічам, Марынай Траццяковай.

Адной з найярчэйшых падзей у жыцці Гомеля — сёлетняй культурнай сталіцы Беларусі ды СНД стаўся міжнародны фестываль "Сожскі карагод". Традыцыйны форум разнажанравага танцавальнага мастацтва гэтым разам сабраў больш як тысячу гасцей з дзесяці краін, у ліку якіх Латвія, Малдова, Расія, Украіна, Францыя, Эстонія. Гран-пры конкурснай праграмы "Сожскі карагода-2011" атрымаў добра знаёмы і нашым чытачам, і шырокай беларускай публіцы, і многім замежным гледачам Ансамбль кафедры харэаграфіі Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў, якім кіруе загадчык кафедры харэаграфіі БДУКіМ Святлана Гуткоўская. У гэтым адметным сваёй маладой энергіяй калектыве спалучаюць ашчадлівую творчую працу з традыцыйным беларускім фальклорам і ўвасабленне сваіх крэатыўных ідэй.

**Марыя Барысенка любіць музыку, умее яе слухаць і ператвараць... у музыку габелена! Маладая паспяховая творца пераканала нас у гэтым ужо двойчы.**

# Вакол «Beatles»

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота Віктара Кавалёва**



Летась значны розгалас у артыстычным асяроддзі выклікала яе персанальная выстаўка, зладкаваная сталічнай мастацкай галерэяй “Універсітэт культуры”. Гэта была, можна сказаць, музычная прэм’ера: Марыя прадставіла новую аўтарскую серыю габеленаў пад назваю “Джаз”. Гучанне жывой музыкі, што суправаджала вернісаж, дапамагала гледачам настроіцца на хвалю фантазіі крэатыўнай аўтаркі ды адчуць неверагодную роднаснасць такога, здавалася б, канкрэтнага, матэрыялізаванага мастацтва габелена і надзямной эфемернай “матэрыі” джаза. Гарачае гучанне імправізацыі кантрабаса, пачуццёвыя ноты саксафона, пранізлівасць блюзавага вакалу Марыя Барысенка здолела перадаць праз пульсацыю колеравых кантрастаў, рытміку стракатых ліній-ніцін, супастаўленне фактур.

І вось амаль праз год у той самай выставачнай зале зноў загучала “дэкаратыўная музыка” Марыі Барысенкі. Сёлета яна прадставіла серыю габеленаў “BEATLES forever!”, створаную на працягу 2011 года. У кожнай кампазіцыі з гэтай новай сюіты адчуваеш свежы творчы імпульс і мэтанакіраваную спробу аўтаркі знайсці той пластычны кантрапункт, што праз абстрактна-дэкаратыўны зрокавы вобраз перадасць гледачу эмоцыі, алюзіі, згадкі, перажыванні, асацыяцыі, якія здатная выклікаць музыка “Beatles”.

Зрэшты, гэты новы праект, здзейснены мастачкай пры падтрымцы кіраўніцтва галерэі “Універсітэт культуры”, меў на ўвазе не адно толькі фантазіі ды рэфлексіі “проста з нагоды” музыкі легендарнай ліверпульскай чацвёркі. Супольнымі намаганнямі (у тым ліку дзякуючы публіцы) удалося ўвасобіць больш тонкую і стыльную і, калі хочаце, філасофскую задуму: стварыць атмасферу незабыўнай эпохі “Beatles”, культавых песень Джона Ленана, паказаць жывую і сур’ёзную душу класікі ўсялякага жанру — а значыць, і класікі еўрапейскага рока, якую слухае і выконвае ў сучасных аранжыроўках ужо не адно пакаленне.



*“Марыя Барысенка — выпускніца Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў (кафедра дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва), стыпендыят спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі, пераможца Рэспубліканскай выстаўкі-конкурсу “Час не стаіць і не чакае…” у намінацыі “Тканіны. Габелен. Мадэляванне”. Любіць эксперыментаваць, таму апроч традыцыйных тэхнік габелена скарыстоўвае і сваю, аўтарскую, спалучаючы розныя віды традыцыйнай натуральнай і сучаснай сінтэтычнай пражы з абрэзкамі тканіны, футра, з элементамі металічных матэрыялаў, люстэркам, электрычным падсвятленнем. Удзельнічае ў афармленні інтэр’ераў. Творы маладой мастачкі знаходзяцца ў дзяржаўных і прыватных калекцыях Беларусі, Венесуэлы, Расіі.*

Відавочцы яшчэ доўга будуць успамінаць адкрыццё выстаўкі, якое аздобілі музыканты вядомай сталічнай групы “Flat” выкананнем хітоў рок-н-рола, рытм-энд-блюза, уласных арыгінальных кампазіцый. Сюды прыйшлі расчуленыя першыя беларускія бітламаны, сёння ўжо салідныя паспяховыя і далёка не юныя людзі; тут весела і ўтульна пачувала сябе моладзь. Настальгічную нотку ў партытуру падзеі ўносіў артаб’ект, размешчаны пад габеленам “Back in the USSR”: радыёла “Рыгонда” з гукаўзмацняльнымі калонкамі, адкуль чуліся кранальныя спевы па-англійску. А між габеленаў віселі апраўленыя ў рамкі ды ўзятыя пад шкло вінілавыя кружэлкі ансамбля (набытыя Марыяй Барысенкай адмыслова для выстаўкі — праз Інтэрнэт).

Вось так — без хітрыкаў найноўшых фота-лазерна-камп’ютарных тэхналогій, а сродкамі традыцыйнага для беларусаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва — Марыя Барысенка зрабіла “візуальную аранжыроўку” неўміручых песень.

***На здымках: габелены Марыі Барысенкі “Yellow Submarine” (частка трыпціха) і “Give Piece a Chance”, натхнёныя песнямі “Beatles”.***

# Вечная, новая, класная!

**Працягваецца XXXVIII міжнародны фестываль мастацтваў “Беларуская музычная восень”.**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

Сёння ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі — чарговы канцэрт папулярнага цыкла “Шэдэўры сусветнага арганнага мастацтва”. Выканаўца праграмы, адзін з найярчэйшых прадстаўнікоў сучаснай расійскай арганнай школы Аляксандр Фісейскі завітае да нас не толькі як госць “Беларускай музычнай восені”, але насамперш — як даўні сябра мінскай публікі.

Мінск памятае яго з 1975 года. Тады малады музыкант, скончыўшы з адзнакай Маскоўскую дзяржаўную кансерваторыю як піяніст (клас прафесара В. Гарнастаевай) і арганіст (клас прафесара Л. Ройзмана), пачаў працаваць салістам Белдзяржфілармоніі. Плёнам гэтага супрацоўніцтва, якое працягвалася амаль 10 гадоў, былі не толькі паасобныя канцэрты, але і разлічаныя на некалькі сезонаў тэматычныя цыклы праграм, якія суправаджаліся захапляльным асветніцкім расповедам музыказнаўцы. Апроч таго А. Фісейскі паспяваў актыўна гастраляваць па гарадах СССР і ўдасканальваць свой прафесійны досвед у аспірантуры пад кіраўніцтвам Л. Ройзмана. У 1984 годзе паспяховы музыкант перайшоў у Маскоўскую дзяржаўную акадэмічную філармонію, салістам якой з’яўляецца і сёння, сумяшчаючы напружаную канцэртна-гастрольную дзейнасць з абавязкамі прафесара Расійскай акадэміі музыкі імя Гнесіных.

Больш як у трох дзясятках краін ведаюць выканальніцкую творчасць заслужанага артыста Расіі А. Фісейскага. Асаблівае месца ў яго рэпертуары, як і ў колішні мінскі перыяд, на пачатку



кар’еры, належыць канцэртным цыклам. Сярод іх, напрыклад, — “Анталогія арганнай музыкі”, якая ўключае 18 праграм. “Усе арганныя творы Ё.С.Баха” — таксама ўнікальны цыкл, чатырохразовым выкананнем якога ў гарадах Германіі А. Фісейскі здзейсніў своеасаблівы рэкорд. Цяжка нават уявіць, што, выступаючы ў Дзюсельдорфе, расійскі музыкант пачаў сваю музычную акцыю, прысвечаную памяці вялікага Баха, а палове на сёмую раніцы, а завяршыў, калі на гадзінніку было 1.30 ужо наступнага дня! Падлічыўшы, што за арганам ён прабыў амаль без перапынку 19 гадзін, спецыялісты ўключылі імя А. Фісейскага ў Кнігу рэкордаў планеты (расійскі аналаг Кнігі рэкордаў Гінеса).

У яго сённяшняй мінскай праграме, якую будзе суправаджаць каментарый Вольгі Савіцкай, вядомай беларускай музыказнаўцы, заўсёднай удзельніцы вечароў арганнай музыкі, — вечная і такая сучасная класіка: Ёган Себасцьян Бах, Фелікс Мендэльсон-Бартольдзі, Сезар Франк. Публіка настройваецца і на музычнае адкрыццё: у Мінску ўпершыню прагучыць твор сучаснага рускага кампазітара Уладзіміра Рабава “Дванаццаць позіркаў на Севільскі кафедральны сабор”. Гэта харальныя варыяцыі для аргана, якія з’яўляюцца часткай адмысловай, можна сказаць, шматцыклічнай “Панарамы «Еўрапейскія саборы»”. Музычная панарама, якую У. Рабаў стварае на працягу 1993 — 2002 гадоў, уключае сем гукавых вобразаў культавай архітэктуры: тут і сабор Святога Пятра ў Рыме, і лонданскі сабор Святога Паўла, і венскі — Святога Стэфана, і Кёльнскі, і Нотр-Дам дэ Пары, і славуты Ісакіеўскі ў паўночнай расійскай сталіцы. Для аргана напісаны толькі самы першы цыкл панарамы, прысвечаны Севільскаму кафедральнаму сабору, самаму вялікаму гатычнаму храму ў свеце і трэцяму па велічыні збудаванню сярод цэркваў.

Пяць краін-удзельніц, шырокае прадстаўніцтва лепшых айчынных музыкантаў; 21 канцэрт у Вялікай зале сталічнай філармоніі, адметныя камерныя праграмы на сцэне Малой залы імя Р. Шырмы; чарада гастрольных выступленняў... Да 15 лістапада ці не кожны вечар будзе радаваць сюрпрызамі сваю публіку “Беларуская музычная восень”.

***На здымку: заслужаны артыст Расіі Аляксандр Фісейскі.***

Сёлета ў фестывалю з’явіўся салідны генеральны партнёр: ААТ “Белзнешэканамбанк”. Намеснік старшыні яго праўлення Алег Прохарчык паведаміў журналістам: “Белзнешэканамбанк, рэалізуючы палітыку сацыяльнай адказнасці бізнесу, надае вялікае значэнне пытанням захавання і прымнажэння гістарычнага і культурнага багацця нашай краіны. Больш за тое, стратэгіяй развіцця банка на 2011 — 15 гады прадугледжана, што падтрымка культуры Беларусі будзе яго сацыяльнай місіяй і надалей. Падтрымка праектаў Беларускай дзяржаўнай філармоніі — адзін з напрамкаў рэалізацыі палітыкі банка ў сферы карпаратыўнай сацыяльнай адказнасці. Супрацоўніцтва банка і Белдзяржфілармоніі зладкавалася ў пачатку сёлетняга года, а фестывалем “Беларуская музычная восень” мы працягваем наша ўзаемадзеянне. Гэты фестываль па праве мае сваю важную ролю ў музычным руху ў Беларусі ды ў культурным жыцці краіны наогул, і мы спадзяёмся, што падтрымка з боку Белзнешэканамбанка паспрыяе паспяховаму здзяйсненню сёлетняга праекта. Для нас важна, што праз супрацоўніцтва з Белдзяржфілармоніяй мы дорым мінчанам і жыхарам абласных цэнтраў краіны магчымасць сустрэцца з таленавітымі артыстамі. Мы перакананыя, што, аказваючы падтрымку праектам у сферы культуры, мы рухаемся ў правільным кірунку, і можам запэўніць, што дзейнасць Белзнешэканамбанка ў гэтай стратэгічнай для нас сферы будзе працягвацца на пастаяннай аснове”.

## Эпоха 1910 — 1950 гг. у асвятленні Коласа-публіцыста

Міхась МУШЫНСКІ,
доктар філалагічных навук

**Тэматычны аспект публіцыстыкі Якуба Коласа з сярэдзіны 1945 па сакавік 1953 гг. хоць і быў даволі разнастайны, але перавага ўсё ж аддавалася водгукам на з'явы і падзеі, пра якія ў першую чаргу пісаў партыйны друк, прадметам асвятлення былі тэмы, што траплялі ў перадавіцы, у рэдакцыйныя матэрыялы цэнтральных або вядучых рэспубліканскіх газет. Мы маем тут яшчэ адно красамоўнае пацвярджэнне замоўленага характару, заказнога паходжання многіх публікацый Якуба Коласа.**

# Патэнцыял, які заставаўся нерэалізаваным



Гэта датычыць і артыкулаў, прысвечаных дзесяцігоддзю з дня ўз'яднання Заходняй Беларусі ў адзіную савецкую рэспубліку ("Гістарычная гадавіна", "Мая рэспубліка, мой народ", "Уз'яднанне", "Праз дзесяць гадоў", усе — 1949). Побач з аб'ектыўнай характарыстыкай няпростага жыцця працоўных беларусаў у складзе польскай дзяржавы, расповедам пра іх барацьбу за палітычныя і грамадзянскія свабоды, за права мець школу на роднай мове, развіваць нацыянальную культуру ў артыкулах ёсць багата сцверджанняў, якія не адпавядаюць гістарычнай праўдзе. Гэта перш за ўсё датычыць абмалёўкі пасляваеннага становішча на былых заходнебеларускіх землях. Суровая праўда тут шмат дзе падменена ідылічнымі апісаннямі. "Сяляне заходніх абласцей цвёрда ўсталі на шлях калектыўнага вядзення гаспадаркі. За мінулыя гады было створана да 4 тысяч калгасаў — новых сацыялістычных ачагоў, якія валодаюць вялікімі зямельнымі масівамі, прымяняюць перадавыя спосабы апрацоўкі зямлі з дапамогай дасканалых сельскагаспадарчых машын і прылад". Рэальныя цяжкасці, з якімі сутыкнулася заходнебеларускае сялянства, факты парушэння законнасці, неабгрунтаваная дэпартацыя прадстаўнікоў пэўных сацыяльных груп за межы рэспублікі — усё гэта, як бачым, абмінута, нават не згадваецца. Аўтар артыкулаў з пафасам распавядае пра высокія ўраджаі, пра багатыя даходы, якія справядліва размяркоўваюцца па працаднях. Ды і пра паспяховае асушэнне "векавых балот" гаворыцца ў адпаведнасці з афіцыйнымі ўстаноўкамі, без уліку існаваўшых і на той час крытычных ацэнак і навуковых рэкамендацый меліяратарам-практыкам.

Артыкулы, дзейнай асобай у якіх сярод іншых выступаў Сталін ("Наш гонар, наша гордасць", 1950), як і публікацыі "На шляху да камунізма" (1949), "Пераможны поступ" (1949), нельга аднесці да лепшай часткі публіцыстычных матэрыялаў гэтага перыяду, бо яны наскрозь палітызаваныя. У адпаведнасці з афіцыйнымі ўстаноўкамі і патрабаваннямі эпохі Якуба Колас часта забягаў далёка наперад, пераконваючы чытача ў хуткім наступленні светлай будучыні. Інакш кажучы, жаданае, ружовыя мары выдаваліся за існае. Пазнавальную вартасць многіх выступленняў і апублікаваных матэрыялаў Якуба Коласа зніжала некрытычнае стаўленне іх аўтара да пастаноў, рашэнняў партыі па эканамічных і гаспадарчых пытаннях. Так, яўнае перабольшванне дапускалася ў наступных сцвярджэннях: "Пастанова савецкага кіраўніцтва і ЦК ВКП(б) пра план полезахоўных насаджэнняў не мае сабе роўнага ў гісторыі чалавечай культуры". Не адпавядала сапраўднасці і характарыстыка, якую даў Колас Леніну ў публікацыі да яго 80-годдзя: "Такія геніі паяўляюцца раз у тысячагоддзі. На цэлыя вякі адзначаюць яны шляхі, па якіх павінны ісці і ідуць людзі ў імя прагрэсу, праўды, справядлівасці".

Шмат якія артыкулы 1945—1953 гг. пабудаваныя паводле адной і той жа вельмі спрошчанай схемы: спярша ў змрочных фарбах малюецца цяжкае, беспрасветнае жыццё беларусаў у царскай "турме народаў", а затым — па кантрасце — ідзе ўсхваляваны расповед пра іх вялікія дасягненні. Аўтар артыкулаў як бы і не праяўляе асаблівага клопату, каб у чытача склалася больш-менш аб'ектыўнае ўяўленне пра тагачасную рэчаіснасць з яе складанасцямі, супярэчнасцямі, канфліктамі, на якія так багатае было першае пасляваеннае дзесяцігоддзе. З пісьменніцкага ж выкладу вынікае, нібыта цяжкасці ўжо засталіся ў мінулым, а цяпер ёсць усе падставы ўслаўляць светлае, радаснае сёння і велічнае заўтра.

Эфектыўнасць такой публіцыстыкі, сіла яе ўздзеяння на свядомасць, на пачуцці чалавека была нязначнай. Дарэчы, гэта — адзін з найбольш істотных недахопаў усёй савецкай агітацыйна-прапагандысцкай службы, якая жорсткую праўду жыцця падмяняла плакатнай ілюстрацыйнасцю, гучнымі заклікамі, дэкларацыйнай рыторыкай. Слабы бок святочных, парадных рапартаў у тым, што за высокімі вытворчымі паказчыкамі не было бачна асобнага чалавека, менавіта таго, чыёй працай, намаганнямі і ствараліся матэрыяльныя каштоўнасці. Вельмі характэрны момант: у віншавальным слове з нагоды наступлення новага 1952 года фактычна адсутнічаюць згадкі пра асабістае жыццё адрасатаў! Вось што, паводле зместу навагодняга звароту, уваходзіла ў паняцце "савецкага шчасця ў імя працы на карысць нашай цудоўнай Радзімы". Колас-публіцыст, дасылаючы "шчырае прывітанне ўсім працоўным Савецкай Беларусі", заклікаў суграмадзян "накіроўваць свае сілы, таленты, здольнасці на ўмацаванне магутнасці і эканамічнай моцы нашай краіны"; быць "пільнымі і бязлітаснымі да ворагаў і злоснікаў Савецкай дзяржавы"; "па-бальшавіцку прынцыпова выкарыстоўваць нашую крытыку і самакрытыку"; "змагацца за перамогу справы Леніна — Сталіна, трыумф камунізму". А яшчэ жадаў, каб новы год перавысіў у будаўніцтве, ураджаях, задумах, творчасці сваіх папярэднікаў. У гэтай маштабнай, сацыяльна арыентаванай праграме, прасякнутай клопатам пра інтарэсы дзяржавы, непрыкметна прытуліліся слоўкі-пажаданні: "быць здаровымі, працаздольнымі". Пасланне Коласа дае наглядное ўяўленне пра сістэму маральных, духоўных каштоўнасцей, якія прапагандавала камуністычная партыя на працягу многіх дзесяцігоддзяў.

Цалкам адпавядалі палітычным лозунгам дня, агітацыйна-прапагандысцкім устаноўкам эпохі таксама і сцвярджэнні, гучныя заявы пра непазбежную і хуткую пагібель "гнілога буржуазнага Захаду" з яго эгаізмам і нястрымным імкненнем да матэрыяльнага ўзбагачэння. Але гэтая гучная рыторыка не мела пад сабой надзейнай навуковай асновы, не з'яўлялася вынікам сур'ёзнага аналізу рэальнага эканамічнага становішча ў капіталістычных краінах. Тут публікацыі Коласа-публіцыста ўступалі ў відавочную супярэчнасць з прыродай яго прагнастычнага таленту, яго праўдзівага дару.

*„Публікацыі Коласа-публіцыста ўступалі ў відавочную супярэчнасць з прыродай яго прагнастычнага таленту, яго праўдзівага дару.*

І ўсё ж сярод напісаных у гэты час Якубам Коласам асветна-прапагандысцкіх артыкулаў ёсць і такія матэрыялы, якія раскрываюць перад намі шмат у чым інакшага пісьменніка. Такога, якім Колас хацеў бы і мог бы стаць пры большых магчымасцях для свабоднага выяўлення сваіх поглядаў, думак, меркаванняў. Гаворка ідзе пра яго малавядомы артыкул пад шматзначнай назвай "Мой запавет". Напісаны "запавет", як сведчыць дата на аўтографе, 2 красавіка 1946 г., а ўпершыню пабачыў ён старонкі друку амаль праз палову стагоддзя — 31 кастрычніка 1992 г. у газеце "Рэспубліка" сярод матэрыялаў, прысвечаных 110-годдзю народнага песняра. Натуральна, што гэты надзвычай змястоўны, цікавы артыкул уключаны ў новы Збор твораў. "Мой запавет" — унікальны літаратурны твор. Па-першае, гэта спроба пісьменніка сфармуляваць маральна-этычныя прынцыпы, якімі ён кіраваўся ў сваім жыцці і ў творчасці — прынцыпы народу, слугавання праўдзе і справядлівасці. Па-другое, у артыкуле выкладзены наказ маладому пакаленню жыць дзеля народа, ісці ў жыццё праўдзівай, сумленнай дарогай. Выбар менавіта такога шляху і бласлаўляе народны паэт. Ёсць, аднак, у "Маім запавеце" і яшчэ адзін, не менш складаны аспект — усведамленне таго, што дабрыня, міласэрнасць, унутраная гатоўнасць паспачуваць блізкаму, дапамагчы хвораму, нямогламу, — не сталі, на жаль, вызначальнымі якасцямі ў характары людзей. Вось гэты момант вельмі балюча ўспрымаўся пісьменнікам, які, натуральна, праецыраваў дадзеную з'яву на тагачасныя грамадства. Але аўтар "споведзі" праяўляе непадробнае высакародства, веліч духу, хрысціянскую цярпімасць. Ён не крыўдзіцца на халодных душою, абыякавых, разумеючы хуткаплыннасць жыцця, кароткі век існавання кожнага чалавека на зямлі. І разам з тым шчыра прызнаецца ў сваёй прывязанасці да жыцця і нежаданні пакідаць родных, блізкіх, пакідаць хараство, прыгажосць прыроды.

Напісаны "запавет" падчас доўгага знаходжання аўтара ў Маскве (20 сак. — 18 крас. 1946 г.), калі ён удзельнічаў у рабоце сесіі Вярхоўнага Савета СССР, у пасяджэннях Камітэта па Сталінскіх прэміях. Грамадская праца не магла, аднак, паслабіць той цяжар, які ўзнік пасля незваротнай страты сына Юркі на вайне і заўчаснага зыходу з жыцця жонкі — Марыі Дзмітрыеўны. Не мог не бачыць паэт і тых цяжкасцей, якія сталі перад беларускім народам у справе аднаўлення разбуранай акупантамі гаспадаркі. Усё гэта, разам узятае, грамадскае і прыватнае, і спарадзіла сумна-журботнае, але разам з тым і мужнае гучанне "запавету", які дапамагае зразумець вытокі ўнутраных супярэчнасцей, што ўтрымліваліся ў публіцыстыцы Якуба Коласа пасляваеннага часу. Не ўсё з таго, што хацеў бы сказаць Колас-публіцыст, ён мог сказаць у тагачасных умовах, але наяўнасць выкладзенага ім "запавету" засведчыла яго вялікі творчы, маральны патэнцыял.



*Аркадзь Куляшоў, Якуб Колас і Пятрусь Броўка, 1952 год.*

*„Шмат якія артыкулы 1945 — 1953 гг. пабудаваныя паводле адной і той жа вельмі спрошчанай схемы: спярша ў змрочных фарбах малюецца цяжкае, беспрасветнае жыццё беларусаў у царскай "турме народаў", а затым — па кантрасце — ідзе ўсхваляваны расповед пра іх вялікія дасягненні.*

***Здымкі прадастаўлены Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеем Якуба Коласа.***

Алеся ЛАПІЦКАЯ

# Свет ілюзорных магчымасцей




У новым нумары “Полымя” змешчаны працяг рамана-дзённіка Уладзіміра Гніламёдава “Сем гадоў у ЦК”, паэтычныя нізкі Марыі Дзюбак, Казіміра Камейшы, Эдуарда Граковіча і Генадзя Каўша. Вершаваныя падборкі атрымаліся сапраўды прэзентабельныя, бо творчасць азначаных паэтаў прадстаўлена поўна і шматаспектна, і змешчаных тэкстаў цалкам дастаткова, каб скласці ўяўленне пра адметнасці таленту аўтараў. Праўда, кожны больш-менш дасведчаны чытач “Полымя” пасля знаёмства са зместам часопіса перш, верагодна, звернецца да апавядання Андрэя Федарэнкі “У Крыме”.

Псіхалагізм, ёмістыя сказы, рэльефныя дэталі, ашчаднасць да сродкаў мастацкай выразнасці, шмат закранутых тэм… Як і варта чакаць, у творы выдатна выяўлена атмасфера прыморскага пасёлка ў “аксамітны сезон”: прыватны катэджык, шматнацыянальныя суседзі і “нязвыклы беларускаму вуху гук, увесь час — шух, шух… Мора!” Да таго ж крыху экзотыкі — стэп з “адзінокім канём-крымчаком”, шторм “бар*а*”, што “змыў маладзенькую дзяўчыну, якая здымала стыхію на мабільны тэлефон”. Але, вядома, аднымі “курортнымі імпрэсіямі”, пабытавымі і пейзажнымі замалёўкамі пісьменнік не абмяжоўваўся: апавяданне мае і сюжэт, і галоўнага героя — у гэтай іпастасі паўстае пяцідзесяцігадовы Валодзін, супрацоўнік Музея старадаўніны, які прыязджае “проста купацца, піць віно і есці вінаград, гуляць у адзіноце, знаходзячы ў тым пэўную асалоду і ўжо дакладна — душэўны спакой, баючыся ўсяго, што магло б яго парушыць”.

Для Валодзіна “спакой і душэўная раўнавага — самыя большыя ў свеце каштоўнасці”. “А жыць ён хацеў так, каб як мага менш хацець. План яго складаўся з адсутнасці плана, а рэжым быў у тым, што яго не было”. Прадказальна, што з такім героем абавязкова павінна адбыцца нейкае здарэнне, якое змяніла б яго лад жыцця альбо крыху пахіснула ўпэўненасць ва ўласных поглядах-прынцыпах. Такім здарэннем стала знаёмства з зямлячкай Алесяй — але не чакайце тут жарсцей і віхуры кахання, бо ў Алесі заручальны пярсцёнак, а Валодзін даўно ставіцца да жанчын без юнацкага захаплення, проста і крыху па-спажывецку. У Алесі двухгадовая дачка, а ў Валодзіна — стасункі з іншай жанчынай, сын узросту курортнай знаёмай, фрывольныя жарцікі і ўздыхі пра тое, што “добра, што яна замужам. <…> А то сапраўды давялося б раман закручваць — во дзе было б!..”

Напярэдадні Алесінага ад’езду высвятляецца, што ніякага мужа ў дзяўчыны няма, а так як Валодзіну яна, па вялікім рахунку, падабаецца, то ён амаль што адважваецца прапанаваць ёй шлюб — выратаваць, дапамагчы… Але Валодзін цвяроза ўсведамляе, якія наступствы яго чакаюць: з аднаго боку, “маладая прыгожая жонка, пэўны аўтарытэт, сямейная ўтульнасць”, з іншага — “праз дзесяць гадоў яму стукне шэсцьдзесят, ёй трыццаць. Вясёленькая ж будзе ў іх сямейка!”

Заканчваецца твор прыкладна гэтаксама, як Федарэнкава апавяданне “Куды ісці ў лесе?” — зразумела, што справа хутчэй не ў нібыта страчанай магчымасці, а ў тым, наколькі добрай з’яўляецца “ціхая эгаістычная радасць ад простага існавання” і чаму квінтэсэнцыяй пяцідзесяцігадовага ўзросту найчасцей робіцца фраза “Жывіце, дарагія, як знаеце, без мяне, я са сваёй шкарлупкі ў ваш свет не вылезу, надта добра ён мне знаёмы!..” Герой, здаецца, мог рызыкнуць, паспрабаваць змяніць сваё жыццё і разам з тым зрабіць добрую справу — але фінал апавядання застаецца адкрыты. Бо, па-першае, шлюб — гэта не форма дабрачыннасці, і, па-другое, ці сапраўды здатны да нечага Валодзін? Кожны, хто мае крыху жыццёвага вопыту, ацаніў бы перспектывы такой сям’і яшчэ больш скептычна, чым сам герой, — натуральна, дзякуючы аўтару, які распавёў пра думкі і светапогляд свайго персанажа.

Вось і атрымліваецца, што існуем мы ў свеце ілюзорных магчымасцей — разважаем над імі, узважваем, абмяркоўваем, а на самай справе ўсе нашы рашэнні — гэта найчасцей не валявыя акты, а проста вынік сфарміраванай на пэўным этапе ідэнтычнасці. І Крым, грыбны лес, сталічныя вуліцы — усяго толькі антураж…

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

# Трызненне мадэрнам па-беларуску




Дзявяты нумар часопіса “Нёман” выявіўся важкім і насычаным: агулам 32 публікацыі ад 37 аўтараў (некаторыя — калектыўныя). Большую частку часопіса займае спецвыпуск “Віцебскі сшытак”, прысвечаны літаратуры азначанага паўночнага беларускага рэгіёна. У раздзеле «“Всемирная литература” в «Нёмане»» можна пачытаць апавяданні і вершы сусветна вядомых Уільяма Сараяна і Джона Апдайка ў свежых перакладах з англійскай. Нумар прадстаўляе заканчэнне публікацыі дзённікаў Георгія Папова “Откуда течёт «Нёман»” з водгукамі на твор мемуарыстыкі сучаснікаў апісаных у тэксце падзей: А.Паповай, У. Гніламёдава, І. Калюты, С. Яўсеевай. Аматараў класічнай рускай паэзіі, безумоўна, зацікавіць падборка новых вершаў Глеба Гарбоўскага. Маю ж увагу, наадварот, заняў твор эпічны — аповесць Алега Ждана “Геній”.

Па часе напісання твор падзяляецца на два перыяды, што пазначаныя напрыканцы публікацыі: 1990 і 2010 гг. адпаведна. Гэта шмат што тлумачыць і ў самім выбары тэмы, праблемы, і ў падыходзе, творчым метадзе наогул. Па сутнасці, непазбежна павінна была ўзнікнуць сітуацыя дваістасці, бо разбежка ў 20 гадоў у любых варунках аднавектарнасці не дадае. Таму ў аповесці ёсць дзве сілы, якія прыводзяць твор да руху: сіла мінулага і будучыні. Што было напачатку — сказаць цяжка. Мажліва, просценькая пабытавая аповесць ці нават апавяданне пра мастака, непрызнанага “генія”, звольненага з завода. Аднак плынь новага зместу, новага досведу пакрывае закончаны твор ці не цалкам.

Зробім допушчэнне, што так яно і было. Згодна з такой гіпотэзай, твор мусіў бы нарастаць хутчэй не сюжэтна, а “ўшыркі”: праз узмацненне сімвалізацыі, паглыбленне ў філасафічныя сферы. Карацей, аповесць мусіла б падпасці пад уздзеянне рэтардацыі. Чым апошняя выражана — справа дзясятая. Тэкст паказвае, што ў сюжэце яўна існуюць дапаўненні. Па першым чытанні думаеш, што гэта прыклад тыповага на сёння пісьма: герой пастаянна рэфлексуе, кожны крок яго атуляецца рэфлексіяй, усё бясконца абдумваецца, у эпіку ўрываецца эсэізм, які каменя не пакідае ад дынамікі. Так і тут. Аднак, паўтаруся, я мяркую, што гэты метад вырастае тут, скажам так, з гісторыі тэксту.

Праз гэта пабытавая гісторыя сябелюбівага недарэкі-мастака перарастае ў аповед пра супрацьстаянне мастака натоўпу, выяўляе трагедыю яго жыцця з залежнасцю ад маці, адлюстроўвае сілы і жарсці, якія жывуць у героя. Усё гэта скіроўваецца цяпер на пытанні анталагічнага характару. І добра, што аўтар не становіцца ў позу Льва Талстога і не пачынае абвяшчаць крытэрыі маральнасці і амаральнасці, расказваць, што такое “хорошо” і што не надта добра. Пытанні фактычна застаецца без адказу (а як па-іншаму?), герой — у падвешаным стане, на парозе ці то самазабойства, ці то палымянага пакаяння.

Даваць у літаратуры разгорнутыя адказы на анталагічныя пытанні могуць сёння толькі графаманы (сёння, бо для іншых стагоддзяў, эпохі Асветніцтва, напрыклад, такое будаванне твора было цалкам натуральным). Пісьменнікі вартыя хутчэй працуюць на тое, каб разгарнуць перад чытачом палітру пытання, а не адказу на яго. Праз шырокасць гэтай палітры недасведчанаму чалавеку можа нават здавацца, што аўтар шукае ўцеху ў бессэнсоўнасці, бездухоўнасці і гэтак далей. Аднак пасля часу панавання мадэрнасці падобны ход пісьма (як разгорнутае ў творы анталагічнае пытанне) у Еўропе і ЗША стаў нармальным і нечым дзіўным падаецца толькі аматарам рускай прозы XIX ст. Крытыкі ўжо выказваліся, што мадэрн у Беларусі застаецца праектам незавершаным, а таму адсылкі да яго, трызненне ім непазбежна будуць сустракацца.

Адно, што гэты мадэрн пастаянна апынаецца ў Беларусі ў сітуацыі дваістасці, дзе ён сам адчувае сябе бедным сваяком, у той час як актыўна ўспамінаюцца былыя перамогі “сапраўднай літаратуры”.

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

# У пошуках жыцця




Вераснёўскі нумар часопіса “Маладосць” прадставіў чытачам аповесць Валерыя Ліпневіча “Ева, вярні рабро!” (пераклад з рускай мовы Вольгі Блажэвіч). У аснове твора — гісторыя ўзаемаадносін паміж студэнтамі: філолагам Віктарам і журналісткай Галінай. Час, у які разгортваюцца падзеі, не ўдакладняецца. Але згадкі пра паход у кіно на фільм Таркоўскага “Андрэй Рублёў”, што выйшаў у 1966-м, а таксама нумар “Нового мира” з вершамі Рымы Казаковай сведчаць, што сюжэт аповесці адбываецца ў другой палове 1960-х гадоў. Гэты перыяд для былой савецкай прасторы выключны. Апошнія, кволыя подыхі адлігі, спрэчкі “фізікаў” з “лірыкамі”, фантастычная папулярнасць паэзіі. Якая цікавая эпоха, якое багацце падзей, адносны плюралізм думак!

Аднак пасля прачытання аповесці складваецца ўражанне, што дзеянне адбываецца ў “бясчассі”, ледзь не ў вакууме, куды амаль не далятаюць жывыя павевы. Ніяк не акрэслена месца падзей, таму застаецца толькі здагадвацца, што гэта нейкі горад. Але ў ім няма нічога: ні старога цэнтра, ні архітэктурных адметнасцей, ні паркаў і сквераў. Сімвалічным выглядае той факт, што гісторыя кахання пачынаецца і заканчваецца ў бібліятэцы, дзе ёсць кнігі, але ніхто не жыве. Бо ні Света, сяброўка Галіны, ні незнаёмы барадаты чалавек, “канкурэнт” Віктара ў змаганні за дзяўчыну, ні некалькі безыменных герояў другога плана не прэтэндуюць на якое-небудзь раскрыццё характараў і амаль не ўплываюць на дзеянне. Напрыклад, “барадач” аднойчы проста размаўляе з Галінай і чакае яе. Няўжо гэтага дастаткова? Больш за тое, на працягу знаёмства з “Евай…” чытач так і не даведаецца ніякіх падрабязнасцей з жыцця галоўных герояў, якія існуюць без бацькоў, сяброў (акрамя Светы), знаёмых, выкладчыкаў… Дзе нарадзіліся Віктар і Галіна? Як выхоўваліся? Чым захапляліся? Мяркую, такіх падрабязнасцей і дадатковых адценняў вельмі не хапае ў аповесці.

Але магчыма, В. Ліпневіч наўмысна акцэнтаваў увагу на асабістым жыцці Віктара і Галіны? Аднак іх узаемаадносіны пакідаюць адчуванне кніжнасці, пэўнай штучнасці. Паводле аўтара, непаразуменне паміж героямі заснавана на тым, што гераіня “наіўна абмяжоўвала сябе тым, што магла прапанаваць сама”. Цікава, а як гэта разумець? “Віктар чакаў хоць жэрдкі, на якую можна было ступіць і пабегчы за ёй. А яна думала, што ён кінецца да яе па гэтым балоце, угрузне, працягне рукі, і тады, калі яна пераканаецца, што ён кахае, тады…” Зразумела, такая сітуацыя мае права на існаванне. Але яна павінна быць належным чынам абгрунтаваная. Напрыклад, характарам герояў, іх жыццёвым і асабістым вопытам. У адным з фрагментаў твора сцвярджаецца: “Віктар пашкадаваў, што ў іх нічога не атрымалася з Верай. Гэта шмат спрасціла б. Ва ўсякім разе, не было б гэтай грэблівасці і раздражнення (у адносінах з Галінай. — **Д. М.**). Яны маглі б быць на роўных”. Але гэта адзіны момант, які звяртаецца да мінулага герояў. На мой суб’ектыўны погляд, гэтага недастаткова. Між тым такі ракурс мог прыкметна ўзбагаціць твор.

Спрэчным выглядае і фінал твора. Галоўная гераіня зацяжарала (ад каго — не тлумачыцца) і просіць у Віктара знайсці таблеткі, каб пазбавіцца ад нежаданага дзіцёнка. Той адмаўляецца, і героі назаўсёды развітваюцца. Але такі паварот сюжэта абсалютна не вынікае з логікі падзей. Акрамя размовы з “барадатым” прыхільнікам і спрэчкай з некалькімі знаёмымі, Галіна ў аповесці ні з кім не кантактуе. З Віктарам яны абмяжоўваюцца некалькімі пацалункамі. Дык навошта такая “Санта-Барбара”?

“Жыццё, ён раптам адчуў яго, — піша пра галоўнага героя В.Ліпневіч напрыканцы твора. — Як праз тонкую тканіну — цела дзяўчыны, што прыхінулася да яго і мокне з ім пад адным дажджом, і нястомна, зноў і зноў, знаходзіць сваім гарачым ротам яго распухлыя вусны”. На вялікі жаль, для аўтара гэтых радкоў працытаваны фрагмент стаў адным з нешматлікіх месцаў у аповесці, дзе ён таксама адчуў жыццё. Спадзяюся, іншыя творы В.Ліпневіча, напісаныя на ўзроўні працытаванага ўрыўка, прынясуць яму куды большы поспех, чым “Ева…”.

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

## Слова краязнаўцы



**Мікола Жыгоцкі, супрацоўнік Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа, распавядае пра свой шлях да коласазнаўства:**

— Хутка ляціць час. Многія з былых герояў забываюцца, быццам іх і не было зусім. Але ёсць і такія, каго помняць і сёння. Яны — гонар беларускай нацыі. З дзіцячых гадоў я захапляўся творамі Якуба Коласа. Яны ўзрушылі юную душу, напоўнілі лірыкай, высокімі пачуццямі. Калісьці даўно не сніў і не марыў, што мае асабістыя шляхі-дарогі перакрыжуюцца з жыццём і творчасцю Канстанціна Міцкевіча. Іншы раз, здаралася, я неяк адыходзіўся ад яго асобы, аднак лёс упарта набліжаў да славутага пісьменніка. І хоць мне не пашчасціла бачыць паэта пры жыцці, усё роўна гарнуўся да яго душой і сэрцам, быў яго завочным юным сябрам, прыхільнікам магутнага коласаўскага таленту.

Пазней я трапіў у Мінск, можна сказаць, наблізіўся да Песняра. Тут шмат даведаўся пра Канстанціна Міхайлавіча, пісьменніка, грамадскага дзеяча, акадэміка. Аднаго разу пачуў па радыё, што народнага паэта не стала. Пайшоў у Палац прафсаюзаў, дзе адбываліся ўсенародныя провады ў апошні шлях, развітаўся з ім, браў удзел у пахаванні.

Прыблізна праз год пасля смерці Канстанціна Міхайлавіча мне прапанавалі працу ў музеі Якуба Коласа, створаным у доме, дзе ён жыў апошнія гады. І вось большую палову жыцця (амаль пяцьдзясят чатыры гады) працую на ніве коласазнаўства.

Разам са старэйшым сынам Песняра Данілам, які быў прызначаны дырэктарам, прымаў удзел у стварэнні музея ў Мінску і яго філіялаў на Стаўбцоўшчыне. Вывучаў творчую і эпісталярную спадчыну Майстра. Па некалькі разоў наведваў мясціны, дзе бываў, а часам жыў і працаваў пясняр. Вёска Мікалаеўшчына на Стаўбцоўшчыне з яе маляўнічым наваколлем, мілы сэрцу песняра Мінск, вёскі і вёсачкі на Пухавіччыне, Магілёўшчыне, Віцебшчыне, Гомельшчыне. А яшчэ Вільня, Беласток, Пецярбург, Масква, Ташкент. Гэта не проста геаграфічныя назвы, а пуцявіны вялікага творчага шляху паэта. Вынік маіх падарожжаў і даследаванняў — разнастайныя матэрыялы, што выходзілі ў перыядычным друку, часопісах, гучалі па радыё і тэлебачанні, друкаваліся асобнымі выданнямі.

**Запісала Юлія ВАЎЧОК**

## Мініяцюры ад Зайкі

**Чэслава ПАЛУЯН**

Не так даўно пабачыў свет зборнік лірычных запісаў, мініяцюр і апавяданняў руплівага збіральніка фальклору, мясцовай тапанімікі, народнай лексікі, нястомнага краязнаўцы Алеся Зайкі. Творы, што ўвайшлі ў кнігу "Дым з коміна", напісаны ў розных гадах, але іх яднае неаслабная ўвага да чалавека, роздум пра час, радасць і неспакой за кожны пражыты дзень. Нездарма ж аўтар збірае фальклор. Яго творчую манеру вызначаюць жывая народная мова, назіральнасць (адметная рыса рэгіяналістаў), а таксама тонкі лірызм.

## Музейны ўнікат

**Ужо традыцыйным стала супрацоўніцтва Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь з камерцыйнымі ўстановамі краіны ў галіне ўзбагачэння фондаў новымі прадметамі. Кожны крок у гэтым кірунку — папаўненне скарбніцы музея ўнікатамі: старажытнасцямі, набытымі ў прыватных калекцыянераў, і рэчамі, створанымі ў наш час, але адметнымі па сваёй задумцы.**



# Амулеты, Вітаўт і Ягайла

**Марына ВЕСЯЛУХА, фота Наталлі Купрэвіч і з архіва Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь**

### Сакральная калекцыя

Не так даўно ў фондах Нацыянальнага гістарычнага музея краіны з'явілася ўнікальная калекцыя язычніцкіх амулетаў і хрысціянскіх нацельных крыжоў беларускага паходжання X — XVII стст., якая складаецца са 168 прадметаў. Гэтая падзея стала магчымай дзякуючы падтрымцы Белзнешэканамбанка.

Як распавёў Мікалай Плавінскі, кандыдат гістарычных навук, загадчык аддзела археалогіі, нумізматыкі і зброі Нацыянальнага гістарычнага музея краіны, у калекцыю, найбагацейшую і найбуйнейшую ў Беларусі, увайшлі язычніцкія амулеты, хрысціянскія нацельныя крыжы, якія адлюстроўваюць духоўную культуру нашых продкаў. Яна была часткай іх жыцця на працягу амаль тысячагоддзя — ад ранняга Сярэднявечча да Новага часу. У большай колькасці калекцыя складаецца з хрысціянскіх старажытнасцей — нацельных крыжоў і крыжоў-энкалпіёнаў (складняў). Асобная група — язычніцкія амулеты, звязаныя з мужчынскімі заняткамі і ўяўленнямі пра жаночыя рысы. Гэта падвескі ў выглядзе сякер, амулеты ў выглядзе грабеньчыкаў, конікаў, якія сімвалізавалі дабрабыт. Што да хрысціянскага складніка збору, ён добра адлюстроўвае самыя разнастайныя культурныя і мастацкія ўплывы ў старажытнай і сярэднявечнай беларускай культуры. Тут можна пабачыць нацельныя крыжы "з грубай выявай Распяцця" і "скандынаўскага тыпу". Многія прадметы, наадварот, падкрэсліваюць агульнаеўрапейскі характар беларускага мастацтва.



Прадметы, што склалі гэтую калекцыю, пакуль не прайшлі поўнага навуковага апісання і апрацоўкі, але навукоўцы, мяркуючы па складзе збору, могуць сцвярджаць, што прыватны калекцыянер, у якога былі набыты прадметы, збіраў рэчы на працягу доўгага часу. Таму асабліва важна, што калекцыя не расцярушаная па розных установах, а ў поўным аб'ёме трапіла ў Нацыянальны гістарычны музей.

### Аблічча для гісторыі

Хто можа сёння дакладна апісаць, як выглядалі вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага Вітаўт і кароль польскі Ягайла? Якое адзенне насілі? Якія мелі рысы твару? Мы пра іх ведаем шмат — палітычныя і рэлігійныя погляды, падзеі жыцця, але ўявіць як асоб, якія рэальна жылі, пагадзіцеся, складана. Было. Але цяпер у Нацыянальным гістарычным музеі дзякуючы падтрымцы генеральнага партнёра — кампаніі *Japan Tobacco International* — з'явіліся іх рэканструяваныя постаці. Над гэтым унікальным праектам, што прадстаўляе сабой сімбіёз скульптуры і мастацтва касцюма, па замове музея працавалі сябры Беларускага саюза мастакоў: скульптар Павел Лук і мастак Юрый Піскун.

Як падкрэсліў Юрый Піскун, перад мастакамі стаяла задача выканаць вобразы і іх касцюмы так, каб яны былі як мага больш падобныя да людзей з пачатку XV ст. — і па матэрыялах, што выкарыстоўваліся пры стварэнні касцюма, і па тэхніцы яго выканання. І самае складанае — менавіта "трапіць у эпоху", каб вобразы адпавядалі і гістарычнай праўдзе, і ўяўленням пра іх.

У выпадку з абліччам Ягайлы гэта было зрабіць прасцей, бо па яго постаці захавалася багатая іканаграфія, у тым ліку і надмагілле на Вавелі ў Кракаве Што ж да вобраза Вітаўта, у распараджэнні мастакоў было толькі некалькі іканаграфічных і апісальных крыніц, але тым не менш у аблічы князя ўдалося падкрэсліць яго характар, а таксама адлюстраваць захапленне гатычнай модай.

***На здымках: частка калекцыі язычніцкіх амулетаў і хрысціянскіх нацельных крыжоў X — XVII стст.; рэканструкцыя гістарычных постацей Вітаўта і Ягайлы.***

# З лазерам — у музей

**Інстытут культуры Беларусі ў гэтым годзе распачаў серыю семінараў для паляпшэння дзейнасці музейных устаноў, вучобы спецыялістаў у галіне музейнай справы. Першы рэспубліканскі семінар-практыкум быў прысвечаны рашэнню актуальных пытанняў кансервацыі і рэстаўрацыі музейных прадметаў. Ён праводзіўся для галоўных захавальнікаў і спецыялістаў навукова-фондавых і рэстаўрацыйных аддзелаў музеяў дзяржаўнага падпарадкавання. Сваімі ўражаннямі ад праведзенай працы падзялілася загадчыца аддзела навукова-метадычнага забеспячэння развіцця музейнай дзейнасці Інстытута культуры Беларусі, кандыдат філалагічных навук Ірына Лапцёнак.**



**Марына ЯЎСЕЙЧЫК, фота Кастуся Дробава**

— Семінар стаў мерапрыемствам агульнарэспубліканскага значэння, ён праводзіўся па ініцыятыве Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Яго ўдзельнікамі былі супрацоўнікі больш як шасці дзясяткаў музейных устаноў краіны. Пры фарміраванні праграмы семінара-практыкума мы імкнуліся ахапіць не толькі найбольш актуальныя праблемы, звязаныя з кансервацыяй і рэстаўрацыяй музейных прадметаў, але і іх практычнае выяўленне і прымяненне на розных тыпах крыніц: творах жывапісу, кнігах, вырабах з дрэва, зброі. Галоўнае — наладзіць сувязь паміж навуковымі спецыялістамі, прадстаўнікамі акадэмічнай навукі і музейшчыкамі-практыкамі. На сённяшнім этапе важна не толькі вучыць "граматыцы", праводзіць планавую метадычную вучобу, але і пашыраць кругагляд музейных спецыялістаў у актуальных кірунках, даваць уяўленне пра развіццё новых тэхналогій.

Галоўнай "фішкай" семінара стала яго практычная частка. У фае Інстытута культуры Беларусі адбыўся майстар-клас з прымяненнем лазернага мабільнага спектрометра... Распрацоўка навуковых даследаванняў па прымяненні лазернага спектральнага мікрааналізу ў адносінах да музейных прадметаў пачалася ў 2003 годзе ў адпаведнасці з пагадненнем, якое было падпісана паміж Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнай акадэміяй навук Беларусі. Спектрометр — унікальны прыбор, які ў перспектыве плануецца выкарыстоўваць для экспрэснага мікрааналізу гісторыка-культурных каштоўнасцей, пры тэхналагічнай, гістарычнай і мастацтвазнаўчай экспертызе музейных прадметаў, для рэстаўрацыйных работ.

Як распавялі спецыялісты, метад лазернай ачысткі займае ўсяго паўтары гадзіны, хімічны ж патрабуе больш як месяца працы. Да таго ж, лазер дазваляе менш уздзейнічаць на прадмет. Прымяняецца ён у першую чаргу ў адносінах да ўнікальных музейных прадметаў.

Апрабацыя метаду лазернага экспрэснага мікрааналізу ўжо пачалася ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, Полацкім і Нясвіжскім музеях-запаведніках.

***На здымку: удзельнікі семінара падчас майстар-класа з прымяненнем лазернага мабільнага спектрометра.***

Прызма часу

Ірына ТУЛУПАВА

# У спасціжэнні зямнога

**Дасціпны, разважлівы суразмоўца, удумлівы слухач, арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, Апостальскі Адміністратар Пінскай дыяцэзіі, валодае беларускай, рускай, польскай, літоўскай, англійскай і італьянскай мовамі. Добра разумее ўкраінскую, славацкую, чэшскую і іспанскую. Сёння ён разважае менавіта пра сучасную культуру і маральнасць, пра нашу сцяжыну духоўнага ўзрастання.**

**Нарадзіўся будучы арцыбіскуп на зямлі, багатай сваёй гістарычнай спадчынай, у вёсцы Адэльск Гродзенскага раёна. Яго духоўная місія палягала ў розных гарадах і краінах, ён добра вядомы ў Беларусі і па-за межамі нашай дзяржавы. Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч з'яўляецца сапраўдным членам (акадэмікам) Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі, уваходзіць у спецыяльны савет па Еўропе пры Генеральным сакратарыяце Сінода Епіскапаў, у Кангрэгацыю па справах духавенства, у Папскую раду справядлівасці і спакою. З'яўляецца віцэ-прэзідэнтам Міжнароднай асацыяцыі рэлігійнай свабоды (МАРС). І — членам Рэспубліканскага грамадскага савета па маральнасці.**



**— Ваша Эксцэленцыя, як вы думаеце, чым прывабныя святы мовы і культуры? Чым яны могуць і павінны стаць для беларусаў?**

— Добра, што такая традыцыя існуе. Усім нам трэба вяртацца да сваіх вытокаў, да падмуркаў. Без падмуркаў не збудаваць дом!

Зірніце наўкола: вельмі часта дамы будуюцца, і шматпаверховыя, ды толькі сцены пасля трэскаюцца. А мы хочам будаваць новую Беларусь, і падмурак патрэбны не толькі эканамічны. Наша свядомасць і духоўнасць таксама шмат значаць. Узгадаем Дзень беларускага пісьменства — свята, якое дае магчымасць чалавеку паглядзець трохі назад. Убачыць, што было раней, пераканацца, што мы не распачынаем жыццё з чыстага ліста. Ёсць магчымасць паглядзець, што маем сёння, ды зазірнуць наперад. У Каталіцкім Касцёле існуе тэрмін, які вельмі актыўна ўжываецца пасля ІІ Ватыканскага сабору — "Nova et Vetera" — "новае і старое". Неабходна аб'яднаць традыцыю з новымі тэндэнцыямі. Такія мерапрыемствы могуць вылучыць нейкі напрамак у развіцці, вось чаму і арганізуюцца розныя выстаўкі, конкурсы.

**— Традыцыя шанавання высокадухоўнага мастацкага слова таксама ідзе ад глыбінь, яна пачыналася са скрыпторыяў, дзе перапісвалася найкаштоўнейшае. На ваш погляд, наколькі ж сёння запатрабавана мастацкае, прыгожае — як гаварылі на Беларусі, — "краснае" слова?**

— Ведаеце, сёння многія пераходзяць на сеціўную інфармацыю, больш карыстаюцца Інтэрнэтам. Але кніга застаецца кнігай, таксама як і газета — газетай. Яе можна ўзяць у рукі, пагартаць. Чаму Касцёл заахвочвае чытанне Бібліі? Здаецца, святар яе на памяць ужо вывучыў. Але чытаеш — і нешта новае для сябе адкрываеш. Не ведаю, ці адкрыў бы хто нешта новае праз Інтэрнэт. Але і мастацкая кніга патрэбна! І думаю, значэнне друкаванага слова будзе яшчэ ўзрастаць.

Вялікі Дастаеўскі казаў, што прыгажосць выратуе свет. Напэўна. Але сёння пра прыгажосць трошкі інакш думаюць, будуючы салоны прыгажосці. Ды забываюць, што такім салонам духоўнай прыгажосці з'яўляецца Касцёл, Царква.

**— Якія, на ваш погляд, тэндэнцыі пазначаліся ў кнігадрукаванні апошнім часам? Вось і цяпер мы размаўляем з вамі ў кабінеце, побач — шафа з кнігамі…**

— Кнігі я люблю, іх заўсёды трэба чытаць. Але раней прывезці з сабою Біблію было складана. А хацелася вучыцца, напісаць нейкую працу. Я вучыўся ў семінарыі ў Каўнасе, тады з Польшчы часцей прысылалі пасылкі на розныя адрасы. Я стараюся, каб у Беларусі як мага больш было рэлігійнай літаратуры на беларускай мове. Гэта патрэбна для Касцёла, для вернікаў, гэта спрыяе ўзбагачэнню беларускай культуры!

**— У свецкай літаратуры існуе такая праблема, як недахоп перакладчыкаў мастацкага слова. Як вырашаецца гэта ў Касцёле?**

— Мы таксама шукаем перакладчыкаў. Добры перакладчык — вялікі скарб. Аднак яны ўжо ёсць. Хачу сказаць, параўноўваючы сітуацыю з Расіяй, — там пераклады з лацінскай мовы на рускую было рабіць значна прасцей. Многае з слоўнікавага запасу можна было ўзяць ад Праваслаўнай Царквы. Тут, у Беларусі, працэс перакладу інакшы. Ён не толькі тэхнічны, не толькі мастацкі, але і ў нейкім сэнсе крэатыўны. Нейкія словы трэба вышукваць. Паколькі мы прытрымліваемся такой думкі, што пераклад найперш павінен быць дакладны, потым прыгожы. А мова з часам змяняецца.

**— На ваш погляд, што знакавае было ў кнігавыданні за апошнія гады?**

— Трэба сказаць, я заўсёды бываю на адкрыцці Мінскага міжнароднага кніжнага кірмашу. І бачна, як шмат выдавецтваў прыязджае нават з-за мяжы. Не гаворачы ўжо пра беларускія. Але найбольш з прафесійнага погляду я цікаўлюся рэлігійнымі выданнямі. І ў нас таксама ёсць выдавецтвы. Самае вялікае — "Про Хрысто", можна згадаць і гродзенскае выдавецтва. Кнігі літургічныя, якія неабходны для набажэнства, ужо перакладзены, і пераклады зацверджаны Ватыканам. Шмат з іх выдадзена. Кожны год з літургічных кніг мы выдаём дзве-тры.

У той жа час варта адзначыць: духоўныя кнігі пісаліся, пішуцца і будуць пісацца. Ёсць і часопісы, асабліва "Наша вера", якія змяшчаюць шмат сур'ёзных перакладных і арыгінальных артыкулаў. Гэта цешыць, што сярод нашых вернікаў і святароў ёсць шмат людзей, якія могуць пісаць.

**— Якія перспектывы моўнай палітыкі ў Касцёле? Цяпер шмат дзе набажэнствы вядуцца на беларускай мове, але ёсць і на польскай…**

> *25 кастрычніка ў Іерусаліме ў касцёле "Pater noster", дзе на сценах храма знаходзяцца таблiцы з тэкстам малітвы "Ойча наш" на шматлікіх мовах свету, была асвячоная адкрыта і беларуская шыльда. У мерапрыемствах з нагоды, якая стала невялічкім, але досыць значным дасягненнем у сцвярджэнні нашага нацыянальнага характару, узялі ўдзел каталіцкія біскупы, а таксама каля 150 пілігрымаў з Беларусі.*

— Я шаснаццаць гадоў працаваў у Расіі, і там набажэнствы ішлі на 13 мовах. Нават на фінскай гаворцы, на в'етнамскай, армянскай мовах. Каталіцкі касцёл — ад слова catolicos — сусветны, значыць, павінны аб'ядноўваць усіх. І ў Беларусі мы будуем беларускі Касцёл, а не англійскі. Да ведама: у той самай Англіі 270 парафій польскамоўных. І яны запатрабаваны! Але ніхто ў Англіі не называе Касцёл польскім. Таксама ёсць і імша на беларускай мове. Яе выдатна вядуць айцец Надсан і святары, якія з ім служаць. Значыць, ёсць людзі, якім гэта трэба. Але час ідзе, і моладзь менш разумее той жа літоўскай мовы. У нас у Мінска-Магілёўскай дыяцэзіі каля 90 працэнтаў набажэнстваў праходзіць на беларускай мове. Ёсць на польскай, літоўскай. У Гродзенскай дыяцэзіі ёсць святар, які валодае літоўскай мовай.

**— Вашы намаганні па стварэнні Гродзенскай семінарыі таксама мелі пад сабой глебу: яна — неабходны складнік у пабудове беларускага Касцёла?**

— Семінарыя — гэта сэрца дыяцэзіі. Ведаем жа мы, для чаго сэрца: каб функцыянавала кроў. Без крыві чалавек не зможа жыць. І Касцёл — таксама жывы арганізм і патрабуе сваёй крыві, такімі жывільнымі яе часцінкамі з'яўляюцца святары. І было жаданне як мага хутчэй заснаваць сваю семінарыю. Сёння дзякуючы гэтай семінарыі, таксама як і Пінскай, зроблена шмат. Калі дваццаць гадоў таму ў Беларусі было каля 50 святароў, то сёння ўжо каля 460, з іх каля 300 — падрыхтаваныя ў нас, і гэта дзякуючы семінарыі. Я мару таксама пра тое, каб у нас быў нейкі тэалагічны факультэт альбо тэалагічны інстытут, людзі маглі пазнаваць веру і не абавязкова пасля сталі святарамі, а былі людзьмі свецкімі, але ажыццяўлялі духоўна-асветніцкую дзейнасць. Як у Маскве, дзе быў заснаваны спачатку Каледж каталіцкай тэалогіі імя святога Фамы Аквінскага, тры філіялы якога разгарнуліся ў іншых гарадах; пасля ён быў пераўтвораны ў Інстытут філасофіі, тэалогіі і гісторыі святога Фамы, у які не рыхтуюць святароў, але выхоўваецца інтэлігенцыя, здольная адказаць на многія пытанні, што паўстаюць, да прыкладу, у тым жа Інтэрнэце. І гэта, каб нехта адказаў.

**— Як вы думаеце, рэлігійная свядомасць сучаснага грамадства пашыраецца? Альбо яна набывае нейкія павярхоўныя рысы, як быццам усе мы веруючыя і ведаем, што трэба асвяціць пэўныя стравы на свята — і ідзём з пакункамі… А ў іншыя дні ў храм не ходзім.**

— Я часам кажу, што калі б паставіць нейкі прыбор, які змог палічыць, колькі людзей ідуць у касцёл асвяціць пасхальную ежу, то ў нас было б столькі вернікаў! Добра, што хоць такім чынам прыходзяць да Касцёла, але тут пазначаюцца розныя падыходы. З аднаго боку, ёсць шмат людзей, якія хочуць шчыра пазнаць Бога. Згадаем, да прыкладу, пілігрымку Мінск — Будслаў. Трыста-чатырыста чалавек збіраюцца і ідуць у няпросты шлях. Сонца пячэ, і горача, і холадна, і спаць даводзіцца ў палатках, — а ідуць! Прычым, усе гэтыя мерапрыемствы — не нейкая чарговая тусоўка моладзі, а сапраўдны пошук Бога. Аднойчы ў нашу газету яшчэ ў Маскве напісала студэнтка Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Паходжаннем з багатай сям'і, яна сабралася з сяброўкай у пілігрымку ў Латвію. Ехалі да Рыгі цягніком. І ехала яна проста так, для баўлення часу. Але кожны дзень бачыла, як прысутныя адно аднаму дапамагаюць, як моляцца, які ў іх распарадак дня, і папрасіла хрост. А здавалася б, дарога дарогай! І тое ж самае робіцца ва ўсёй Еўропе!

Ва ўсім свеце цяпер як быццам аб'яўляецца дэмакратыя, але ж прымаюцца законы аб эўтаназіі альбо рашэнні аб штучным апладненні, гомасексуальных саюзах. Хто іх прымае? Тыя ж самыя хрысціяне! Гэта вялікі выклік нашага часу. Нашыя дзяды і бацькі перамаглі гэты выклік несвабоды ў свае часы. Але ці зможам перамагчы мы цяпер? Людзі хочуць жыць у свабодзе, але свабодзе ад Бога. А не свабодзе дзяцей Божых.

Мы ведаем, што нож патрэбен, каб адрэзаць лусту хлеба. Але ж нажом можна і забіць чалавека! Гэта таксама выклік часу, і вялікае поле дзейнасці не толькі для Каталіцкага Касцёла, але і для Праваслаўя. Сёння прайшоў ужо час раскідваць камяні — трэба іх збіраць. Прыйшоў час, каб заснаваць здаровы альянс нашых Цэркваў, каб мы разам маглі адказаць на выклікі часу.

**— Ваша Эксцэленцыя, а ці варта верыць у знаменні? Вялікдзень апошнім часам супадае: праваслаўны і каталіцкі. Можа, гэта таксама адмысловая падказка, як заклік да аб'яднання?**

— Так, у 2000 годзе мы ўступалі ў трэцяе тысячагоддзе —таксама было супадзенне ў датах. Гэта нейкі знак з неба. Уявіце: надыходзіць Вербная нядзеля — і ў Каталіцкім Касцёле, і ў Праваслаўнай Царкве, паўсюль галінкі вярбы… прыемна назіраць!

**— Наша стагоддзе па-рознаму называюць: яно і тэхнакратычнае, і глабалізаванае… Але тая ж навука вытлумачвае стварэнне свету, карыстаючыся іншымі паняццямі. Цяпер гавораць і пра існаванне вышэйшага розуму, у той час як рэлігія, вера прызнае найперш душу. Ці атаясамліваюцца гэтыя паняцці? Ці могуць яны суіснаваць у сучасным жыцці чалавека?**

— Мы выхаваныя ў такія часы, калі рэлігія была "опіумам для народа". Гэта сказаў Карл Маркс. Сёння ёсць кардынал у Мюнхене, прозвішча якога Рэйнхард Маркс. Ён таксама напісаў кнігу "Капітал". Яна распачынаецца ўступам "Ліст Маркса Марксу", дзе ён прадстаўляе хрысціянскі, каталіцкі погляд на гэтыя праблемы. Пэўна, сёння ўсё менш і менш людзей, якія кажуць, што рэлігія і навука несумяшчальныя. Многія людзі ведаюць і пра еўрапейскі цэнтр ядзерных даследаванняў — так званы ЦЭРН (абрэвіятура: CERN — **І. Т.**). Мне давялося там быць, я сам па спецыяльнасці інжынер. Пахадзіў і там, дзе ў наш час шукаюць антыматэрыю. А потым мы, рэлігійныя дзеячы, сустрэліся з вучонымі і задалі пытанне: як вы, людзі, якія спазнаюць таямніцы матэрыі, стварэння свету, магчымасці мадэліравання вялікага выбуху (андронны калайдар жа ствараў)… як вы, вучоныя, успрымаеце гэта? І адзін адказаў амаль прытчаю. Вось, да прыкладу, гадзіннік. Малпа глядзіць на яго з зацікаўленасцю: а што гэта такое? Узяла, бразнула ім аб сценку. Адваліўся шкельца. Яшчэ раз бразнула. Адвалілася стрэлка. Затым — колца… Вось і мы ў космасе часам уяўляем сябе такімі ж. Але ў навуцы заўсёды ёсць прынцып прычыны: нічога само па сабе не бывае. Адкуль узяўся гэты выбух? Навука толькі вядзе да лепшага пазнання веры, а вера — да развіцця навукі. Касцёл развівае навуку і культуру і развівае іх сёння.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота аўтара

**Ці ладзіліся раней у сталічных музеях экспазіцыі такога кшталту? Наўрад. Прынамсі, у мяне няма сумневу, што ідэя першай выстаўкі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ў Літаратурным музеі Петруся Броўкі — сапраўды арыгінальная. Дзякуючы ініцыятыве яго невялічкага калектыву на чале з маладым дырэктарам Таццянай Высоцкай здзейснены беспрэцэдэнтны эстэтычна-асветніцкі праект. Ён атрымаў назву “Пад напеў маёй зямлі” і прадставіў наведвальнікам унікальны скарб, які на працягу многіх гадоў беражліва захоўвалі супрацоўнікі музея: зробленыя рукамі іх матуль, бабуль, прабабуль саматканыя, вязаныя, вышываныя рэчы.**



# «Я помню хаціну дзіцячых гадоў...»

Пра тое, што сам гэты мінскі дом па вуліцы К. Маркса, 30, ацалелы ў віры ваеннага ліхалецця, уяўляе сабой гістарычную каштоўнасць не толькі як помнік гарадской архітэктуры, сведчаць мемарыяльныя знакі на фасадзе. Адзін з іх нагадвае: тут доўгі час і да апошніх сваіх дзён жыў народны паэт Беларусі Пятрусь Броўка. У 1980 годзе, адразу пасля яго смерці, па прапанове ўдавы Пятра Усціnavіча і пры падтрымцы тагачаснага першага сакратара ЦК КПБ П. Машэрава колішняя кватэра ў жылым доме стала Літаратурным музеем яе незабыўнага гаспадара. Сёння гарадская “паэтава сядзіба” захоўвае хатнюю ўтульнасць, поўніца сонечным святлом і цеплынёй, выклікаючы ілюзію няўтледнай прысутнасці рознабаковай творчай асобы П. Броўкі. Дух паэта і вучонага нібы не пакідаў прастору яго кабінета-бібліятэкі; дух беларуса-патрыёта і рамантыка нібы лунае ў інтэр’ерах пастаяннай экспазіцыі, сярод музейных палічак і вітрын, фотаздымкаў, разгорнутых кніг.

Выстаўка “Пад напеў маёй зямлі” размясцілася ў асобным пакоі. Да яе адкрыцця заставаўся нейкі час, і я не спяшалася туды зазірнуць: хацела азнаёміцца з музеем, у якім (трэба ж!) апынулася ўпершыню. Ля сцяны з партрэтамі паэтавых бацькоў заўважыла пад шклом кранальны “артэфакт” і ўспрыняла яго як своеасаблівы эпіграф да новай экспазіцыі. Увіцце сабе: гэта рэчы 1930-х гадоў (пояс з адмысловым узорам, пасцілка дая белая, з чырвона-чорным арнаментам, манішка для кашулі), вытканыя і вышытыя рукамі маці Петруся Броўкі Алены Сцяпанаўны. А яшчэ — гладкі драўляны чаўнок для кроснаў, зроблены ў тыя ж гады бацькам паэта Усцінам Адамавічам. Дык вось, у час вайны ўсё гэта схаваў у зямлі іх пляменнік Аляксандр Сыс. Рэчы “выжылі”, не страціўшы сваю чысціню, прыгажосць, прыцягальную энергетыку! А над музейнаю вітрынай — шчымлівыя радкі: “Я помню хаціну дзіцячых гадоў...”

Падчас адкрыцця выстаўкі многія з прысутных прыгадвалі сваю “хаціну дзіцячых гадоў”. Хіба ж можна было стрымаць сентыментальныя ўспаміны, захапленне традыцыямі продкаў, узлёт глыбінных патрыятычных пачуццяў, разглядаючы рукатворныя цуды пад прыцішанае гучанне запісу аўтэнтычных беларускіх спеваў!.. Таццяна Высоцкая, Таццяна Відзевіч, Зінаіда Дубовік, Наталля Чартовіч, іншыя супрацоўнікі музея, захопленыя ідэяй дастаць з сямейных сховаў прыгожыя традыцыйныя рэчы і паказаць шырокаму колу гледачоў, не мелі на мэце класіфікаваць гэтія рэчы паводле рэгіянальнай прыналежнасці, стылю або тэхнікі, ацэньваць ступень прафесіяналізму майстрых і адпаведнасці іх работ пэўным народным канонам. Відавочна, што галоўным у іх шчырым, спантанным памкненні было проста наблізіць да сённяшніх сталічных жыхароў дзівасвет спаконвечнай спадчыны, раскрыць яе мудрае харáство, падзяліцца яе жывой і гаючай энергетыкай, узрушыць душу і абудзіць нацыянальную свядомасць глабалізаваных “дзяцей асфальту і сусветнага сеціва”.



А нешта, мабыць, пераасэнсаваць і ў сабе. Афармляючы выстаўку, супрацоўніцы жаночага калектыву музея раз-пораз мусілі звяртацца па дапамогу да хлопцаў, што працуюць у гэтым жа доме ў іншай установе. І так “заразілі” суседзяў сваім энтузіязмам, што нехта з мужчын адшукаў ды прынёс для экспазіцыі ўласны вясковы “антыкварыят”: серп, драўляныя граблі.

Прысутныя на вернісажы з цікавасцю і замілаваннем углядаліся ў посцілкі, рушнікі, сурвэткі, абрусы, карункавыя ўзоры, адмысловыя “рышэлье”, яркія стракатыя ходнікі, абразы, вышываныя крыжыкам... Кабеты сталага веку ўспаміналі, як пададалася ім назіраць за працай вясковых жанчын, што ў пасляваенную нішчымніцу імкнуліся прыгожа апрануць і дзяцей, і сябе, аздобіць хату, зрабіць пасаг для дачок, а заадно прыахвоціць іх да ткацтва, вязання, вышывання. Назіраць і дапамагаць дзяўчаткам падабалася, а вось займацца карпатлівай працай напоўніцу ахвоты не было... Функцыянальныя, ужытковыя, побытавыя, але па-святочнаму прыгожыя (а калісьці — модныя!) рэчы, зробленыя 80, 50, дый 20 гадоў таму ў розных кутках Беларусі: пад Барысавам ды Бягомлем, на Піншчыне і Навагрудчыне, у Мінскім і Карэліцкім раёнах, зацікавілі вядомых спецыялістаў у галіне дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Алу Непачалович і Алену Доўнар-Запольскую: яны даводзілі, што ўбачанае на выстаўцы вартае і навуковага даследавання, і ўвагі студэнтаў, якія прафесійна займаюцца традыцыйным дэкаратыўна-прыкладным мастацтвам.

“Кожны прадстаўлены тут прадмет — своеасаблівая даніна памяці і павагі працавітым, любым, дарагім для нас людзям, якія жылі або, на радасць нам, яшчэ жывуць на сваёй зямлі. У кожным рушніку, абрусе, сурвэтцы, якія захаваліся да нашых дзён, адчуваецца святло мінулага і ўнутраная гармонія. Бабуля мая, Алена Антонаўна Бузо, пражыла 96 гадоў. Я кожнае лета бавіла ў яе — у вёсцы Макаўе, што ў Барысаўскім раёне, зусім побач з Бярэзінскім запаведнікам. Не так і даўно гэта было. Таму добра памятаю, як даматканы лён складвалі ў квадрацік, сцялілі на кладцы, білі. У халодный хуткай вадзе, пад гарачым сонцам, без хімічных парашкоў атрымліваліся бялюткія палотны!.. — кажа дырэктар музея Таццяна Высоцкая і працягвае: — Посцілкі, сурвэткі, рушнікі знаходзіліся ў хаце на самых пачэсных месцах: на сценах, лавах, буфетах, у “чырвоным” куце. Прычым такія рэчы ў беларусаў заўсёды не проста ўпрыгожвалі інтэр’ер, а з’яўляліся своеасаблівым абярэгам ад злых духаў, хвароб, няшчасцяў. Праз гэтую выстаўку мы выказваем гонар за сваіх працавітых і творча адораных продкаў, гонар за сваю гісторыю, за традыцыі сваёй краіны. Бо гэтыя традыцыі, увасобленыя ў такіх, здавалася б, сціплых, а насамрэч неацэнных духоўных каштоўнасцях нашых сем’яў, дапамагаюць адчуць непарыўную сувязь мінулага з сучаснасцю. І, мабыць, — з будучыняй, бо я спадзяюся, што гэтая гістарычная повязь не скончыцца на маім пакаленні, будзе перадавацца далей, што беларускасць абудзіцца ў глыбінях душ ужо нашых нашчадкаў”.

***На здымках: рукатворнае ўбранне хатняга кутка; сярод народных прылад для апрацоўкі лёну — пранік, біла, грэбень-часала, чаўнок, авалак, прас на вугаллях.***

**Вядучая праекта — Раіса Марчук.**

**Водгукі і матэрыялы дасылайце на e-mail: lim_new@mail.ru з панакай “Дзівасвет”.**

## З глыбінкі

## Нажніцы: паміж небам і зямлёй

**У краме-салоне “Скарбонка” Лепельскага раённага Дома рамёстваў адкрылася выстаўка выцінанкі “Матчына любоў” мясцовага майстра Галіны Жураўлёвай.**

У 2006 годзе Галіна Мікалаеўна ладзіла гарэзлівую выстаўку “Выцінанка. Вытраганка. Выразанка” са сваёй чатырохгадовай дачкой Ганначкай, якая, нягледзячы на малы ўзрост, таксама змагла прадставіць увазе наведвальнікаў некалькі ўласных работ. Тры гады таму Ганначкі не стала... І Галіна Жураўлёва вырашыла падрыхтаваць выстаўку, прысвечаную ўсім маці, якія страцілі дзяцей. Перажыванні ўвасобіліся ў чорна-бела-чырвоны вытанчаныя папяровыя вобразы. За простымі назвамі — “Боль”, “Душэўны храм” — усё, што зазвычай хаваецца ад чужых вачэй, але Галіна Мікалаеўна ўпэўнена, што пра гэта варта казаць:

— Нас шмат, і час не лечыць нашае гора, яно асядае болем на душу і становіцца цяжкай ношай. Бывае, што людзі побач не разумеюць наших учынкаў. І мне хочацца распавесці пра тое, што мы перажываем, каб паразумецца. Мы пачынаем жыццё нанова, бачым свет інакш: знаходзімся нібыта паміж нябёсамі і зямлёй. Душа рвецца наверх, да дзіцяці, а цела цягне да зямлі, дзе ты жывеш. Маці, якая любіць, аддасць жыццё за дзіцяці, а мы вымушаны жыць за сваіх. Ганна казала, што яна любіць усіх-усіх — “нават у жывоціку маім любоў”, — і я вырашыла, што павінна несці гэтую энергію ў сваёй творчасці, якая дапамагае мне раскрыцца.

**Алена ГАЛАЙ,**
**г. Лепель**

Казімір КАМЕЙША

## Апошні вырай

**Памяці Георгія Шыловіча**

*Вырай і птушыны і лісцёвы,*
*Але крыл чамусьці не відаць.*
*Хоць схілёны да зямлі галовы,*
*Вочы ад нябёс не адарваць.*
*Адпалалі і вясна, і лета,*
*У дажджах тапілася зямля.*
*І дарма у тым шнурку і гэтым*
*Я свайго шукаю жураўля.*
*Недзе ён азваўся ля Бягомля,*
*Сумна пракрычаў ля Налібок.*
*Лёгка на зямлі знайшоў яго я,*
*А згубіў далёка, ля аблок.*
*Будуць ціха ліставець сцяжыны,*
*Будзе плакаць лісцяная медзь.*
*Ціха адляцеў, а боль пакінуў,*
*Будзе і зямлі, і мне балець.*
*Можа, тыя крылы зглядзіць нехта,*
*Ценем прамільгнуць яны здаля.*
*Іх часова нам дае зямля,*
*Забірае ж назаўсёды неба.*

Дэканат філалагічнага факультэта і члены кафедры беларускай літаратуры і культуры Белдзяржуніверсітэта смуткуюць з прычыны смерці Георгія Уладзіміравіча ШЫЛОВІЧА і выказваюць шчырае спачуванне родным і блізкім пісьменніка.

Саюз пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуе ў сувязі са смерцю Георгія Уладзіміравіча ШЫЛОВІЧА і выказвае спачуванні яго родным і блізкім.

Калектыў РВУ “Літаратура і Мастацтва” глыбока смуткуе з прычыны смерці Георгія Уладзіміравіча ШЫЛОВІЧА і шчыра спачувае яго родным і блізкім.

Саюз пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуе ў сувязі са смерцю Анатоля Мікалаевіча КАЗЛОВІЧА і выказвае спачуванні яго родным і блізкім.

## Афарызм

*Каханне не памірае.*
*Яно вечна застаецца ў грудзях лікуючай тугою слоў,*
*Безнадзейным болем і непатольнай пяшчотай,*
*Калі нічым не дапаможаш, хаця сэрца аб зоры разбі.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі”, РВУ “Літаратура і Мастацтва”
Галоўны рэдактар Алесь Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ



Юрыдычны адрас:
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п.4а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
аддзел “Кніжны свет” — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп’ютарнага цэнтра РВУ “Літаратура і Мастацтва”.
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва”.
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
“Выдавецтва “Беларускі Дом друку”
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 1800 рублёў
Наклад — 2845
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 27.10.2011 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 5164
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12